Эдуард Валасевіч




БАЙКІ

МІНСК·„МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА“·1978

# РАК

У рэчцы, у нары, пад друзлаю калодай,
Жыў Рак, як Рак...
І разглагольстваваць любіў заўсёды
Пра роўнасць, брацтва і свабоду!
І еў, і піў усмак,
І спаў бы з асалодай,
Ды Ёрш падколваў, не даваў праходу:
— Зірніце на яго — класічны ён лайдак!
Якія выдае тырады,
А сам ад ленасці аж цінаю зарос...
Сядзіць у завадзі і рады!
Наперад не плыве, а пнецца задам...
Ды Рак цярпеў, пакуль аднойчы лёс
Яго на нейкую пасаду ды не ўзнёс.
Тут ён і закруціў вусамі,
Панесліся з ягонай глоткі
Скрыпучыя, пагрозлівыя ноткі:
— Цяпер распраўлюся з калючымі Яршамі!
Успомню крыўды і рахункі я звяду,
На крытыкаў вайной пайду —
Ім пакажу свабоду гэнымі клюшнямі,
Устаўлю ім мазгі, калі не ўставіў бог!
І за Яршамі наўздагон улёг.
Ды трапіў сам у нерат —
Яму ні ўзад, ні ўперад...

У нас такі ўжо лад:
Дэмакратычны, справядлівы,
Дзе крытыку заціснуць немажліва,
А паспрабуй — не будзеш рад.

*7.1.45*

## БАРСУК І ЛІСКА

Да Барсука, які займаў у лесе значны пост,
З'явілася Лісічка, распушыўшы хвост:
— Прывет! Да вас я маю справу.
І, расчыніўшы рыдыкюль,
На стол паклала Барсуку
Заяву.
Сама ж прысела на канапку,
Дастала пачак цыгарэт,
Пусціла дым, закінула на лапку лапку,
Прамовіла: — То не сакрэт,
Патап Патапыч вам вядомы —
Мне і сваяк, і добры мой знаёмы.—
І, памаўчаўшы, дадала: —
Прасіў ён, каб мяне на птушкаферму ўладкавалі...
Барсук узняўся з-за стала:
— Што вы сказалі?
Не ведаю, якой
Для вас Мядзведзь даводзіцца раднёй,
Але ў мяне ад Зубра дырэктыва:
«На птушкаферму Ліс не дапускаць!»
Шчасліва...
Прашу Патапычу паклон мой перадаць.

Калі па якасці і профілю не гожы —
Дык і пратэкцыя не дапаможа!

*4.2.45*

# ІНДЫК

Падаўся ў крытыкі Індык...
Забалбатаў: — Падрэжу птахам крылы,
Маё пяро адточана, як штык,
Агнём струменіць кроў у жылах!
Ушчэнт, на мэтлахі Салоўку раздзяўблю,
А то занёсся ён без меры,
Спушчу яго з нябёсаў на зямлю...
І, на пяньку расклаўшы стус паперы,
Шалёна застрачыў:
«Што Салавей маэстра — не давайце веры!
Даўно сябе ён перажыў:
І голас у яго слабы, бярэ фальшыва ноты,
Нікчэмны з выгляду, адпеты ён лайдак,
Вясною свішча, а зімой выкручваецца ад работы,
З яго карысці — на пятак,
Ні пуху і ні сала...
Вось Певень сапраўды мастак!
Гарласты! Выпраўка, што ў генерала!»
Затым ён на лапаткі Жаўрука расклаў,
Разнёс Дразда, Шчыгла, Сінічку, Канарэйку,
Змясіў з гразёю Івалгу, ў зямлю яе ўтаптаў,
Сароку ж, нам вядомую зладзейку,
А з ёй Варону, Дзеркача узняў да неба!
І, прачытаўшы опус свой,
Зарагатаў: — Вось як пісаць артыкульчыкі трэба!
Ну хто са мной
Тут пацягацца зможа?

Ад «крытыкаў» такіх ратуй нас божа.

*12.3.45*

## ДВА КАНІ

Воз угару цягнулі два Кані:
Карэнны — што ёсць сілы, пенай аж пакрыўся...
А Прысцяжны — ледзь варушыўся,
Хоць ты калом яго жані!
Як быццам толькі што ён з плуга...
То муляе яму
Хамут,
То лейцы, то падпруга,
То дапякаюць авадні,
І ён хвастом шалёна круціць...
То цяжкі воз,
То ад спякоты муціць,
То прэцца, недалуга, у авёс...
Не цягне сам, Карэннаму перашкаджае
Ды, шэльма, кпіць:
— Карэнны — у аглоблях спіць!
Ледзь ногі валачэ, пыл толькі узнімае,
А я за двух вунь жылле надрываю!
Калі ж прыехалі ў той двор
І гаспадар падкінуў сена,
Тут Прысцяжны імгненна
Убок Карэннага адцёр,
Запрацаваў зубамі так заўзята,
Аж узмакрэў, лайдак...

Працуе іншы абы-як,
А хапануць — аматар!

*3.4.45*

## ПУГАЧ І ПТУШКІ

На дубе, што над пушчай узвышаўся,
Пугач дупло аблюбаваў
І там прытон абаснаваў.
Удзень драпежнік адсыпаўся,
А па начах
На птаства дробнае наводзіў жах,
Чыніў зладзейскія свае расправы.
І не было, здаецца, на яго і ўправы,
Бо ён знянацку налятаў,
Калі ніхто яго нападу не чакаў.
То схопіць Вераб'я, то задзярэ ён Курапатку,
А то наскочыць на Грака.
Цярпелі Птушкі толькі да выпадку...
Зляцеліся і пачалі аднойчы рахавацца:
— Нас многа, ён — адзін. Чаго ж яго баяцца?
Мы злыдня на кавалкі разарвём,
Калі навалімся кагалам, грамадою!
І днём
Пайшлі рашуча на разбойніка вайною.
Грай узнялі страшэнны, грозны,
Аж пушча загула,
Загаманілі і дубы і сосны!
Пугач ад пераляку вылецеў з дупла,
Наўцёкі кінуўся штосілы
У нетры, у гушчар...
Але быў схоплены за крылы,
І мэтлахі яго ўтапталі у імшар.

Не страшна аніякая бяда,
Калі сцяной устане грамада!

*10.5.45*

## БЫК

На луг, дзе канюшына чырванню квітнела,
Напоеная ранішняй халаднаватаю расой,
Прарваўся Бык, вялізны, ашалелы,
І, ўбачыўшы багацце гэткае перад сабой,
Пачаў хапаць, давіцца,
Біць капытамі і рагамі рыць,
Аж пуза ўжо, як барабан, трашчыць...
Пара б спыніцца,
А Бык жарэ! А Бык хапае!
Ўсё болей храпы раздзімае!
Здаецца б, поле праглынуў, ды пад сябе падгроб...
Але ад болю Бык захроп,
Задыхаў шумна, цяжка,
Хіснуўся, на зямлю зваліўся важка,
Пусціў ён пену, з перажору акалеў...

Ад прагнасці ніхто дабра не меў.

*2.1.46*

# КАЗЁЛ І ЖАРАБЕ

Сівы Казёл, які пабачыў агародаў мноства,
Стаяў ды мэкаў млосна.
А Куры пра яго ўзнялі адразу аглушальны квохт:
— Ну і Казёл дзівосны!
— Ну і галаваты!
Цытату сыпле за цытатай,
Нібы з мяшка гарох,
Хоць перлы гэныя грабі лапатай!
Ён акадэмік, далібог!
Здаецца, з выгляду зануда,
А разбіраецца фундаментальна ў тых талмудах!
Цікавасць Жарабка рахманага ўзяла:
«Мо сапраўды ён з неба зорачкі хапае
І эрудыцыяй сваёй усіх здзіўляе?
Дарэмна б чутка не пайшла...
А ну-тка, дай зірну я на таго Казла!
Казёл вучоны — сапраўды не жарты...
Таму-сяму мне падвучыцца варта!»
І ён пусціўся з чатырох
Як мог!
Але Казёл вучоны
Пагардліва Жарэбчыка сустрэў:
— Ого! Чаго ты захацеў...
Гарэзлівы задужа, порсткі, ды зялёны,
Не маеш рог, ні барады,
Звяроў заморскіх знаеш малавата
І за мяжою не абцёрся ты,
Ніколі Малпы не чытаў трактата
І нават не знаём
З Аслом!
Куды табе ў навуках разабрацца,
Калі ты дамарошчаны авёс
Узносіш да нябёс!..
Скачы, блазнюк! Мне некалі з табой важдацца...
— Паслухай, стары чмут,—
Заўважыў Жарабок,— у галаве тваёй не густа,
Табе заморскае ўсё — цуд,
А сам грызеш айчынную капусту.

Акадэмічны не чапаў бы хлуд,
Ды мне выпадак прыгадаўся,
Як я з казлом двухногім сустракаўся.

*6.4.46*

## ХАМЕЛЕОН

Ў тэатры, парку, карагодзе —
Буркуе з жонкаю, вачэй з яе не зводзіць,
І захапляюцца дзяды і юнакі:
— Шчаслівыя! Мілуюцца, як галубкі...
А дома —
З-за ўсякай драбязы той «голуб» гарачыцца,
Да жонкі з кулакамі лезе біцца.

Ёсць у мяне такі знаёмы:
Ён
Ў залежнасці ад абстаноўкі,
Як хамелеон,
Змяніць умее нораў, колер афарбоўкі.

*5.7.46*

## АБ ЧЫМ ДВА ПАРСЮКІ ВЯЛІ РАЗМОВУ ЛЯ РАКІ

Два Парсюкі
Сышліся ля ракі,
І пацякла размова ад душы,
Хоць ты яе ды ў байку запішы.

— Здарова! Колькі год! Як маешся? Як жонка, дзеткі? —
Бадзёра рохкаў Віславухі да Рабога.—
Эге! Штось здаўся ты, нябога,
Хварэеш? Ці задужа завіхаешся каля суседкі?
Зусім закажанеў —
Лыч ды шчаціна!
Мо расказаў бы ў чым прычына.
— Ат... Жыву.. Ды лепей бы я адубеў...
На ферме гэткія парадкі —
Сам памяркуй, ці будзеш гладкі:
Дзіравы хлеў,
Бруд па калені
Ды раскрадаюцца кармы,
Не пеоражыць мне гэтае зімы,
А ты пра жонку, пра дзяцей пытаеш...
Ці ж абзавесціся сям'ёй магу?
— Ты, браце, песіміст! Занадта фарбы чорныя згушчаеш...
Навёў зялёную тугу...
Жыццё — цудоўнае! Даецца толькі раз!
Ну і бяры! Хапай што можаш!
Не вырвеш сам — табе ніхто не дапаможа,
Такая завядзёнка ў нас.
Я на жыццё гляджу аптымістычна:
«Тваё», «маё» — даўно ўжо адышло...
Цяпер фактычна
Усё агульнае. Ты гаспадар, запомні, за сталом!
Прэч сціпласць, сарамлівасць! Больш нахабства!
Усунуў у карыта лыч,
Паеў ад пуза. Потым іншых кліч.
Кажы пра роўнасць, салідарнасць, брацтва...
На свеце дужыя жывуць!
І я табе параю:
Не будзь разявай, цямця-лямцяй, бо затопчуць і затруць.
Бывай! Я да карыта паспяшаю!

На ўвазе ірвачоў я беспардонных маю.

*1.2.47*

## ПЧОЛЫ І ТРУЦЕНЬ

На пасецы ў вуллі завёўся Труцень хцівы,
Шукальнік лёгкае спажывы.
Нектар ён не збіраў,
З зары і да зары над кветкамі не завіхаўся,
А толькі на баку ляжаў,
Ды ўсё спрасоння лена пазяхаў,
На даравых харчах так атлусцеў, так ён разгадаваўся,
Што на яго аж страх глядзець:
Не Труцень, а — Мядзведзь!
Тады ён толькі ажыўляўся —
Як Пчолы з поля прынясуць узятак.
Ён тут як тут, раскрыўшы прагны рот,
Жарэ заўзята
І крытыку яшчэ наводзіць, абармот:
— Работнічкі... Ці ж гэна мёд?
Ён горкі, потам патыхае...
А слодычы і водару ў ім штосьці не хапае!
...Тут Пчолкі бачаць — справы дрэнь:
Гаруеш, дбаеш
Цэлы дзень
І дулю на талерцы маеш...
Гнаць трэба Трутня гэтага ў каршэнь!
І Пчолы на яго рашуча наляцелі,
Аж толькі мэтлахі ад дармаеда паляцелі
З вулля на дол.

Калі завёўся марнатравец у арцелі —
Бярыце прыклад з пчол.

*7.3.47*

## РАМА І ПАЛАТНО

Карціну выставіў на суд людскі мастак
Аб Еве і Адаме
У бронзавай масіўнай раме.
І грыз у старане нервова свой кулак:
Народ цікавіўся разьбой на раме адмысловай,
Аб палатне ж — ніхто ні слова.

Калі няма жывінкі, творчага натхнення —
Не выратуе твор і аздабленне.

*6.11.47*

## РУЧАЙ І ВОЗЕРА

У мяккіх берагах, замшэлых, топкіх,
Атуленае ад вятроў чаротамі, лазой,
Старое Возера залюбавалася сабой:
— Чаго мне мітусіцца і спяшацца некуды таропка?
Люблю і ўтульнасць я, спакой і цішыню..,
А некалі ж і я шумела, нібы мора!
І адлюстроўвала і неба вышыню,
І сонца, і начныя зоры,
І ўзлёт буслоў —
Чаго ў той маладосці не было!
А зараз мне навошта хвалявацца?
Магу патрызніць, падрамаць, папеставацца...
— Не так яно, бадай! —
Задорна празвінеў Ручай.—
Прыемна пражытым захапляцца,
Але ж у тым твая бяда,
Твая загана,
Што супакоілася надта рана,
Што ты цяпер — стаячая вада...
Што тыя жыватворчыя крыніцы,
Якія з-пад зямлі
Табе і моц і сілы некалі далі,
Праз глей не могуць да цябе прабіцца...
А зверху — тванню заплыло
Ды з кожным годам —
Ператвараешся ў смярдзючае балота...
А я, чарцям усім назло,
Струменем змрочныя працерабіўшы нетры,
Імкнуся ўдалячынь насустрач ветру!
З рачулкі станаўлюся мнагаводнаю ракой,
Ні днём, ні уначы не ведаю спачыну,
Спыніся я — і я загіну...

Жыццё ёсць рух, а не спакой!

*5.1.48*

## БУДАЎНІКІ І ПАДПАЛЬШЧЫК

Узводзілі будынак велічны будаўнікі
З граніту, шкла і нержавеючае сталі,
Каб ён стаяў трывала, на вякі,
Каб электрычнасцю і сонцам шыбы ззялі
І жыхарам цудоўны краявід
У будучыню насцеж быў адкрыт!
Каб шчасце тут само было гаспадаром,
Не госцем.
Такі чароўны будавалі дом,
Дом міру — не вайны, дабра — не злосці.
А ў гэты час, стаіўшыся за плотам,
У лапы згробшы факел, дынаміт,
Раз'юшаны сачыў бандыт,
Каб тым будаўнікам нанесці шкоду.
Счакаўшы трошкі,
Граміла пакрысе рассунуў дошкі
І ў шчыліну працінуў рыла.
Ды ў гэты міг рука
Будаўніка
За горла моцненька ўхапіла
Бандзюка;
І выпаў дынаміт, пагас адразу факел.

Той факельшчык прыціх, што пагражаў вайной...
На нас ішлі не гэткія «ваякі»,
А мы зраўнялі іх з зямлёй!

*7.1.48*

## ЗАКАХАНЫ МЯДЗВЕДЗЬ

Як у сухую грушу чорт,
Утрэскаўся Мядзведзь у Ліску...
Крытычны надышоў узрост,
Ён адчуваў, што блізка
Той час, калі аддасць канцы...
Каханне ж, думаў ён, чароўны стымул
Жыццёвага ўзнаўлення, росквіту, уздыму!
Дзяды зноў робяцца магутныя, як малайцы!
І ў юр пусціўся ён шалёны...
Ды дзе старому зладзіць з маладой?
Прыроды строгія законы,
І кожнаму адмеран тэрмін свой:
Падскоквала Лісічка ды тлусцела
На Мішкавых харчах,
Мядзведзь жа зператугі ў тэмпе сох і чах,
У момант футра пасівела,
І восені не дачакаўся,
Як дуба даў...

Вось так і дзед Міхал каля дзяўчат скакаў
І завіхаўся —
Пакуль яго інфаркт не спляжыў...
Не да кахання, калі снег на цемя ляжа!

*7.2.48*

## БАРАН

Прачуўшы, што музыкі у пашане,
Баран рашыў
Уславіць род баранні:
Ён запрасіў
Знаёмую Свінню, аўтарытэтнага Вала
І сябра лепшага свайго Казла.
І, выцягнуўшы недзе раздабыты
Барабан,
Загрукаў капытом сярдзіта,
Заблеяў нема і загаласіў Баран!
Аж хлева захадзілі сценкі,
Абваліцца, здаецца, дах...
Ў Казла на лоб палезлі зенкі:
— Вось дзе размах!
Вось галасіна!
Вось дзе закопан быў прыродны дар!
Што перад ім той Раберціна?
Піскрявы, і не больш, камар...
Давай-давай! Браточак, шпар!
Усцеш нас арыяй і акампанементам!
Ды тут суціх Баран
І звысака зірнуў на апанентаў,
Нібыта ўскочыў на Манблан:
— Ну як? Ці варты для эстрады я?
Як голас? Аркестроўка?
— Цудоўненька! — зарохкала, закалыхалася Свіння.—
Якое хараство! Якая апрацоўка!
Што за мелодыя! Ну век бы слухаць!
Да глыбіні душы, да слёз даняў...
Ды толькі Вол адзін маўчаў,
Нібы аглушаны абухам.
Яго бакі, шырокая спіна
Дыміліся ад поту,
Як быццам плуг цягаў з відна і да цямна.
А потым прамычаў: — Скажу табе не ўпотай —
Лепш не бярыся больш за барабан,
Баран!

*12.3.48*

## ДВА КУМЫ

— Здарова, кум Пятрок! Куды на рысаку так прытка?
На лесавывазкі? Ці ў сельсавет?
— Ты не ўгадаў, Мікітка...
Спяшаюся ў калгас «Рассвет»,
У сваяка майго вяселле,
А выгналі якога зелля!
Як хопіш кварту першака —
Дык ногі самі выбіваюць гапака,
Трашчыць сасновая падлога,
Душа пяе, што ў маладога!
А ты? Калі ні пагляджу —
У гноі поркаешся, як той жук...
Кідай лепш вілы ды сядай у санкі,
Махнём з табою на гулянку!
— Кінь клеіць дурня, Пеця, кінь,
Пакуль мароз ды санная дарога,
Вывожу гной пад яравы я клін.
Сам ведаеш: на агратэхніку надзея — не на бога.
— Навошта мне твае «азы»?
Па горла сыт. Не трэба.
Вазі, вазі свае вазы,
Пабачым, хто з нас з хлебам будзе ці без хлеба.
І, на Мікітку глянуўшы з нямой жальбою,
Крутнуў пушысты рыжы вус,
Ударыў лейцамі жарэбчыка Пятрусь
І знік, нібы віхура, за гарою.
...Кумы сустрэліся па восені ізноў:
Мікітка вёз з калгаснага амбара
Фурманку параконную дабра дамоў,
Пятрусь здабытак узваліў на карак —
Што зарабіў — дык тое атрымай!

Зрабі спачатку справу,
А там — гуляй
На славу!

*11.4.48*

## НОС

Мясісты, тлусты і кірпаты Нос,
Што красаваўся ганарыста на шырокім твары,
Аднойчы асядлалі Акуляры...
Зачмыхаў ён, як паравоз,
Разбушаваўся:
— Нахабства! Я не пацярплю!
Я Акуляры скіну! Рр-раз-дрра-блю!
Не для таго я гадаваўся,
Каб на мяне ды хтосьці сеў...
— Чаго ты,— запыталі Вочы,—
Ўсхадзіўся, ускіпеў?
Ці ж зразумець не можаш, ці не хочаш,
Што ты без Акуляраў ды без нас
Разбіў бы нюхаўку не раз...

Чынушка фанабэрысты дзярэ пыхліва нос!
І нават тых не прывячае,
Хто ад бяды яго заўсёды выручае,
Замест удзячнасці — разнос...

*12.3.49*

## ВОЎК

Па лесе пракаціўся слых,
Што Воўк святым зрабіўся:
Жыве ён на вадзе ды на карэньчыках сухіх,
Ад мяса адхрысціўся...
Пад корч забіўся,
Падцяў свой хвост
І на сябе наклаў вялікі пост.
Ад ранку і да вечара у модлах дні праводзіць,
Каб бог грахі старыя дараваў,
Калі зайцоў ён і авечак бедненькіх ірваў...
— Не можа быць! Хутчэй Зубра мая Зайчыха родзіць,—
Касы засумняваўся штосць,—
Чымся адмовіцца той Воўк ад мяса!
І асабліва да зайчаціны ён ласы...
Ды ў нас таксама вусы ёсць!
Вось скокну і пераканаюся я сам увачавідкі —
Ці ён святы, ці жывадзёр...
І Заяц прыткі
Да Воўка хуценька папёр!
Прыбег. Стаў старчмака ля воўчага бярлога.
Ды раптам чуе ціхі голас ён:
— Малюся я ўжо колькі дзён,
Каб адпусціў грахі, прашу я бога,
Ты ж, даўгавухі ветрагон,
Мяне штурхаеш на спакусу?
Надумаўся ты кпіць? Са мною жартаваць?
Маліся, ерэтык, лепш госпаду Ісусу...
Цябе я мушу пакараць!
І трапіў Заяц Воўку ў зяпу...

Ну як не прыгадаць
Нам рымскага святошу-папу?

*8.6.49*

## МЁД I РЭДЗЬКА

— Калі мяне ў мядку прыгатаваць —
Ласунку лепшага не адшукаць на свеце!
Заскачуць і дзяды і дзеці,
Гурман распешчаны мне дыфірамбы возьмецца спяваць,
Не адарвеш яго за вушы,
Абліжа пальчыкі і пракаўтне язык!
Смачней інжыра я і слуцкай бэры грушы!
— Чаго ты, Рэдзька, узнімаеш крык?
З мядком і я не харч, а — асалода! —
Прамовіў з градкі Агурок.—
Бо смак і слодыч прыдае мядок!

Амаль заўсёды
Увішны ферт-дзялок
Цану сабе рэкламай набівае
I на чужым гарбе ў рай выязджае.

*11.8.49*

## ПЯСНЯР І КАМАР

На дачу выехаў Пясняр, каб сіл набрацца,
На золку па балоце з стрэльбай паблукаць,
Не качак, дык варон крыклівых папужаць,
На траўцы паваляцца,
На спінінг палавіць у рэчцы акунькоў,
Галоўнае ж, каб напісаць з паўтысячы радкоў.
Ды як не напісаць? Краса вакол якая!
Дрымучы бор, луг ды рака,
Тут думка як арол лунае!
Па-творчаму свярбіць рука...
І наш Пясняр, аблюбаваўшы неяк зручную мясціну,
Усеўся пад разложыстай ляшчынай,
Дастаў паперу, карандаш
І ў фантастычны сігануў міраж...
Ды неўзабаве даляцеў зусім рэальны
Настырны, тонкі камарыны звон,
І не апамятаўся ён,
Як атрымаў удар кінжальны!
Узбух на лбе балючы гуз...
(Камар малы, ды ўкус ягоны ядавіты!)
Цяпер Паэту не да Муз...
Ён падае з нябёс, як верабей падбіты.

Ды што камар!
Укус бывае і змяіны...
Тады пясняр
Надоўга выбіт з каляіны.

*1.3.50*

## ПАН І АКІЯН

Грымеў разгневаны Вялікі Акіян,
Як горы снежныя, ўзнімаліся да хмараў хвалі,
Скалісты бераг сілай скаланалі!
Ды тут надумаўся плюгавы Пан
Утаймаваць абуджаную грозную стыхію:
Залез ён у ваду па шыю
І шквал давай спыняць рукамі...
Але ў імгненне у адно,
Як камень,
Падхоплен быў і кінуты на дно.

Кіпяць, клякочуць кантыненты,
Усюды нарастае вызваленчы рух,
Не прыглушыць свабоды дух!
Народны акіян змяце паноў дашчэнту!

*2.4.50*

## ЖАБА

А што, калі без сказу-пераказу
За жабры ўзяць, каго хачу, адразу?

Жыве
У дрыгве
За акіянам Жаба.
На розум, як і ўся яе радня,
Рапуха слаба...
Але няма такога дня,
Каб Жаба гэная не туркацела,
Каб не пускала бурбалкі на цэлы свет!
Усё счарніць яна б хацела,
Бо не сакрэт —
Ёй светлае, праменнае не па нутру.
І наклікае голасам яна атрутным
На Сонца і на алую Зару
Дзень судны...

Дзень судны будзе — што там ні кажы,
Тады ты, Жаба,
Беражы
Свае ўжо скабы!

*3.5.50*

## ХАЛІМОН

— Хвілінку, Халімон. Куды спяшаеш?
Звычайна ў гэны час ты спіш ды бачыш сны...
— Аб чым пытаеш?
Так закруціўся — клопаты адны.
Такія справы на сямейным фронце...
Ну форменны цэйтнот!
Адпачываю толькі на рабоце...
Падаў заяву на развод!
— Ты з глузду з'ехаў! — войкнуў Апанас.—
Пражыўшы з жонкай чвэртку века,
І гэткі выкрунтас?
Я за саліднага лічыў цябе заўсёды чалавека!
Смяяцца куры будуць з вас...
Ну дзе прычыны?
Ты растлумач мне, Халімон.
— Па-першае, мы розныя з ёй велічыні:
Вядомы дзеяч я! Грымлю на ўвесь раён!
На канферэнцыі, сімпозіумы вылятаю,
Не злажу, ўласна кажучы, з часопісаў, я газет,
То мой артыкул там, то тутка мой партрэт,
У прэзідыумах засядаю!
Сам ведаеш — аўтарытэт вялік!
А баба? Як была, такою засталася —
Малою сошкай у калгасе...
Ды на мяне яшчэ ўзнімае крык:
Што я зазнаўся,
У хаце ўстанавіў дыктат —
Устоі ўсе мае ну падрывае літаральна,
Парушаны былы кантакт...
І, рэзюміруючы фігуральна,—
Характарамі разышліся мы дыяметральна!
А па-другое, сітуацыя такая:
Патрэбна жонка маладая,
Каб мне стварала адпаведны фон!

Узнімецца такі тып на арбіту,
І для яго — не пісаны закон!
Закончаны падонак, хоць і знакаміты...

*9.6.50*

## ВЯТРАК І ГУСАК

— Твайму я лёсу не зайздрошчу, небарак,—
Сказаў з ухмылкай Ветраку Гусак,—
Махаеш крыламі, натруджана рыпіш,
Дарма спрачаешся ты з ветрам,
У неба ты ніколі не ўзляціш...
А я — адразу узнімаюся ў паветра!
А захачу —
Бягу, плыву, ныраю,
А як на золку галасіста гагачу?!
Талентаў я багата маю!
— Та-а-а-ак,
Надзяліла шчодрая цябе прырода! —
Згадзіўся з Гусаком Вятрак.—
А я заўсёды,
Бач, адно раблю:
Кручу важкія жорны ды зярно мялю...
А ты, даруй за шчырае прызнанне,
Хоць лётаеш, ды як?
З Арлом няма і параўнання!
Такі ж з цябе бягун, плывец, спявак...

А падагулім так:
О дылетант-універсал, не выхваляйся!
Лепш ты адным займайся,
Ды ў гэтай справе будзь мастак!

*6.8.50*

## ААЗІС І КАРАВАН

Ішоў здалёку Караван...
Мінаў саланчакі, сыпучыя барханы:
То ціхім быў пясчаны акіян,
То ён шалеў, як апантаны!
Сляпіла вочы, засцілала шлях,
І з ног збівала лютая віхура,
І дыхалі агнём і неба і зямля —
Ажно смыліла скура...
А людзі йшлі стыхіі насупор
І дзень і ноч да запаветнай мэты
Па сонцы і па бляску зор
Бясконцаю дарогай гэтай...
Амаль без харчу, без глытка вады,
Адной ідэяй дужыя і верай,
Не прыпыняючы хады —
Усё наперад і наперад!
І да Аазіса дайшлі.

Калі ідэя сэрца акрыліла,
Яна зрабілася непераможнай сілай
І ёй нішто не страшна на зямлі!

*4.1.51*

## КВАХТУХА

Тапырылася колькі дзён, квахтала,
А яйка не знясла, якое абяцала.

Сярод людзей квахтух такіх нямала.

*1.2.51*

## БУЛЬДОЗЕР І ВАЛУН

На бальшаку каторы год
Ляжаў Валун, прыносячы нямала перашкод.
Як трапіў ён туды — ці варта разбірацца?
Паспеў і мохам абрасці,
Ён замінаў і ехаць і ісці,
А да таго ж пачаў і выхваляцца:
— Я — пуп зямлі!
Са мною лічацца! Мяне баяцца!
Перада мной павінны прыпыняцца
Ды абмінаць старонкай па раллі!
Тым часам па дарозе,
Ракочучы, ішоў Бульдозер
І з бальшака сапхнуў той камень пад адхон...

Усё, што стрымлівае рух наш пераможны,
Адкінем прэч, нібы валун дарожны,
Такі жыцця закон!

*5.2.52*

## ХАМА

Хама па вушы закахаўся...
Ну што тут дзіўнага? Ён хлопец малады.
А надышла вясна. На рэках лёд падаўся.
Запахлі мёдам, зацвілі сады —
І з любаю сваёй ён запісаўся!
Ну і лады! Гадуйце дзетак.
Не ведайце бяды...
Ды дзе там!
І года нават не мінула,
Як нашага Хаму ў дугу сагнула...
Ну проста не пазнаць: схуднеў,
Не стаў галіцца,
На дзесяць год, здаецца, пастарэў...
(Што значыць, брат, з наскоку ажаніцца!)
А жонка не на жартачкі ўзялася за Хаму,
То ласкай, то слязьмі, то крыкам:
— Што ты за муж?!
Я жыць жадаю з шыкам!
Усё на мне каб ззяла і зіхцела,
Каб я на золаце піла і ела!
Узяў мяне — дык дглядай!
Такога дурня пакахала...
Так прамахнулася! А-яй!
За мной ганяліся два генералы!
Мне абяцалі не жыццё, а — рай...
А я ім — дулю паказала!
За гэта ножкі мне павінен цалаваць,
Выконваць прыхмаці мае, жаданні,
Утулам і камфортам акружаць...
Цаніць сапраўднае каханне!
— Але ж дзе грошай столькі ўзяць адразу? —
Стагнаў збянтэжаны Хама.—
Манетнага ж двара ў мяне няма...
— Затое ўніверсальная ёсць база!
Паварушы мазгамі, шалапут...
Тут
Жонцы дагаджаць Хама стараўся
Да той пары, пакуль сам не папаўся...

А жонка як? З ім села у турму?
Яна шукае новага Хаму.

*5.1.53*

## МІМОЗА

Закончыла Мімоза інстытут,
Ёй выдалі дыплом, павіншавалі
І з радасцю ў калгас накіравалі,
Ды не прыйшоўся даспадобы ёй маршрут:
— З сталіцы —
Ды ў сяло?
Знайшлі дурніцу...
Вось не паеду ўсім назло!
Не для таго я столькі год над кніжкамі карпела,
Зубрыла хімію і дыямат,
Каб я у вёсцы дзесьці кажанела,
Таўклася у гразі ля парасят...
Калі у міністэрстве мне не знойдзецца пасады,
Калі не дапамогуць сваякі —
Дык хопіць у мяне і спрыту і прынады
Для ўсіх шукальнікаў маёй рукі!
І вось праз тыдзень там які
Крычалі госці «Го-о-ррр-ка!» маладым,
Віно ракой плыло, звінелі чаркі!
Але развеяўся пахмелля дым...
І пачаліся ў хаце сваркі,
Папрокі, лаянка, грызня.
(Вядома, цяжка дужа
Знайсці за тыдзень неблагога мужа.)
І абарвалася гульня:
Мімоза не ўтрывала
І за парог каханага прагнала!
Сама ж уладкавалася ў буфет,
Віно, гарэлку адпускае,
Наводзіць манікюр і іншы марафет,
Мяняе
Кавалераў, як пальчаткі,
А пра калгас і ў сне не ўспамінае...

Ёсць дзяцюкі і ёсць дзяўчаткі:
У інстытуты шчэмяцца пішчом,
Каб мець дыплом.
А там, як кажуць,— прывітанне!
З падносам гойсаюць у рэстаране...

*7.2.53*

# СЛОН І СУКА

Даўгія біўні ўбачыўшы ў Слана,
Сука ад зайздрасці заскавытала,
Пабегла з пысы у яе сліна:
— Ах, калі б гэткія клыкі ды я прыдбала,
То на шматкі б парвала
Усіх звяроў ад Кошкі да Ільва!
— Дурная галава! —
Стары Крумкач ёй каркнуў з клёна,
Які нашэсце памятаў Напалеона.—
Рост велізарны, сілу мае Слон,
Бо мірны ён,
Не для нападу біўні у яго — для абароны!
І шчэрыць зубы, гаўкаць досыць,
Бо ты наложыш галавой...

Дзе тыя, што на нас ішлі вайной?
Сабакам сена косяць!

*6.1.47*

## ЗАЯЦ І ВЯРБЛЮД

Праштрафіўся і цягу даў Вярблюд,
А тут загад: аддаць яго пад суд!
І каб схапіць Вярблюда,
Ва ўсе канцы
Панесліся лаўцы!
У Зайкі шэранькага з перапуду
Душа адразу ў пяткі,
Ён кінуўся наўцёкі без аглядкі,
Аж толькі пыл адзаду закурэў!
— Куды нясе цябе, нябога?
Ці за табой імчыцца Леў? —
Спытаўся Суслік у Касога.—
А мо пажар? Ці навадненне?
— Горш, братачка! Калі не хочаш гора мець,
Пазбегчы хочаш непрыемнага здарэння —
Няма чаго ў нары сваёй сядзець,
Хапай
Манаткі ды ўцякай!
Ідзе аблава на Вярблюда...
— Зайчо, ты з пераляку з'ехаў з глузду,—
Тут Суслік рассмяяўся,—
Апомніся! Чаго спужаўся?
Ці ж ты раўня Вярблюду?
— Куды мне! Але далей ад бяды...
Вось схопяць — і пад суд,
Ну і даводзь тады,
Што Заяц — не Вярблюд...

Самастрахоўшчык Заяц той зіркаты?
Магчыма. Ды і так бывае:
Начальнік дроў бярэма наламае,
А ты ўцякай, бо будзеш вінаваты...

*6.8.47*

## КАЛУН І САМАРОДАК

Ля рэчкі загараў вахлак,
Каменьчыкі перакідаў, гроб на сябе пясочак,
І трапіўся яму на вочы
Велічынёй з кулак
Зіхотны Самародак:
— Ого! І створыць дзіва ж гэткае прырода!
Яму ж цаны, відаць, няма!
Вось падшліфую крыху грані —
Такі ён зыркі, прамяністы стане,
Што і вясёлка пачарнее перад ім сама!
Вярнуўшыся дахаты,
Ён на кавадла камень той паклаў,
Кувалду ў рукі ўзяў
І... размахнуўся зухавата!
Бясспрэчна, што ад Самародка-самацвета
Застаўся б толькі жвір,
Каб выпадкова да суседа
Не завітаў тут майстар-ювелір.
— Пабойся бога! — вахлака ён за руку схапіў.—
Ты Самародак ледзь не загубіў...
Каб рэдкасныя шліфаваць каменні —
Патрэбны струмант тонкі, вопыт, разуменне!
Кувалдаю ж тваёй крышыць, дарэчы, толькі валуны...

Шмат самародкаў самабытных у народзе,
Ды росквіту іх часам шкодзяць —
Калуны!

*4.6.48*

## ТАРАН

У летні дзень, у дзень праменны
На дно азёрных чыстых вод,
Дзе рыб сям'я жыла сумленна,
Разумна, дружна і адменна,
Упаў раптоўна, быццам лот,
Як камень з неба, як хвароба,
І без душы, і без вантробаў,
Сухі, прасолены Таран...
Сплыліся рыбы і наперабой загаманілі:
— Што за шайтан?
— Ну й экземплярчык падпусцілі...
— Навёў на нас нуду...
— Ні сэрца, ні мазгоў, ні племені, ні роду...
— Адкуль? З якога броду?
— Ускаламуціў толькі чыстую ваду!
— Ды ён чужак паганы!
Яму не па нутру
Ні нашы поспехі, ні планы,
А хваліць тую ён пару,
Калі саліўся дзесь за акіянам...
...І рыбы [illegible] вадаёма
Яго адразу выперлі, вядома.

Адкрытых, скрытых, дробных, самавітых —
Мы выкрыем усіх наймітаў,
Каб нашаму жыццю не шкодзілі яны,
Як рыбе ў возеры падкінутыя тараны.

*11.7.48*

## ЗОРКІ, МЕСЯЦ І СОНЦА

На небе Зорак безліч зіхацела,
Бляск несучы жывы з глыбінь Сусвету
На зямлю.
У момант гэты
Галай скамянелай
Павольна ускаціўся Месяц:
— Ну хто з вас, Зорачкі, так ясна свеціць?
Вы чуеце, як мне пяюць натхнёныя паэты?
Як шэпчуць закаханыя «люблю!..»?
Як салаўі разносяць срэбраныя трэлі?
— Прыгожы ты,— яму мігнулі Зоркі,—
Ды толькі
Каб Сонейка святла не адбіваў,
То гэтак бы не ззяў...

Сэнс байкі вы, напэўна, зразумелі?

*19.2.51*

## БУРБОН

У людзі выбіўся Паўлюк.
У нашы дні яно зусім не дзіўна,
Што селяніна сын — ды кандыдат навук,
Мы гэткае вітаць павінны!
Ды справа не у тым. Пайшоўшы угару,
Ён ад бацькоў адразу адцураўся:
«Ці ж я да іх у батракі наймаўся?
Хай дзякуюць, што з іх я болей не дзяру!
Ну нарадзілі, гадавалі і адукавалі...
Але Амерыкі яны не адкрывалі,
Бо павялося ад Адама гэтак,
Каб клапаціліся бацькі пра дзетак...
А я ж — адзіны ў іх сынок!
Уласна кажучы, іх шчасцейка і слава...
Дык не ж! Што ні пісьмо — то скарга, то наскок!
А ёсць у іх на тое права?
А імейкам якім плюгавым ахрысцілі!
Аж прыкра гаварыць: «Паў-люк»,
Нібы я нейкі цецярук...
Хоць шарыкамі крышку б пакруцілі!
Імя мне трэба пагучней:
Напалеон!
Бурбон!
Пам-пей!!!»
...Але ж ці ведалі бацькі, ці снілі,
Што сын іх стане «ка-ры-фей»!
Яны ў жыцці ніколі не мудрылі
І зараз жалкавалі толькі аб адным:
Што хоць сынок сваю машыну мае,
А іх праведаць не жадае,
Што дом бацькоўскі стаў яму чужым...

Не дай жа бог нам мець такога сына:
Хоць і вучоны ён,
Але ж дубінаю-дубіна,
Закончаны бурбон!

*6.6.51*

## ДАВЕРЛІВАЯ ВАВЁРКА

Занылі у Вавёркі зубы,
Разнесла, скасабочыла шчаку,
Пякельных не стрываць пакут,
Хто раіць пажаваць кары старога дуба,
А хто з шалфею прылажыць кампрэс —
Той справай, той парадай
Дапамагчы Вавёрцы рады,
Успалашыўся лес!
Але нішто Вавёрцы не дапамагае,
Ні днём ні уначы
Яна спакою ні хвілiначкі не мае,
Ад болю нельга уцячы...
Хоць галавой аб елку біся...
Тут нехта ёй параду гэткую падаў:
— Вавёрачка, ты да Ваўка звярніся,
Бо ён дантыст, якіх і свет не знаў!
Залечыць хутка зубы...
Паверыла Вавёрка і знайшла там згубу,—
З касцямі праглынуў яе драпежны звер.

Парады слухай, ды не кожнай вер.

*7.6.53*

## ПРАЛІЧЫЎСЯ

Калгасны кладаўшчык Нупрэй
Жыў у дастатку:
Меў дом, карову, свінаматку,
Авечак, гусак і курэй;
Да хлеба быў і мёд і сала,
Але Нупрэя падмывала,
(Ён без таго не мог заснуць!)
Каб дзе яшчэ не пацягнуць...
Аднак праз тую прагнасць сам быў пакараны:
Калі пшаніцай засявалі клін
І завіхаліся у полі ўсе старанна,
Нупрэй украў чувал адзін,
І, зерне па двары рассейваючы жменяй,
Казаў ён з захапленнем:
— Няхай уволю куркі, гускі ды індычкі
Са смакам падзяўбуць пшанічкі!
...Назаўтра ж рана-рана —
Падохлі птушкі як адна...
(Зярно пратручана было гексахлараням.)
Нупрэй аж стогне: — Ой, мая віна!
І трэба ж гэтак памыліцца?
Хто мазгаўню мне зацямніў?
Схапіў
Не той мяшок пшаніцы...

Не квапся на грамадскае, жыві ты з мазаля,
Бо кара не міне хапугу-круцяля.

*3.2.54*

## НІЧЫПАР

Нічыпар атрымаў зарплату
І нёс яе цалюткую дамоў,
Бо планаў у яго было багата:
Сыночку восьмы год пайшоў,
І выпраўляць пара яго у школу,
А хлопчык хоць не голы,
Але у гэткі урачысты міг
Патрэбна ж нейкая абнова —
Касцюмчык ці партфельчык адмысловы,
(Бо сын Нічыпара не горшы за другіх!)
А жонцы на зіму — пуховая хусціна.
(Дарэчы, жоначку сваю ён шанаваў
І шчыра дбаў,
Каб з густам апраналася жанчына.)
Так, думкамі харошымі заняты,
Нічыпар грошы нёс дахаты.
Ды раптам ледзь яго не збілі з ног:
— Нічыпар! Дарагі зямляк! Дай абдыму! Дай пацалую!
Вось дык сустрэча, далібог!
Прычына ёсць для сабантуя...
Як пагляджу, ты па-ранейшаму — прасцяк,
Дабрак!
І знешне мала чым змяніўся.
Ну, крыху пасталеў...
Канешне, ажаніўся,
Дзетачак займеў?
— І ажаніўся я, і сына маю!
— Так-так. Віншую і вітаю...
— А ты працуеш дзе? — Нічыпар запытаў.
— Уга! Шмат хамутоў я памяняў!
Цяпер мастак я вольны... без заняткаў...
Дык, кажаш, ажаніўся, братка,
І жонка слаўная асоба?
А сын, як ты, герой?
Хадзем па чарачцы кульнём «Асобай»
І, як сябры, пагутарым з табой!
...Вядома, ад такой прачуленай тырады,
Нічыпар наш размяк:
— Ну калі так...
Я рады...
І пачалася «шчырая» размова там:
Кілішак за кілішкам, шкляначка за шклянкай,
Ледзь упраўляецца ля іх афіцыянтка,
Нічыпар лік згубіў грашам,
Па галаве нібы малоцяць цэпам...

— Яшчэ нам дзвесце грам з прычэпам!
І дзюбні за сустрэчу сам!
Франтавікам
Ніколі не пашкодзіць
Саракаградусны бальзам...
...Але ці трэба тут даводзіць?
Нічыпар гэтак насцябаўся,
Што у вачах двaіцца пачало...
Ледзь-ледзь дахаты ён дабраўся,
Што зарабіў — як ветрыкам змяло!

Дык памятай заўсёды:
Старых сяброў шануй, вітай,
А п'яніц — пазбягай,
Бо трапіш і не ў гэткую прыгоду!

*2.3.54*

# ПРЫГОДЫ ЗАЙЦА

Байка ў трох частках

## 1. Ад варот — паварот...

Зубру заяву Зайка напісаў
(Напэўна, дапякло, відаць, нагараваўся,
Калі харобрасці набраўся!)
І да асілка паскакаў
На золку:
«Няхай у справе разбярэцца толкам,—
Дарогай Зайка развважаў.—
Не можа быць, каб ад мяне хвастом
Ён адмахнуўся...
Ідзе зіма. У кожнага ёсць дом.
І толькі я тулюся
З сямейкай пад кустом,
Пакуль, як кажуць, не загнуся...»
— Прывет, Касы! Куды так рана? —
Спытаў у даўгавухага Барсук.—
Ці стрэслася бяда з табою нечакана?
— Ды не! З жытлом пагана.
Заяву, вось, Зубру нясу...
— Ці-ка-ва!
Дай бог, каб скончылася добра справа,
А калі ён цябе турне?
— Ты што, Барсук! Пра Зубра думаць так нягожа,
Мой лёс яго кране,
Ён, безумоўна, дапаможа!
Бо дапамог Ваўку, Лісе і Рысі...
— З кім ты раўняешся, стары?
Перахрысціся!
У іх клыкі ды кіпцюры...
...Барсук як у ваду глядзеў:
Не дапусцілі Зайку у Зубровыя харомы,
Бульдог як бура на Касога налядзеў:
— Ты хто? Адкуль? І па пытанню ты якому?
— Дды-ды-ды я нна-конт ква-тэз-ры,—
Залепятаў пераляканы Шэры.
— Што-што?! І глупствам гэткім турбаваць
Каго? Зубра?! Ці на плячах ёсць галава?!
А ну-тка, забірай свае паперы! —
І Зайца выпіхнуў за дзверы...

## 2. Удача

Мінула часу шмат,
Вады сплыло багата...
Замест Зубра ўжо Лось абраны ў верхнюю палату,
Змяніўся і прыдворны штат.
І тут
Успомнілі пра Зайца:
— Гэта ж абсурд!
Дакуль ён пад кустом будзе туляцца?
Калі да Зайца з ордэрам Ганчак з'явіўся,
Касы за сэрца аж хапіўся:
— Як?!
Можа, памылка тут якая?
Мне асабняк?!
Старая, чуеш? Ну дзе ты там, старая?
Вось зажывём мы нармалёва:
Набудзем тэлевізар каляровы,
Ў пакойчык кожны стыльны гарнітур...
— Цур! Цур! —
Старая зашыпела.—
Ты ідыёт! Вар'ят!
Чаго гарланіш ашалела?
Ты хто — фінансавы магнат?
Абставіць гэткую кватэру
Патрэбна грошай шмат!
А дзе ж твае, мой любы, асігнацыі?
— Ды я у зорку веру!
Вазьму і выйграю па аблігацыі!
— Ну і дзівак! —
Зайчыха засмяялася старая.—
Ты выйграеш, як свісне Рак...
— Што ні кажы, а я на лепшае надзею маю!

## 3. Трыумф Зайца

— Ці чулі? Заяц даў банкет!
Ого-го-го! На цэлы свет!
Панапіваліся да белае гарачкі...
— Ды ну?!
Пэўна, брахня. Падначкі...
І слухаць не хачу ману!
— Ды не брахня! А ісціна святая!
Сам быў,
І еў, і піў...
А як кватэра выглядае!
Уга! Абставіў, як персідскі шах —
Усё блішчыць і ззяе!

У люстрах, дыванах...
— Кінь! Ты за каго мяне прымаеш?
І «абстаноўка», і «банкет»,
А хутка скажаш «дача»...
— І дача! Пра дачу гаварыў сусед.
— Дык што — па шчупаковаму загаду
Тут Зайцу гэткая удача?
Скарб адкапаў? Заняў высокаю пасаду?
— Ды не! Не тое, не другое і не трэцяе...
— А што ж тады?
— Ды выйграў ён нарэшце!
— Няўжо? І ёсць шчаслівчыкі на свеце...
А тут чакаеш доўгія гады
І замест «Волгі» ці машыны пральнай —
Аловак выйграеш або кручок вязальны...

## Замест маралі

— Што?! Заяц выйграў і трыумф святкуе?
Ўсё можа быць. Тым больш у байцы...
З чым і віншую
Зайца!
Ды тут з народнага дадам:
Калі бядняк гаруе —
Ніхто не бачыць і не чуе...
А заспявае, затанцуе —
Зайздроснікі узнімуць тарарам!

*4.7.54*

## НЕ ВЫТРЫМАЎ

Гавораць недарма ў народзе,
Што й сонейка на ўсіх не ўгодзіць.

Сцяпан Захаравіч — дабрэйшы чалавек!
Зайдзі — дасць і начлег, і смачна пачастуе,
Для госця нічагусенькі не пашкадуе —
Удзячны будзеш век.
Ды і не дзіва. Бачыў ён вайну.
Рос пад гарматнымі ствраламі.
Еў лебяду. Асмужан быў паходнымі кастрамі.
Але уліп вось у гісторыю адну
Цераз гасціннасць гэту...
Аднойчы уваліўся ў хату нейкі фрукт:
— Сцяпан Захаравіч, з прыветам!
Што? Не прызнаў мяне, стары сябрук?
А можа, ты зазнаўся?
Мне міны прэснай не рабі...
З табой калісьці я, браток, займаўся.
— Не ўспомню нешта, хоць забі,—
Збянтэжаны Захаравіч шырока усміхаўся,—
Прайшоў жа не адзін гадок...
— Прыехаў я на працу афармляцца,
Пакуль знайду сабе куток,
Каб па вакзалах не валяцца —
Ў даведачным бюро твой адшукаў я адрасок...
Бадзягу прытулі і пакармі талкова!
— Аб чым размова...
Скідай хатуль ды распранайся
І на канапе гэтай размяшчайся.
...І госць зажыў. Ды так,
Што хутка утварыўся кавардак,
Хоць гаспадар сам з хаты вымятайся:
Прывёз бабульку, жонку ды сясцёр,
Заняў і дом, заняў і двор.
Лютуе
Госцева радня,
Няма спакою ані дня!
Захаравіч нервуецца, гаруе —
Не адпачыць і не папрацаваць.
А тут свая кабеціна ўзялася падпякаць:
— Заўсёды ў нас хто-небудзь ды начуе...
Ператварыў кватэру у вакзал! —
І ў слёзы... Бацюхны, скандал!
А «госць» жыве і месяц, і паўгода,

І, каб прыдбаць уласны кут,
Ён не прымае ўжо заходаў...
А ўрэшце і зусім распеуразаўся:
— Я гаспадар таксама тут!
Мяне не выселіць ніякі суд,
Бо я законна прыпісаўся!
Сцяпан Захаравіч як бомба узарваўся:
— Што-о-о? Мы бачылі такіх прыблуд!
І, расчыніўшы дзверы,
Павыкідаў нахабніка і хэўру...

Сумлення у каго няма,
Хто ў агарод ваш суне рыла,
К тым далікатнасць прымяняць дарма,
Там дзейнічай з пазіцый сілы!

*12.9.54*

## ЮБІЛЕЙ

Свой творчы юбілей
Спраўляў Мацей...
За трыццаць год літаратурнай працы
Наплёў нямала ён рыфмованых лапцей!
Затым надумаўся за п'есу ўзяцца.
Сяк-так накрэмзаў і аддаў у друк,
І, хоць заган у ёй хапала,—
Сышло Мацею гладка з рук,
Бо п'еска тэму актуальную ўзнімала...
І вось на юбілей прыйшлі майстры:
Празаікі, паэты, драматургі, крытыкі і байкаробы,
І спрэчкі распаліліся вакол Мацеевай асобы
Да самае зары:
— Ён у паэзіі — мастак! —
Грымелі драматургі хорам.—
А п'еска — неданосак, брак...
— Як вам не сорам?
— Які з яго пясняр?
— Ён вершаплёт, рыфмач-сухар! —
Ў адказ гудуць паэты.—
Хай драматургам ён пакуль не стаў,
Але ж не без падстаў
Пісалі некаторыя газеты:
«...Надзея
На Мацея
Ёсць!»
А у паэзіі — залётны госць.
І невядома, чым бы скончылася спрэчка,
Каб прымаўкі народнай не згадалі:
«Ні чорту качарга, ні богу свечка!» —
З чым юбіляра і павіншавалі...

*16.11.54*

# ЯНОТ І КРОТ

Пра крытыку пяе той-сёй, як салавей:
Прыгожа, міла — толькі слухай!
А зачапіць яго пасмей —
Ён пракаўтне цябе, нібы сабака муху...

Праходзіў у арцелі «Футра» сход:
З дакладам справаздачным выступаў Янот,
Прыводзіў лічбы і цытаты,
Казаў, якія прамарцель панесла страты,
Чаму не выканалі план
І у далейшым як пазбегчы ўсіх заган...
Зрабіў Янот даволі лоўка справаздачу,
Затым спыніўся бегла на задачах,
І, як заўсёды,
Аб крытыцы ён дэмагогію развёў!
О, тут язык яго бы млын малоў,
Ён балбатаць з імпэтам мог, з ахвотай:
— Смялей бічуйце недахопы!
Хай крытыка ідзе ад мас, з нізоў,
Увагі не звяртайце на пасады, на асобы,
Каб поўсць ляцела з-пад зубоў!
Мы крытыку любіць і шанаваць павінны,
Бо гэна сродак верны і адзіны —
Супроць чынуш, хапуг, балбатуноў,
Зладзюг і іншых марнатраўцаў...
— Вось сапраўды дзе прынцыповы падыход! —
Аж загарэўся праўдалюбца Крот,
Звярнуўшыся да Зайца.—
Даўно збіраўся я пагаварыць начысціню:
Янот усю сваю радню
Сабраў у нашую арцель,
Што ні работнік — то круцель:
Тут і бухгалтар, і рахункавод,
І кладаўшчык, і экспедытар —
Шарашкіна кантора, дзе ўсё шыта-крыта...
І, папрасіўшы слова, на трыбуну ўзняўся Крот,
Разнёс ушчэнт Янота-старшыню,
Яго шматлікую радню,
Махлярствы, што рабіліся употай.
«Ну,— думаў Крот,— Яноту старшынёю не бываць!»
Калі ж пачалі новае праўленне абіраць,
Вавёрка і Бабёр,
Лісіца
Ды Куніца,

А з імі Тхор —
Усе гарой за сваяка Янота!
І нават Заяц, што Крату нядаўна спачуваў,
Паціху лапку ўзняў.
Аж вылаяўся Крот: — Ну і брыдота!

А што далей, вы б знаць хацелі?
Скажу, бо гэта не сакрэт —
Янот Крата прагнаў з арцелі,
Каб той «не падрываў» яго «аўтарытэт»...

*6.1.55*

# ТУЛЯГА-МУЖ

— Ізноў апоўначы дамоў з'явіўся? —
Спрасонак жонка упікнула мужа.—
Ад звычак шчэ старых не адвучыўся?
— Спі-спі. І не шумі задужа...
У нас быў справаздачны сход,
Даклады, палкія дэбаты.
Стаміўся. Ледзь прыдыбаў я дахаты,
У горле перасохла і засмяг дашчэнту рот.
У хаце ёсць кампот? —
Зманіў ён жонцы, як заўсёды.
— Кампоту захацеў?
А там папросіш соды...
Хоць пастыдаўся б! Вунь, як бубен, аблысеў,
Хлусі, ды ведай меру!
Нябось завёў
З завіўкаю цяцеру
І закруціў любоў...
— Вось прычапілася! Застракатала, як сарока! —
Выкручваўся, як вуж,
Туляга-муж.—
Не дасць ступіць і кроку...
Не жонка — бюракрат!
Прыходзь з работы ёй у тэрмін акурат!
У нас адказная, запомні, праца,
Не то што ля гаршкоў на кухні аціраццa...

Я думку выкажу не новую:
Туляг падобных сустракалі вы,
Што з хворай галавы
Ды вернуць на здаровую.

*14.1.55*

## СТРАУС, КЕНГУРУ І БОМБА

Пра бомбу вадародную наслухаўшыся жахаў,
Да Страуса прыбегла Кенгуру:
— Дай валяр'янкі кроплю, бо памру!
Аж млее ўсё нутро ад страху...
Што нарабілі на Бікіні!
Калі хто на Аўстралію вось гэткую дурніцу кіне —
Ад нас не застанецца й паху...
Яна ж страшней за вогненны вулкан!..
— Пустое мелеш, дарагая,
Хто даляціць да нас праз акіян?
А даляціць — дык наша хата з краю...
Пад крыльца я галаваньку схаваю!

Ёсць дзеячы такія за мяжой,
Якія Страуса і Кенгуру нагадваюць сабой.

*7.2.55*

## ЗЯЗЮЛЬЧЫН СЫНОК

Малінаўцы ў гняздо Зязюля яйка падлажыла
І паляцела ў белы свет —
Яе прастыў і след...
(Дзяцей яна ніколі не расціла.)
Малінаўка ж ад рання да начы,
Як вылупіліся малыя птушаняты,
Не можа і хвілінкі адпачыць,
Лічынкі носіць, машкару, зярняты —
Сямейку трэба ж пракарміць!
А больш за ўсіх адзін заўжды крычыць:
— Галодны я! Галодны!
«Ну і дзіцё! Гарласты, нібы Грак,—
Карміліца ўздыхае,—
Ніколі не напхае
Свой валляк...
Мне аж неверагодна,
Што гэна мой сынулька родны...»
...А выхаванец, паднабраўшы сілы,
«Братоў малочных» выкінуў з дупла,
Каб аднаму быць ля стала.
Малінаўка па дзетках доўга галасіла,
Але суцешылася ўрэшце тым
У горы,
Што уцалеў, астаўся у гняздзе жывым
Адзін сынок, і ў старасці ён будзе ёй апорай.
Ды спадзяванні марнымі былі:
Калі «сыночак» акрыліўся —
Ён «фі-і-і-іць!» з гнязда і змыўся...

Хоць мы пра птушак сказ вялі,
Але фактычна ж упікнулі
Тут боўдзілу, што выракаецца матулі.

*3.3.55*

## АРХІТЭКТУРНЫ ЦУД

Што лазня неабходна — нечага агітаваць...
На сесіі пастанавілі:
Аб'ект няхітры тэрмінова збудаваць!
І архітэктару аднаму даручылі
Праект распрацаваць.
— Ого! Будзьце упэўнены, праблему гэту
Я вырашу, што ахне свет!
Свой падыход ў мяне, свой метад,
Такі праект
Ствару,
Што у стагоддзях не памру,
І песні пра мяне складуць паэты!
...Праз колькі зім і лет
(Мы гэта не лічылі)
Праект
Будаўнікі ажыццявілі.
І што за лазня выйшла! Проста цуд!
Антычны храм, здаецца, ўзняўся тут!
Калоны ззаду, спераду калоны,
На даху рымскі ўвесь сенат,
І Дэмасфен тут з Цыцэронам,
І Сакрат.
Зіхціць, праменіць, адлівае
Са сцен і гнейс, і малахіт,
Базальт, і мармур, і граніт,
І медзь, і нікель, і крышталь,
І нержавеючая сталь —
Аж дых ад хараства таго займае!
— Вось дзе памыемся, папарым плечы! —
Далоні паціралі жыхары.
А як хапіліся — у лазні нестава печы...

Тут не патрэбны каментарыі, сябры.

*12.3.55*

## МЕТАМАРФОЗА

Умоўна скажам Ікс, звычайным быў пісарчуком,
Быў сціплы, ставіўся да спраў з гарэннем,
Заўважылі яго, і ён заслужана пайшоў на павышэнне!
І тут той Ікс задраў свой нос кручком!
Ідзе і пад сабой зямлі не чуе.
Не прызнае старых сяброў,
Не адгукаецца на «будзь здароў!»,
А ляпні па плячы — залямантуе:
— Што за фамільярнасць?
Я панібрацтва не люблю!
Я — гэна Я! Я — папулярнасць!
Анархіі не пацярплю!
Дыстанцыю трымайце!
Ін-тэр-вал!
І рапарты пісьмова падавайце!
Тут служба, а не карнавал...
Кітайскаю сцяной гатовы ад народа ён адгарадзіцца!
Лягчэй к міністру трапіць на прыём,
Чым да яго у кабінет прабіцца...
А быў жа простым ён пісарчуком!

Сапхнуць яго ці не сапхнуць —
Я не раблю прагнозаў...
Спакою думкі не даюць:
Як у наш час такая можа быць метамарфоза?

*3.4.55*

## ХІТРЫ ХОД

У трэст лясны спусцілі дырэктыву:
«Паменшыць упраўленчы апарат!»
Надзьмуўся Цецярук пыхлівы:
«Вось дык загад!
П-ш-ш-ш... от указанне...
Як выканаеш план, вытворчае заданне,
Калі патрэбна скарачаць,
О божа мілы,
Каго? Намеснікаў Сыча
Ды Дзеркача!
Гэна ж паплечнікі мае! Апора! Сіла!
Тут варта самаму памазгаваць,
Прадумаць дэталёва,
Каб у зарплаты фонд укласціся абавязкова
І кадры верныя мне захаваць!
У міністэрстве яўна палку перагнулі...»
І, выклікаўшы сакратарачку Зязюлю,
Прамовіў строга:
— Не дапускаць нікога!
Дзяржаўнай справаю заняты я!
А ледзь схавалася Зязюлька за парогам,
Прыцмокнуў смачна: — Ох, і сакратарка ёмкая мая!
Ці ж лёгка з гэткай развітацца?
Лепш зробім хітры ход,
Што нават рэвізор Удод
Не здолее да ісціны дабрацца...
І надзяўбаў загад:
«У адпаведнасці з дасланай дырэктывай,
У мэтах эфектыўнай працы калектыву —
Вызваліць з пасад
Па скарачэнню штатаў:
Трох Дзятлаў-лесарубаў,
Дразда, Чыжа ды Голуба за грубасць...»
— Вось для намеснікаў і выкраіў зарплату,
І пад Зязюлькай не падсек я сук!

Ці не сядзіць між вас падобны Цецярук?

*4.4.55*

## КАЛАЎРОТ

— Адкрыў! Адкрыў! — раздаўся гучны крык,
І з кабінета, нібы куля,
Імкліва вылецеў дзядуля.—
Адкрыў урэшце, трасца пабяры! —
Усклікнуў ён яшчэ раз пераможна.
— Дзе? — Што? — Каго? — Калі? —
Пытаўся у старога кожны,
Разявіўшы ў здзіўленні рот.
— Ка-лаў-рот!!!
— Ды дзе вы, бацюхна, жылі? —
Усе зарагаталі.—
Ці з Месяца упалі?
Адвеку калаўрот вядомы на Зямлі...

Ёсць «вынаходнікі», «вучоныя» такога роду:
Сядзяць у кабінетах колькі год,
Жывуць, ядуць і п'юць за кошт народа,
А «адкрываюць»... калаўрот!

*3.5.55*

## ТОДАР-МАРАЛІСТ

Быў Тодар з маладосці хватам,
На ўсю акругу весялун, спявак,
Кружыў галовы і кабетам і дзяўчатам
І выпіць быў не дурань, а мастак!
Ого-го-го! Тады ён копацí даваў...
Аж гай шумеў!
Але ж і Тодар не з жалеза —
Здароўе праматаў,
Ссівеў,
Замест зубоў з'явіліся пратэзы...
І тут ён маралістам стаў:
Заўзятым гэтакім прыхільнікам вады,
Такім фанатыкам-аскетам,
Што дзе там!
Няма ратунку ад яго маралі маладым:
На кірмашы, у лазні, у сталовай —
Усіх пілуе, распякае гарлапан!
І ў немаўлятка ён знайсці гатовы
Тысячу заган...
(Хоць сам, між іншым, час ад часу
Настрой свой узнімаў не квасам...)
І вось рашылі хлопцы выкрыць маралiста,
Як кажуць, вывесці ханжу на чыстую ваду,
Бо слухаць надакучыла нуду.
Запрошан ён у госці ветліва, ўрачыста!
Сабе віна у чаркі налілі,
А Тодару — крэмсоды.
І пачаліся тут прыгоды...
Ледзь да паловы адпілі,
Як маралiст адразу усхадзіўся:
— Вы што? З мяне надумаліся, гіцлі, кпіць?
Ці ж я сюды з'явіўся,
Каб нейкую бурду салодзенькую піць?
А ну, падаць хутчэй з гарэліцай бутэльку!
І вокам не паспелі дзецюкі міргнуць,
Як Тодар пляшку змог набгом кульнуць,
І быў гатоў — п'яны у сцельку...
Ды шчэ буяніў, рваўся да віна!
Але пашкадавалі Тодара-балбатуна:
Знялі абутак, распранулі і — ў пасцельку...

Калі ты сам на свеце награшыў —
Не мерай жа усіх на свой аршын.

*28.5.55*

## ГУСАК-СПРЫТНЮГА

Гусак задумаў стаць вучоным мужам!
Не так яго прывабілі навукі,
Як той акладзец зацікавіў дужа:
«Плыве і ладная манета кандыдату ў рукі!»
І, ўзяўшы пёрачка, Гусак
Так
Дысертацыю пачаў прыблізна:
«Я канстатую: Бусел — то не Шпак!
Па значнасці і па маштабнасці вялізны,
Знішчае Жаб, Гадзюк, Вужак,
Няма карысней ад яго на свеце птушкі!»
І расхваліў Гусак Бусла,
Як не хвалілі нават і Арла!
Ды неўзабаве Бусел паляцеў з вярхушкі...
Напэўна, даў у нечым маху,
Бо заняла
Яго пасаду іншая ўжо птаха.
Аднак
Гусак
І тут не разгубіўся:
«На Бусле звання кандыдата я дабіўся,
Чаму ж на Бусле мне ступені доктара не зарабіць?
Раней хваліў яго, цяпер пачну граміць!»
І кажуць, доктарам Гусак зрабіўся,
Адзначыўшы банкетам перамогу!

Ратуйце нас ад гэтакіх пісак,
Якія прадаюць сумленне за пятак:
Няма ў іх за душой ні кропелькі святога.

*9.6.55*

## ТРУСІК-РЭЦЭНЗЕНТ

Лось мемуары напісаў...
Не прозай нуднаю — гекзаметрам класічным,
Якім яшчэ Гамер у век антычны
Герояў і багоў навекі услаўляў!
Заўважым тут: высакародны Лось
Не вытрымаў дакладна ўсе каноны —
Дзе рыфму уляпіў,
Дзе рытм згубіў
І прапусціў цэзуру скрозь.
Але ж ці пісаны Ласям паэзіі законы?
Вось неяк у Зубра сабраліся лясныя жыхары:
Мядзведзь, Барсук, Лісіца,
Воўк, Рысь, Вяпрук і іншыя звяры,
І нават Трусік змог туды няпрошаны зашыцца...
Як водзіцца ў такіх выпадках,
Па чарачцы ўзялі,
І, натуральна, гутарку аб мемуарах завялі:
Хто рэжа праўду-матку,
А хто выказваецца кругла, гладка...
Пайшоў па лесе шум,
Узняўся гоман.
— Якая хватка!
Якая глыбіня! Якая важкасць дум!
Ды так не напісаць ніколі і нікому,—
Прагаўкала Ліса, крутнуўшы ўзрушана хвастом.
— Вядома,
Сваечасовы, актуальны том,—
Воўк выскаляе зубы,—
А вокладкі якія? З дубу!
— Манументальная калода...—
Бурчыць Мядзведзь пад нос сабе,—
Але... ні пчолак тут табе,
Ні мёду!
І раптам піск раздаўся з-пад стала,
Дзе Трусік пасля чаркі апынуўся:
— З любым паб'юся аб заклад —
Я мемуары разнясу! Клянуся!
Бо то не твор, а, выбачайце,— гной...
— А ты,— ўсміхнуўся Зубр,— герой!
Ну-ну, скачы дамоў, з Ласём распраўся...
І Трусік дома за пяро узяўся,
Ад працы аж змакрэў ягоны лоб...
Так пад пяньком ён і захроп!
Назаўтра ж, ледзь прадзёршы вочы,
Успомніўшы, што ён набалбатаў,

Трус аж падскочыў!
Жах гэтакі апанаваў,
Такія дрыжыкі напалі,
Што вусны самі зашапталі:
«Прапаў! Прапаў! Прапаў!
О божухна, дапамажы сухім мне выбрацца з вады!
З рэцэнзіяй, парай, куды падзецца?
Спаліць? Звяры заўважаць дым...
Пусціць па ветры? Яшчэ Ласю на вочы пападзецца.
Не мінаваць тады
Ліхой бяды.
А у мяне ж малыя дзеці...»
І тут надумаўся: «Рэцэнзію лепш з'есці...»
Так і зрабіў!
І панігірык напісаў узнёслы у газету,
Што роўнага Ласю — няма нідзе паэта!
(І на капустку зарабіў...)
Але з тае пары
Штось сталася у Трусіка са шлункам:
Ледзь пра рэцэнзію гаворку завядуць звяры,
Як нападае на яго бягунка...

Калі твор ацаніць узяўся ты,
Дык не глядзі на лысіну і на пасаду,
Сячы у вочы матку-праўду!
Не бегай, як той трусік, у кусты...

*9.6.55*

## ГРАФАМАН

«Гаршкі не богі лепяць!» —
Сказаў сабе саноўны Графаман.
Засеў і... накруціў «раман»!
А кансультанты вочы слепяць,
Ламаюць галаву ды уздыхаюць:
«Як далікатней адпісаць,
Каб ён паперу перастаў псаваць?»
Задачка сапраўды цяжкая!

Такім, дальбог,
Што ні тлумач — як ад сцяны гарох...

*9.7.55*

## ПЕВЕНЬ-ВЯРЦІХВОСТ

Калгаснік меў курэй багата:
Бялюткіх, шэранькіх, рудых,
Чарнявых, вогненных, стракатых,
Заплылых тлушчам і худых,
Па росту розных і па масці...
А «па мужчынскай часці» —
Тут адчуваўся востры недахоп,
Бо пеўніка адзінага, якога куркі мелі,
Каршун аднойчы кіпцюрамі згроб,
І сакатушкі бедныя асірацелі...

Калгаснік пеўніка пашкадаваў-пашкадаваў,
Ды, як гаворыцца: што з воза ўпала —
То прапала...
Ён на калёсы мех антонавак усклаў
І на кірмаш адправіўся ў нядзелю,
Там Пеўня новага прыдбаў,
Прыгажуна, вы б толькі паглядзелі:
Высокі, нібы конь,
Хвост адлівае майскаю вясёлкай,
Не грэбень, а — кукарда, пер'і з шоўку,
Гарачы, як агонь!
А шпоры? Шаблі! Вочы, бы ў арла!
Пастава генеральская! І голас басавіты!
Яму прырода ўсё дала:
Адно — глядзі сваёй курынай світы...
А куры? Куры ад такога Пеўня
Прыйшлі ў экстаз, у захапленне!
За ім усюды ходзіць чарада...

І захлынула Пеўня нашага гардыня:
— Што куркі? Шэрасць! Пхе... Нуда!
Вось на двары суседнім... Гуска-гаспадыня —
Гэна смак!
Паважная, як пава, гладзенька, бялютка,
Чырвона дзюбка і высока грудка!
А муж яе — стары Гусак...
Ці ж зладзіць гэткі хрыч ды з Гускай маладою?
Ёй бравага падай героя! —
І... ф-фыр-р-р! цераз паркан,
Ко-ко-ко-ко! — пайшоў бачком на Гуску!
Ды з будкі выскачыў Палкан,
І Пеця-вярціхвост патрапіў на закуску...

Ну, а мараль якая?
Падалей ад спакус!
Бо атрымаецца канфуз,
Дабром распуснік не канчае...

*7.7.55*

# ЗЯЦЬ І ЦЕШЧА

Марыля Цітаўна вярталася з базару.
Быў ліпень. Сонейка пякло.
А ў кошыку было
Ля пуда ўсякага тавару.
Ад поту нітачкі на ёй няма сухенькай.
Гады. Не па плячы цяжар.
(Відаць, дачушка «цаца» у старэнькай,
Дый зяць той без душы, сухар:
Інакш не выправілі б кволую матулю на базар.)
Але старая кошык прыцягнула
Сяк-так дамоў
І ля акенца стомленая прыкархнула,
Тут скразняком яе і працягнула...
(Не маладая ж кроў!)
І... занядужала старая:
Злягла. Гарыць. Ўжо трызніць пачала.
Ніхто і ўвагі не звяртае.
«Сваё ты, цешча, аджыла!
Дай бог пражыць нам столькі год.
Тут маладзейшага і то згінае:
То галава баліць, то сэрца, то жывот...» —
Зяцёк так разважае.
Але старая ачуняла. Хвор перамагла.
Праз тыдзень тупала ад печы да стала.
А трасца прычапілася да зяця,
І ён бы ногі працягнуў,
Каб цешча ля яго не завіхалася, як маці:
Начамі цэлымі, не ведаючы сну,
Кампрэсы клала,
Паіла зёлкамі ды нечым націрала,
І вышкрабаўся ён з бяды.

І ты не вечна малады,
І не мінае хвор нікога...
Дык заўсягды —
Шкадуй нядужага, шануй старога!

*8.8.55*

## НОВЫ ХАМЕЛЕОН

Якісьці бэйбус з патламі Тарзана,
Швейцарам выпхнуты нарэшце з рэстарана,
У клуб заводскі заблудзіў...
Грымела музыка. За парамі мільгалі пары.
Кружыла шчасце маладых і радасныя мары —
Баль навагодні у разгары быў!
Ды нечакана
Гэты госць нязваны
Кашу заварыў:
Пачаў куражыцца ён, да дзяўчат чапляцца,
З хлапцамі задзірацца,
Пусціў у ход адразу кулакі...
Яму намялі б добра тут бакі,
Але Тарзана за каўнер дружыннікі ўзялі,
І, як ён ні ўпіраўся,
У аддзяленне адвялі.
І пратакол складаць па форме пачалі,
А бэйбус толькі ухмыляўся...
І што за дзіва? Ледзь глянуўшы ў ягоны бок,
Дзяжурны засвяціўся:
— Ды гэна ж Кузьміча шаноўнага сынок!
Ускочыў. Казырнуў. Замітусіўся.
Скамечыў пратакол.
Шпурнуў пад стол.
Імгненна выклікаў машыну.
Праводзіў. Памахаў рукой:
— Са святам Кузьміча, яго чароўную сябрыну!
Бывай здаровы! Бог з табой!

Бацькам заслужаным і гонар і пашана!
Але за іх шырокаю спіной
Хай не шукаюць сховішча сыночкі-хуліганы.

*9.8.55*

3*

## УДАРНІК І ГЕРОЙ

Адвёз у дом радзільны жоначку Іван,
А сам пачаў у хаце гаспадарыць.
Быў у такарным рамястве ён не прафан
І спадзяваўся, што і тут
У бруд
Ён тварам не ударыць!
Ды што ні возьме — валіцца ўсё з рук...
То выслізне гаршчок, то шклянка разаб'ецца,
То не закруціць кран, а знізу стук —
Суседка на яго злуецца.
За тыдзень столькі нацярпеўся мук,
Так ухадзіўся, змардаваўся,
Што ледзьве жонкі дачакаўся...
А майстра ж быў над ёю падтрунішь:
«У хаце клопат не вялізны,
Па сутнасці, няма чаго рабіць...
Памыў бялізну —
Загарай!
Зварыў абед — адпачывай!
Ні норм, ні тэмпаў, аніякай трасцы —
Жыццё, як у чароўнай казцы!»
А тут, выходзіць, зморышся, як чорт:
Зрабі уборку, ля гаршкоў таўчыся,
Гатуй капусту, бульбу і кампот,
Цябе дзесяты пройме пот...
Прылегчы б адпачыць, а ты імчыся —
З авоськаю на рынак, ў магазін...
Ды ўсё адзін,
Хоць разарвіся...
Аж млосна робіцца, цямнее у вачах,
Ну не работка — жах!
Ды скрозь зямлю ты праваліся!
Не бачыць бы яе нам, як сваіх вушэй...
І, як сказалі мы вышэй,
Іван ледзь жонкі дачакаўся,
У ножкі пакланіўся ён, пацалаваў і ад душы прызнаўся:
— Ударнік на заводзе я, а ў доме — ты Герой!

**Іване, згодны мы з табой.**

*11.8.55*

## АНТОНАЎ АГОНЬ

Антон сек дровы...
Тапор нязручна слізгануў,
Не па карчы дубовым,
А па назе Антону секануў!
— Прыкласці трэба павуціння
Ці з бульбай сырадой,
Загоіцца адразу, зніме як рукой! —
Параіла Антону знахарка Аўгіння.
І ў выніку «прынятых мер» —
Зароў пад раніцу гаротнік наш, як звер...
Ледзь-ледзь світанку дачакаўся,
За палку хап і ў бальніцу пашкандыбаў.
— Эге! — хірург да раны прыглядаўся
І асуджальна галавой ківаў.—
Спазніўся б ты хоць на гадзіну —
Нагу б не ўратавала й медыцына,
Дый сам загінуў бы, як муха...

А помніць варта ісціну адну:
Не давярайся знахаркам, шаптухам,
Бо трапіш у труну...

*3.9.55*

## ЗАЛАТАЯ РЫБКА

На беразе рачулкі, а не мора,
Ўзнімаўся гмах пад шыльдай «Рыбкантора»...
Пацела тут нямала малайцоў —
З паўсотні радавых пісцоў,
І машыністак плойма стракатала,
Ну, а вышэй начальства засядала:
Загадчык па засолцы і капчэнні селядцоў,
Загадчык па здабычы мух і іншае прынады,
Загадчык па рамонту рыбалоўнае прылады,
Загадчык планавання лову,
Загадчык перспектывы клёву —
Усе дзядзькі як на падбор!
І, ўрэшце, нібы недарэчы,
Сухенькі, сівы, вузкаплечы,
Рыбак дзед Міканор...
Рыпелі пёркі ды хадзілі ручкі
У дні авансаў і палучкі,
Па рангу кожны меў і прагрэсіўку і аклад —
Дзед не пакрыўджан, задаволен апарат!
Трымаў дзед вуду ды пасмоктваў піпку,
Цягаў з вады малую рыбку,
Ды рыбку не абы-якую —
Залатую!

Мне скажуць: казачка старая!
На жаль, жыве, не адмірае...

*4.9.55*

## СКНАРА

Над кожнаю капейчынаю калаціўся Апанас,
А зарабляў ён з жонкаю нямала,
На двух з ліхвою ім хапала,
Бо дзетачак якраз
У іх і не было. У маладосці не хацелі мець,
А як за пяцьдзесят пераваліла —
Прапала тая сіла,
Каб дзетак гадаваць, каб дзетачак глядзець...
Цяпер, вядома, зайздрасць брала скнару,
Як да суседа сабіраліся сыны:
Хто бацьку вёз касцюм, хто ботаў пару,
Хто грошы, гонар і чыны!
А скупярдзяй марнеў і жонку поснаю марыў дыетай,
Хадзіў па хаце хмуры, злы,
Не ведаў радасці ён ні зімой, ні летам...
Ды неяк стаў той жмот удзельнікам банкету:
Ад закусі — ламаліся сталы,
Віна, як кажуць, разліўное мора!
І Апанас, хаця зубоў не меў,
На харч накінуўся, як згаладалы леў!
А ноччу, з перажору,
У кішках атрымаўся нейкі заварот,
І грэшная душа панеслася на неба!
Было з хаўтурамі клапот,
Але іх жонка справіла як трэба:
Музык пачаставала і народ,
Пашморгала на людзях носам для прыліку,
Павохкала па мужу, ды суцешылася тым,
Што поўную кубышку накапіла з ім,
І зажыла прывольна, з шыкам!

А скнарам я параю:
Жывіце на зямлі, няма на небе раю.

*9.9.55*

# ГУЗ

Ну не скажу, каб вельмі важны туз,
А так сабе, на роўным месцы Гуз —
Падаўся
Ў жніўні на курорт.
(Ён аб здароўі ўласным дужа турбаваўся
І вылятаў на поўдзень два разы на год.)
Ну што ж? Лячыся, паважаны,
Купайся, грэйся, сілы набірай,
Не корчы з сябе пана,
Перад другімі нос не задзірай,
Бо ты не дома і не ў кабінеце.
Але чынушка-кіраўнік
Пачаў паказваць свой тут бзік:
То сонца горача яму занадта свеціць,
То не дае заснуць марскі прыбой,
То ап'яняе пах магнолій,
То цень гара кідае на пакой...
І што далей — дык фанабэрый болей:
— Ў салянцы мала солі!
— Пякучы джыгнулі укол!
— Не усміхаецца чамусь афіцыянтка!
— Падсаджана суседка не пікантная за стол!
Штодзень адна шарманка —
Пагрозу, скаргу ці паклёп
Запіша ў кнігу прапаноў абавязкова!
Хоць ты страляй яму у лоб —
У Гуза лоб дубовы!
Усім ён сапсаваў за месяц кроў,
Ў пячонкі ўеўся, даўся ў знакі...
І ад галоўнага ўрача да вартавой сабакі
Ўздыхнулі лёгка, як паехаў ён дамоў...

Дадам не для праформы:
І Гуза тычацца маралі нашай нормы.

*20.11.55*

## ХТО ДБАЕ — ТОЙ І МАЕ

Пасеялі ў калгасе кукурузу згодна плана:
«Ну, кукурузачка, расці!
З табою мяса будзе, масла і смятана,
А куры яйкі будуць па пуду нясці...»
Насенне ў глебу посную так-сяк параскідалі
І... лета цэлае туды не заглядалі...
Яго ж дзяўблі гракі,
Глушыў асот, крапіва сок смактала,
І кукуруза тая не расла, а чэзла, вяла
(Бо не было ў арцелі гаспадарскае рукі).
А ўвосень недарэка старшыня казаў суседу:
— Пасеяў злак, ну, а яго ні следу...
Вось тут і ўкараняй наменклатурную культуру —
Кароўкам нечага жаваць...
— Бо ты не гаспадар, а дурань,
Такіх ў тры шыі трэба гнаць! —
Сусед прамовіў з абурэннем.—
Калі ты кінуў у зямлю насенне —
Дык падкармі яго, зрабі праполку...
Вось мы папрацавалі з толкам,
Ну і зірні на наша поле,
Не кукуруза — звон!
Сцябліна кожная шуміць, нібы таполя,
Ідзе у рост, бярэ разгон!
Прыкласці рукі, даражэнькі, трэба,
А не чакаць дзівосаў з неба...

Такі закон:
Хто дбае —
Той і мае.

*3.1.56*

# НАМЕНКЛАТУРНЫ АСЁЛ

Асёл займаў высокую пасаду,
Ці чулі? Узначальваў ён культурны фронт.
Прад ім шырока раскрываўся гарызонт!
І аддаваць пачаў ён «мудрыя» загады...
Што-што, камандаваць умеў
І пыл пусціць у вочы...
Бо нават Леў
Аднойчы
Яго паляпаў па плячы:
— Патрэбны энергічныя нам дзеячы!
Кіруй! Але не вельмі тузай...
Культура — не авёс, не кукуруза!
Ад пахвальбы ільвінай той
Ён хвост узняў трубой.
Пачаў раўці, пачаў брыкацца,
То на Лася давіць, то павучаць Зубра,
За Воўка, за Мядзведзя брацца...
— Ну-у! Не чакай дабра,—
Панура прамычаў рахманы Вол.
Ды зменліва фартуна:
Яшчэ учора капытом замахваўся з трыбуны,
А сёння пагарэў Асёл...
Ды абышліся з ім не надта крута —
І па хадайніцтву сяброў
Пасаду цёплую падкінулі ізноў:
— Кіруй, брат, інстытутам!
Навуку рухай! Моладзь прасвятляй!
Адукаваныя давай нам кадры!
Мінула не адна, напэўна, квадра —
Аслу чарговы наганяй
І новая салідная пасада!
І так далей, і так далей усю дарогу апякалі —
Работы добрыя, кватэры і аклады...
Нарэшце духам заняпалі:
«Куды яго прыткнуць? Га?» — думалі, гадалі...
Ну і замест таго, каб адасласць вазіць ваду,
Аслу на радасць, іншым на бяду —
Яго вучыцца некуды паслалі.

Здаецца, атрымаў ён і дыплом,
Але застаўся, як і быў, аслом...

*12.1.56*

## ГАЛАВАЦЯПЫ

Макар Трахімавіч за стол рабочы сеў
І толькі ўзяў паперы ў рукі,
Як зычна тэлефон настольны зазвінеў.
«Ну,— ён падумаў,— пачаліся штукі!»
Макар Трахімавіч страшэнна не любіў
Пустых паседжанняў, параднасці, шуміхі...
А тут, нібы на ліха,
Ён членам дзесяці камісій быў
І засядаў з пад'ёму да адбою,
А на рабоце госцем стаў.
Раней зарплату працай зарабляў
І атрымоўваў з чыстаю душою,
Цяпер жа грызла, дапякала, мучыла сумленне:
«Прабалбатаў дзянёк — карысці не чакай,
Бо да заводскіх спраў не мае дычынення,
А зверху ціснуць: «План давай!»
І лопнула ў дырэктара цярпенне:
«Даволі ў ступе мне таўчы ваду —
Нікуды не пайду!»
І, зняўшы трубку тэлефона,
Насмешлівым прамовіў тонам:
— Ал-ло! Макар Трахімавіч на дроце!
Дзень добры. Дзякую. Пакуль што жыў-здароў...
Што-што? Нарада зноў?!
Не быў я тыдзень на рабоце,
А прасядзеў тры пары ўжо штаноў...
Ах, трэба быць! А што ж там за нарада?
Знішчэнне мух?! Прабач, а я пры чым?
У мяне хапае ўласных непаладак...
Што? Падтрымаць перадавы пачын?
Ну, даражэнькі,
Злуй сабе ці не,
А мух лавіце самі, без мяне...
Будзь здаравенькі!
І, трубку кінуўшы са злосцю на рычаг,
Макар Трахімавіч у цэх накіраваўся з кабінета.

Смех горкі ў байцы гэтай:
Ці ёсць у тых галовы на плячах,
Хто выдумляе непатрэбныя нарады,
Якім сам чорт не рады...

*3.3.56*

## ЛІСІЦА І ПЕВЕНЬ

Спатрэбілася скараціць адзінку.
Лісіца, што падменьвала тады кіраўніка,
Бо Леў знаходзіўся у адпачынку,
Кандыдатуру пад звальненне пачала шукаць:
Зубра? Ну як падступішся ты да такога велікана?
Мядзведзя? Ён, мякка кажучы, даўно ў гадах,
Яму б на пенсію. Ды звязвацца непажадана.
Падумаць толькі — ахапляе жах.
Усіх пералічыла абсалютна —
Той рэдкі экземпляр,
Той пушчы уладар,
Той ростам вымахаў, той сілаю магутны,
Той мае іклы гострыя, той — кіпцюры, той — дзюбу.
Іх зачапі — чакае згуба...
Аж разбалелася ў Лісіцы галава:
«Дзяржаўныя вяршыць нялёгка справы!
Лепш дачакаюся Ільва...»
Ды тут на вочы трапіўся ёй Певень бравы,
Які разгульваў між лясных прагал.
Устрапянулася Лісіца:
— А-га-а!
З табою час нам разлічыцца!
Нахабнік, гвалтаўнік, крыкун і баламут!
То круцішся з адною Куркай, то з другою,
Не абзавёўся сталаю сям'ёю,
Ды над табой ёсць суд!
І Певень не паспеў раскрыць і дзюбы,
Як трапіў Лісцы ў зубы...

Калі каго захочуць з'есці —
Матывы здолеюць падвесці...

*1.4.56*

## ПАДЛАЖЫЎ «ДЗЮДЗЮ»...

Калгаснік Агафон
Участак прысядзібны меў важнецкі:
Квітнелі яблыні і палымнеў тытунь турэцкі,
Гарох закручваўся і набіралі свой разгон
Капуста, бульба, бручка, буракі,
Маркоўка, памідоры, агуркі,
Цыбуля.
А ў тых хлявах кракталі парсюкі,
Авечкі блеялі ды мукала рагуля —
Што трэба гаспадарка!
Не лічачы ўсялякай драбязы:
Трусоў здзічэлых, птушкі, зброддівай казы...
І Агафон так разважаў пад чаркай:
«Навошта тыя працадні?
Ці ж я вярблюд, каб груз двайны цягнуць на карку?
Сваё спраўляйся толькі сей ды жні!»
А жонка Агафона — Агрыпіна —
Была ў камерцыі увішная жанчына:
Цялё купляе і... па горле — шах!
І пацягнула ў горад мяса...
Глядзіш — яны і пры грашах!
Ды хваляць не нахваляць старшыню калгаса:
— Не чалавек — анёл!
І сам жыве, і нам не замінае:
Патрэбен конь — паўлітру бух на стол!
Патрэбен лес — дык гарнец выручае...
Ды неўзабаве Агафон
Пачаў клясці і ганьбіць старшыню арцелі:
— Ах ты п'янтос! Нагнібітон!
Каб спрах! Каб мухі цябе з'елі!
Такую мне падклаў свінню...
А справа ў тым — на справаздачным сходзе
Абралі новага ўжо старшыню.
І ён абрэзаў агародзік
У тых, хто працадня не зарабіў за год.
Усё адпаведна Статута, арцельнага закону,
І скончылася «масленіца» Агафону...
Вось і дзярэ ён рот!

А вывад гэткі будзе:
Дарэмна старшыню клянеш,
Бо не на хутары жывеш...
Сам падлажыў сабе ты «дзюдзю»!

*8.4.56*

## РЭДАКТАР І ПАЭТ

Стары канфлікт, стары, як свет:
Адзін Паэт,
Замардаваны стомай,
Узяў сюжэт,
Магчыма, ўжо вядомы,
Па-свойму павярнуў, у байцы абыграў
І твор Рэдактару на стол паклаў.
«Угу... А хватачка ў вас ёсць,—
Вачыма тэкст прабегшы, прагугніў Рэдактар.—
І тэхніка нішто... І гумарок. І злосць.
І трапна схоплен Вераб'я характар...
Адно сумненне у мяне: ці трэ па Вераб'ю паліць з гарматы?
Ну, у каноплі залятцеў, ну, пакляваў зярняты...
Дык у яго з рагаткі біць лацвей!
Чыталі вы артыкул пра сатыру?
Дзярзайце, наш Эзоп! Бярыце персанажы пабуйней!
Бічуйце недахопы розныя смялей!
Удачы вам жадаю шчыра!
— Так-так! — сказаў Паэт, калі выходзіў.—
Заўвагу я ўлічу. З парадай згодзен.
...І вось праз тыдні два
Прынёс ён байку новую пра... Льва.
Рэдактар прачытаў і аж закалаціўся,
Аж лоб ягоны успацеў:
— Ды што ты, звар'яцеў?
Чаго да Льва ты прычапіўся?
Ён жа займае пост высокі,
А на яго наводзіш недарэчныя намёкі...
Ты рэпутацыяй сваёй не рызыкуй!
Вазьмі лепш... э-э-э... во! Мастадонта!
Жывёліна дагістарычная! Адмёршая даўно...
І крытыкуй!
І наступай шырокім фронтам!

А рэзюме адно:
Лягчэй труслівому рэдактару пуд солі з'есці,
Перахварэць на тыфус ці дызентэрыю,
Чым даць сатыры ў друку месца,
«Бо — чаго добрага! — яшчэ намыляць шыю»!

*12.4.56*

## СКРЫПУН

Дзяркач у лес з балота завітаў,
А там спяваў натхнёна Салавейка:
То заліваўся ён жалейкай,
То, як крынічка, булькатаў,
То трэллю меладычнай рассыпаўся, бы званочак —
Ён славіў лес свой, сонейка, вясну!
— Цікаўны галасочак...—
Сказаў Дзяркач.— А калі я рвану
Разочак —
Вось атрымаецца канцэрт!
Ад зайздрасці аж лопне гэны ферт...
Здаецца,
Я не лыкам шыты!
І суха, нудна, скрыпавіта
Завёў адно каленца:
«Скрып-скрып, дыр-дыр! Скрып-скрып, дыр-дыр...»
Вядома, ад такога «сола»
Ўсе птушкі — ф-фыр-р-ррр! —
І апусцела тут наўкола...
Адзін Крумкач
Пракаркаў, як вяшчун:
— Дзяркач!
Ты не спявак — скрыпун...
Рыпіш, нібы нямазанае кола...
Апломбу шмат! Дзе ж голас?..

У кожнага магчымасці свае,
Нахабства і апломб не дапамогуць,
Усё, як мовіцца, ад бога:
Адзін скрыпіць, другі — пяе!

*16.5.56*

# ШЧУПАК І ПЛОТКА

Стары Шчупак за Плоткаю улёг
(Не дзеля спорту, зразумела),
Але схапіць за хвост яе не змог
І лёсткі падпушчаць пачаў умела:
— Дурненькая! Чаго ты напалохалася так?
Чаму ты ад мяне маланкай сіганула?
Не Сом я, не Акула —
Звычайны і бяскрыўдны я Шчупак!
Няма і ў думках у мяне благіх намераў...
Наадварот!
Калі дасі мне веры,
Я сохну па табе каторы год...
Ты хараством сваім мяне прычаравала!
Ні есці не магу, ні спаць.
Здаецца, прыгажунь я сустракаў нямала,
Але, па-шчырасці сказаць,
Ніколі зроду
Падобных я не бачыў краль!
Ты каралева! Ты вянец прыроды!
Ты зорка залатая між срабрыстых хваль!
...У Плоткі сэрца зашчымела ■ асалоды,
Яна забыла асцярогу, страх,
Затрапятала ад такога красамоўства —
І... ў Шчупаковых апынулася зубах...

Дзе лёстачкі — дык там і вераломства.

*7.7.56*

## БЫВАЕ ЧАСАМ І ТАК...

Прыслалі аграномa у калгас.
Калгаснікі глядзяць: «Арол! Падыдзе. Ясна».
Сабралі сход калгасны:
— Будзь галавой у нас!
— Ну галавой дык галавой...
Сардэчна дзякую вам за давер і за пашану,
Я згодзен, ды з умоваю адной —
Каб працавалі ўсе з душой,
Я гультаям і сімулянтам патакаць не стану!
Здаецца, у арцелі ўсталяваўся лад:
Касіць пара — усе на сенакосе,
Жаць збажыну — няма markdownрознагалосся,
Работа спорыцца брыгад!
Але адна (даруйце мне за слова),
Бы ялаўка, выгульваецца жонка старшынёва...
«А мы чым горшыя? Ці справядліва гэта? —
Сышліся брыгадзіршы ў круг.—
Ну хворая была б кабета...
Дык не, хоць запрагай яе у плуг!
Спіць, есць ды шпацыруе ў садзе.
А мы — рві лён, пянькі карчуй на лядзе.
Ці ж не начальніцкія жонкі мы?
А да таго ж і дзеці, агарод і гаспадарка —
Усё на нашым карку!»
І з поля — чмых!
А следам пачалі і радавыя каламуціць:
То трэба на вяселле, то падскочыць на кірмаш,
То галава баліць, то пад грудзямі муціць.
— Напрацаваліся! Шабаш!
А ў полі збажына гніе...

Што ж, нездарма ў народзе
Спрадвеку прымаўка такая ходзіць:
«Адна паганая аўца — ўвесь статак сапсуе...»

*15.7.56*

## ДЭМАГОГ

Работнік інтэлектуальнай сферы
Любіў услых паразважаць:
— Жыццё, браткі, не на паперы!
Чаго у кабінетах засядаць?
З людзьмі я не губляю змычкі,
То еду на завод, то — у калгас,
У гушчу мас,
Каб ведаць побыт іх, жаданні, звычкі...
І, сеўшы ў персанальны «ЗІМ»,
На дачу выпраўляўся з выводкам сваім.
А супрацоўнікі асобныя аж млелі ў захапленні:
— Не чалавек — душа!
— Якія думкі светлыя, высокія імкненні!
А той, прыехаўшы на дачу,
Папіўшы сырадою [illegible] гладыша
І з'еўшы лупленых два-тры яечкі,
Калі канчаўся дзень гарачы,
Любіў з калгаснікамі спакваля павесці спрэчкі:
Аб неабходнасці мастацтва і навук,
Культуры, адукацыі, прагрэсу,
Аб тым, што піша наш і антыганістычны друк...
І слухалі яго спачатку не без інтарэсу.
Ды больш таго, прайшла пагудка,
Што дзеяч той — прасцяк і дабрадзей:
«Вучоны чалавек, а не цураецца людзей!»
Ды хутка
Пранеслася над вёскай навальніца —
Маланка бліснула, ударыў гром,
І не паспелі хлебаробы спахапіцца,
Як школу абняло агнём...
«Ну дзе ж малым цяпер вучыцца?
Пакуль збудуем новую для іх —
Міне не менш [illegible] паўгода...»
І прыгадалі дзеяча уміг:
— Тутэйшы ён! Як кажуць, з нашага ён роду...
Навошта бедаваць?
Будынка лепшага — двухпавярховай дачы —
І ў сне не прыгадаць!
І вырашылі хадакоў да дзеяча паслаць.
А той... Ну ледзь не плача:
— Браточкі, землякі, каханыя, але...
Дальбог, мне не шкада... Ды вось якая справа,—
Загоцаў ён, што муха на аконным шкле,
Замітусіўся, заматляў то ўлева, а то ўправа.
— Ну й ну! А мелі мы надзею! —

Дзівіліся калгаснікі услых.—
Нас выбачайце, пане дабрадзею,
А слухаць дэмагогію — няма дурных...

Пярун з маланкай на такога б
Дэмагога!

*13.8.56*

# ВУЧОНЫ БУГАЙ

Бугай саноўны выправіў сынка у школу...
Той навучыўся па складах чытаць,
Задачкі розныя рашаць,
Хапіла б для жывёлы.
Ды татка не спыніўся тут:
— Сынулька скончыць інстытут!
Аспірантуру!
Ён цягавіты! Ведаю яго натуру!
— Ды злітуйся над ім,—
Упрошвала Карова,—
Ну быў бы ён, як ты, здаровы,
А то ж знясілены зусім...
З яго даволі, што засвоіў ён асновы...
— Ча-го?! — Бугай зароў шалёна,—
Ён будзе Бугаём вучоным!
І, скарыстаўшы свой высокі сан,
Цягнуў ён Бычаня ў навуку,
Хоць разбіраўся той
У ёй,
Што ў бібліі Баран.
Сказаць па-шчырасці, ну не жыццё было яму, а мука:
Усох,
Аблез і аблысеў...
І хоць ён лоб бычыны меў —
Быў сумны эпілог:
Ён ад натугі звар'яцеў...

Дадам два словы:
А мела ж рацыю карова!

*1.2.56*

## ЗАЙЗДРОСНІЦА

Схапіўшы мяса ў мясніка,
Імчала Сучка агародам.
Паласавацца меркавала з насалодай,
А тут — рака,
Над ёю — кладка.
Ў ваду зірнула Сучка крадкам,
Аж там — другая з мясам у зубах...
Што ў ліхаманцы Сучку затрусіла,
Аж памутнела у вачах:
— Гаў! Гаў!
А мяса — бах!
І знікла паміж хваль...
Тут Сучка і завыла!

Мараль?
Сабаку зайздрасць падкузьміла.

*5.2.50*

## КАСЦЫ І ВОЎК

На золаку, нарад на працу атрымаўшы,
Касцы на луг пайшлі, бадзёра заспяваўшы!
Вось і участак. Хлопцы знялі боты.
Пазакасалі рукавы, штаніны,
Каб больш спрытней было у час работы.
Пасталі ў рад,
І справа ў іх пайшла на лад!
Не пакідаючы ніводнае пляшыны,
Ідуць наперад, толькі свішчуць косы,
Аж любата — шырокія пракосы!
За валам коціцца зялёны вал,
Бы ў лузе праімчаўся шквал.
Так падышлі аж да балота
І, перш чым за яго рашуча брацца,
Рашылі дзецюкі крыху падсілкавацца.
Старанна косы выцерлі травой,
Паселі пад вярбой
Ад сонечнай спякоты,
Расклалі яйкі, агуркі, вяндліну,
Падмацаваліся ды задымілі з асалодай самасадам.
Як хтосьці закрычаў з брыгады:
— Цюга! Ваўчуга! Біце гада!
Напаў звярына на табун!
Касцы адразу паўскакалі,
Драпежніка з усіх бакоў абклалі,
І наступіў яму тут карачун!

Гісторыя нас вуча:
Нам трэба быць заўсёды начыку,
Каб даць адпор рашуча
Імперыялістычнаму ваўку!

*30.9.51*

## ФЛЮГЕР

Адкуль ні дзьмухне, ні павее вецярок —
На вільчыку адразу Флюгярок
Свой курс мяняе.

Так кан'юнктуршчык нос па ветрыку трымае...

*30.3.52*

## ГУСТЫ

Вялі раскопкі старажытнага кургана,
Насыпанага, мабыць, воінамі Чынгісхана,
Сярод даспехаў ратных, хатняе драбніцы,
Знайшлі вучоныя ў грабніцы —
Адліты з золата цурбан
Замыславаты.
То быў язычаскі бажок, ці сфінкс, ці талісман...
Так ці не так, а знойдзеныя экспанаты
Даставілі ў музей мясцовы,
Паставілі пад шкло,
Зрабілі этыкеткі,
Каб аб мінулым гаварылі сведкі:
Што быў калісьці час суровы,
Як ордаў зборышча на Русь ішло
І пад курганамі канец знайшло!
І той музей раз ювелір наведаў:
З пакоя у пакой, ад экспаната к экспанату
Пасоўваўся і мармытаў: — Як быццам ніштавата...
Аднак жа цудаў я не ўведаў.
Ды раптам стаў, як укапаны,
Загаласіў, як апантаны:
— А-я-я-яй! Вось дзе багацце!
І прападае марна так...
— Чаго ты лямантуеш, бацця? —
Да ювеліра падышоў мастак.—
Багацце? Сапраўды, багацце немалое!
Відаць, што майстар быў таленавіты,
Як гарманічна змест і форма зліты!
— Што форма? Драбяза! Галоўнае, што залатое...
Каб мне вось гэткі злітак,
Пярсцёнкаў, завушніц багата б нарабіў!
А колькі б грошай адхапіў?!
...Ваніў з іх кожны са сваёй званіцы,
У кожнага свой быў крытэрый, погляд, прынцып.

Хто правы з іх — я не суддзя:
Каму па густу поп, каму — і пападдзя...

*26.4.52*

## РАДЗІНЫ

Алёна сына нарадзіла,
Не хлопчык — цуд!
Вагою ледзь не з пуд,
Прыгожы, жвавы, мілы.
А ростам — казачны асілак!
Ну як бацькам не радавацца тут?
Тым больш што нараджаліся раней дзяўчаты,
І вось доўгачаканы сын!
Каму-каму, а татку гонар асаблівы!
І ён рашыў адзначыць дзень радзін,
Каб рос сынок здаровы і шчаслівы!
Прыйшлі таварышы, суседзі, дружбакі,
Прынеслі кветкі, падарункі,
На сёмым небе нашыя бацькі!
А на сталах ужо — віно, прысмакі, пачастункі.
Тост першы за малога прапануе тамада:
— Каб рос разумны, дужы, шчыры,
Каб ганарылася ім грамада,
Каб жыў і працаваў у радасці і міры!
Другую чарку паднялі за бацьку! Трэцюю — за маці!
І пакаціўся смех, і песня залунала ў хаце!
Адзначылі падзею, як і трэба.
Але назаўтра, нібы гром
Той з неба,
Адама тэрмінова выклікалі у мясцком:
— Што? П'янкі ў хаце утвараеш?
Чаго маўчыш? Чаго ты вернеш нос?
Чытай. Вось на цябе данос...

Чытач! Ці ж ты паклёпнікаў не знаеш?
Яны ніколі не заснуць,
Пакуль каму ў душу не наплююць.

*3.3.54*

## БАЙКАРОБ НА ПАЛЯВАННІ

Вядома, не Эзоп,
А наш тутэйшы Байкароб
За баечку чарговую засеў...
Ды [redacted] ходу
Ён сустрэў
У працы перашкоду:
Герой патрэбен! А героя адшукаць —
Не ў носе пазуром пакалупаць...
Узяўшы Бобіка, двухстволку,
Падаўся ён у лес на золку.
Хадзіў, блукаў,
Стаміўся, як сабака,—
Ні Зайца, ні Лісы, ні Вепрука...
У роспачы той бедалага ледзь не плакаў:
Звяры, людашкі, мухі, камары і птушкі —
Узяты папярэднікамі ўсе на мушку!
А без звяроў — ні баечкі, ні палявання...
І, выбраўшы пянёк на сонечнай паляне,
Наш Байкароб
Самотна пяцярнёй патыліцу зашкроб:
— Вось сітуацыя! З чым з'явішся Рэдактару на вочы?
«Прашлындаў,— буркне,— дзень рабочы,
А мне здабычы не прынёс?!»
Нялёгкі Байкароба лёс...
Яшчэ ад жонкі атрымаеш «на гасцінцы»!
(Але бязвыхадных становішчаў няма...)
— Чаго бядую я дарма?
Ёсць! Ёсць яшчэ дзічына — у... звярынцы! —
Падскочыў і ў далоні аж заляскаў!

Калега па пяру, даруй мне, калі ласка,
На жарт сяброўскі не крыўдуй,
Але звярынец, браце, пашкадуй!

*12.3.55*

## ФЛЕЙТА І БУБЕН

Спявала Флейта мякка, задушэўна:
То радасць абуджала, то журбу,
То некуды вяла ў край казак летуценных,
То клікала, як сцяг, на барацьбу!
— Вось гэта чараўніца!
Ото душа! — узрушыўся Кларнет.—
Другой такой на свет,
Бадай, спявачцы не з'явіцца!
— Па-а-ду-у-маеш... А-яй!
Мо загадаеш на яе маліцца?..
Стварылі арэол... Га-га! Узнялі грай! —
Тут Бубен загрымеў.— А я не веру!
Адзін я заглушу ўсю вашу хэўру!
— Чакай-чакай! Не звякай тут і не грымі,—
Кларнет не жартам узлаваўся,—
Ты хто? І у квартэт як зацясаўся?
Не ведаеш ні «до», ні «рэ», ні «мі»,
А аб святым мастацтве меркаваць узяўся...
— Як хто? Вядомы Бубен!
На музыцы я аблысеў
І зубы
З'еў...
...А што Кларнет? Ён у адказ ні слова,
Бо зразумеў —
Спрачацца бескарысна з скураю асловай.

Агульны наш знаёмы
Нічогачка не мае за душой...
І толькі тым вядомы —
Брынчыць, як бубен той!

*22.3.55*

## КАХАННЕ І АЛАДКІ

Каваль Рувім з'явіўся на абед,
А жонка ежы ў час не згатавала...
(Напэўна, у чарзе за мясам прастаяла.)
Бо ледзь паспела чыгунок паставіць на загнет,
А муж у хату: — Падсілкуй як след!
(Вось непрыемны сапраўды выпадак...)
— А-яй! Даруй! Мая віна.—
Замітусілася яна.—
Хвілінку пацярпі. Я напяку аладак.
— Ды не хвалюйся надта!
Я ж не з паноў...
Няма жаркога — дык паем бліноў!
Ні ў чым ты, любая, не вінавата,
— Гатова! — ставячы скавараду на стол,
Прамовіла урэшце гаспадыня.—
Пакінь газету, еш, а то прастыне...
Рувім пакаштаваў і... замычаў, як вол.
(Заўважым, што кабеціна спяшыла
І цеста двойчы крута пасаліла.)
Гавораць, на спіне бывае перасол,
Але Рувім характар меў лагодны:
— Якая смаката! Яшчэ падбаў!
З такім імпэтам ён аладачкі ўплятаў,
Нібыта дужа быў галодны.
І, выцершы далонню губы,
Вады сцюдзёнай выпіў кубак,
Да жонкі падышоў, абняў:
— Ну, дзякуй, Раечка, я сыт. Даволі.

Шукаеце у байцы солі?
А соль у тым, што жонку муж кахаў,
Быў поўны да яе павагі
І не ўзнімаў з-за глупства звягі.

*3.1.56*

## РАЗВОД

Душа ў душу з Індычкай жыў Індык:
Ад жонкі ні на крок, як цень, заўсёды з ёю,
Не развясці агнём іх, не разліць вадою!
У іншых дома сварка, лямант, крык,
А тут бясконца месяц цягнецца мядовы...
Ды хтось сурочыў. Рухнулі сямейныя асновы:
Індык запіў,
Як хмара чорны ходзіць,
Нідзе прытулку і спакою не знаходзіць...
Раней ён дзецям радаваўся, дзецьмі жыў,
Цяпер нялюбы нават Індычаты,
А жонку бедную дзяўбе і гоніць з хаты.
І справа прыняла крытычны абарот —
Яны афармілі ўжо афіцыйна свой развод.
...А Індыку пасля вядома стала:
Квахтуха на Індычку накляпала...

Нашкодзіць злоснікі гатовы,
Ого, як джала, язычок!
Хто ж пападаецца на іх кручок —
Той дурань безгаловы...

*7.1.56*

## ПЧАЛА І СТРАКАЗА

Над лугам Страказа спаткалася з Пчалой
І выхваляцца пачала сваёй красой:
— Ах, мілачка! Гаротніца малая!
Прысядзь і крышку адпачні.
І на мяне зірні:
Дзе на зямлі ёсць прыгажосць такая?
Які шыкоўны, пекны мой убор!
Якія колеры! Якія фарбы!
Пераліваюцца вясёлкай скарбы!
Успыхваюць агністым бляскам зор!
А крыльцы? Вытканыя з маціцы, з парчы!
У кожным руху — лёгкасць, грацыя і цнота,
А у вачах — усмешка, не журбота...
Да шчасця маю я ключы!
Навоштачка ж гарбець мне лета,
Пылок каўтаючы ад рання да начы,
Як ты, з мізэрных кветак?
Усюды дом мне ёсць і лёгкія харчы,
А далей? Хоць — патоп!
І не ўбіваюся я ў ласку
За нейкі там сіроп...
— Ці ж сэнс жыцця у знешнім бляску? —
Тут не магла Пчала ўстрымацца.—
Збіраю я нектар,
І корміць мяне праца,
І карыстаюся павагай, зразумей.
А ты, даруй,— нікчэмная гультайка.

Стракозы ёсць сярод людзей,
У іхні адрас байка...

*4.4.56*

## КОТ І ВОЖЫК

— Здарова! Колькі, браце, год?!
Ну, як жывём ды можам?
Апавядай мне, Кот.—
Сказаў пры стрэчы Вожык.
— А што апавядаць? Жыву як бог!
У такое месца цёпленькае трапіў —
Ем і кілбасы, і смятану, і тварог
І сплю па-царску, на канапе...
— Знішчаеш пацукоў? Ці ловіш ты мышэй?
— Ды што ты!
Бяры, браток, вышэй —
Мурлыкаю на сон гаспадару
Ды боты
Спінкаю пушыстай тру...
Вось тут і ўся работа!
Калі б не быў ты гэтакі калючы
І лашчыцца б, як я, умеў —
Дык жыў бы прыпяваючы: і піў і еў,
Ніякіх клопатаў не меў!
— Э, не! — зачмыхаў Вожык грэбліва, рашуча.—
Хоць залатыя горы абяцай —
Ля ног не стану аціраццa!

Высока годнасць чалавечую трымай!
Нам не да твару прыніжацца...
Свой дабрабыт, аўтарытэт ствярай —
Не ўгодніцтвам, а працай!

*7.6.56*



4 Зак. 612

## СВІСТУНОЎ

Праходзіў сход.
Надзённае рашалася пытанне.
Канкрэтна гаварыў народ.
Па-дзелавому йшло абмеркаванне —
Шмат спрэчак, крытыкі і слушных прапаноў!
І слова ўзяў таварыш Свістуноў:
Адкашляўся, нарзану выпіў шклянку,
Ну і завёў шарманку —
Гадзіны так на тры! Пакуль не змок...
І ўсё за абяцанкай — абацянку,
«Што будзе і вавёрка і свісток...».
Але, прыехаўшы дадому,
Астыў аратар наш, да спраў пахаладзеў
(Ён на трыбуне толькі і гарэў!),
Карысці ж ад таго — нікому...
А скліч нараду — ён ажывіцца ізноў
І ў грудзі малаціць сябе ізноўку стане!

Тут просіцца пытанне:
Ці не пара табе ў адстаўку, Свістуноў?

*9.8.56*

# ЗУБЫ

Сымон магутны быў, што дуб,
Ды неяк у яго заныў, заторгаў зуб.
Ён да ўрача: — Ратуйце, даражэнькі!
Ох, ох! Пакут пякельных не сцярплю...
Боль суніміце, доктар, вас малю!
— Чаго расхныкаўся? Маленькі? —
Урач прамовіў, аглядаючы дупло.
Затым у рукі ўзяў свярдло,
Ачысціў зуб і з мыш'яком заклаў у дзірку ватку:
— Ну вось што, братка,
Каб зуб твой не загінуў канчаткова —
Прыйдзі праз пару дзён,
Паставіць пломбу трэ абавязкова!
Аднак, як боль суціх, Сымон
Да лекара больш не з'явіўся.
«Ніколі,— кажа,— дзед мой не лячыўся,
А, як мядзведзь, быў дужы чалавек,
А я ж у дзеда урадзіўся!
Ды хопіць мне зубоў на век...»
...Праз пару год
Сымон не мог жаваць скарынкі хлеба,
Бо стаў бяззубым рот.

Заўсёды да канца даводзіць трэба,
Якую справу б ні пачаў,
Каб потым сам сябе не дакараў.

*31.10.56*

## РАКАВА КАДЗІЛА

Рак (што ў кацёл нарэшце сам папаўся)
Арцеллю кіраваў «Рыбзбыт»...
У сажалцы тым быў і знакаміт,
Што ў «асабістых справах» дужа калупаўся.
Гадзінамі ў нары сваёй ён мог сядзець
І вывучаць анкеты.
Калі ж на рыбцы плямку шанцавала разглядзець —
Ён нібы адкрываў планету:
Раздзьмухваў гэткае кадзіла!
З Ярша рабіў адразу Кракадзіла...

Мы скажам прама:
Падобным Ракам толькі волю дай —
Яны на Сонцы знойдуць плямы...
І Сонейка — бывай!

*10.1.57*

# АРЛІНЫ СУД

На злёце
Паспрачаўся Дрозд [redacted] Савой
Не па-сямейнаму, а пранцыпова, па рабоце.
«Звязаўся, дурань, на бяду са мной,—
Сава прамармытала,—
Я расквітаюся з табою, зух!»
Дый у дупло да Пугача адразу скіравала.
І заплявузгалі суладна ўдвух:
— Дрозд — п'яніца! Збівае жонку!
Дрозд морыць голадам дзяцей другую пяцідзёнку!
Дрозд да Зязюлі любіць заглядаць...
Судзіць Дразда і моцна пакараць!
Ўзнялі такі у лесе шум,
Такі шалёны вэрхал,
Ажно Арла патурбавалі зверху.
— Што за кірмаш? Што там за тлум? —
Спытаў у Сокала Арол сярдзіта.—
Не пацярплю я чахарды!
А ну, спусціся, разбярыся дзелавіта,
Віноўніка цягні сюды!
...І суд Арліны
Справядлівы і кароткі быў:
Пух паляцеў Савіны
І Пугача на мэтлахі пусціў...

За крытыку не ўзводзь паклёпа на сабрата,
Бо прыйдзе і адплата!

*27.1.57*

## КАНАКРАД

Так прыказка народная нам баіць:
«Гарбатага магіла справіць...»
...Меў Канакрад калісьці спрыт
I сілу,
Мог з ходу выхапіць жарэбчыка або кабылу,
Але пад старасць стаў пабойвацца капыт...
Ну, кінуў бы зладзейства, жыў, як людзі,
Дык паспрабуй жа, давядзі паскудзе!
Над ім занесла Смерць ужо касу,
А ўсё ён за сваё! На хітрыкі пусціўся:
Насыпаў торбу поўную аўсу
I на начлег крадком з'явіўся...
Аблюбаваў там скакуна
I, нібы воўк, жарэ аж зіркачамі:
«Кось-кось... Чаго стрыжэш вушамі?
На, еш авёс, на, хрумстай, на!
Распеpажыся хоць!
А там разлічымся з табою...»
I сам з-за пазухі вымае пугу і аброць.
Ды хітры конь хвілінай тою —
Як смальне канакрада капытом у зубы,
Яму здалося неба тут з аўчыну!
Тым часам і начлежнікі ўзялі яго за чуба...

Калі пачаў спяваць хтось пра «дактрыну»,
Убівацца ў ласку, пра авёс малоць,
Не забывайце канакрада, пугу і аброць.

*7.2.57*

# ХАНЖА

Ён з выгляду, бадай, і неблагі,
Глядзіш і думаеш — святошаю-святоша!
Такі ён маслены, прылізаны, харошы,
А што ні слова — то з варэннем пірагі...
Ды пальца не кладзі яму ты ў рот,
Бо хоць на вуснах мёд,
На сэрцы — лёд.
Хоць сцеле мякка, ды спаць мулка...
Слабейшага зарэжа без нажа.

Дык што гэта за скулка?
Ханжа!

*9.2.57*

## ХАЛОДНАЯ ВАЙНА

З-за прыгарэлай кашы, ў час абеда,
І разгарэлася ў сям'і «халодная вайна»:
Муж з жонкай правялі граніцу крэйдай,
І ўстала паміж імі непраходная сцяна...
Ніякі бок не йдзе на ўступкі:
Не вараць стравы і не паляць грубкі,
Адзін надзьмуўся, як індык,
Другая сыкае, што кошка,
А дзіцянё, гаротненькая крошка,
Адразу ў крык!..
Да маці туліцца — дык бацька адрывае,
Хінецца к бацьку — маці лямант узнімае...
Бяда адна!
А што, калі ідзе «гарачая вайна»?
Ляцяць, напэўна, чыгуны і кадкі...

Мне скажуць: што няма той хаткі,
Дзе б не бывала звадкі!
Але ж мы улічыць павінны —
Бацькі ваююць, а ў дзяцей калоцяцца чупрыны...

*12.3.57*

## ПЫХЛІВЫ ІНДЫК

На птушкаферму з інкубатара прыслалі
Маленькіх Качанят.
І птушкі ўсе закрэкалі, загагаталі:
— Ім неабходзен патранат!
Прыставіць Качара да іх ці Качку!
— Так-так! — кудахталі узрушаныя Куры.
— Яшчэ чаго! — Індык надзьмуўся хмура.—
З маленства ім даваць патачку?
Хто тут галоўны? Я!
Прызначым выхавацелем старога Вераб'я,
Яго не правядзеш, як кажуць, на мякіне!
Хай вопыт моладзі перадае,
Прамудрасці падкіне...
Вось так. На сёння дырэктывы ўсе мае!
За працу!
І нават Певень баявы з ім не адважыўся спрачацца.

Дзе справамі варочае Індык пыхлівы,
Там глухне ініцыятыва.

*17.3.57*

## МОЛЬ

На склад, дзе футра новая вісела,
Моль заляцела.
Зашылася у поўсць як можна паглыбей
І... зажыла прывольна!
Не дакучае спёка, ні туман ёй зольны,
Шыкуй, тлусцей,
Пладзіся...
І Молі развяліся!
Пакуль агледзеўся той недарэка гаспадар —
Ад футры толькі дзіркі засталіся.

Каб цэлым захаваць тавар
Ад марнатраўцаў рознага гатунку —
Няма другога паратунку,
Як
Найчасцей рабіць рэвізіі скразняк!

*24.3.57*

## КАЗЁЛ АДПУШЧЭННЯ

Казёл калісь назбродзіў:
Пашкуматаў на градах качаны...
Хто б у гародзе зараз ні нашкодзіў —
Каровы, Свінні, Бараны,—
Ў Казла ляцяць каменні...

Ды злітуйцеся над «казламі адпушчэння»!

*27.3.57*

## БОБІК

Прыжыўся Бобік каля кухні.
Тым на харчы і зарабляў,
Што аж да хрыпаты брахаў,
Пакуль язык той не апухне.
— Ну, і задзіра! Ну, і забіяка! —
Казалі ўсе.— Агонь, а не сабака!
Ды неяк завітаў туды Палкан
І, завурчэўшы грозна,
Пайшоў на Бобіка, як кажуць, на таран.
Смяльчак адразу заскуголіў слёзна,
Хвост падтуліў (раней трымаў кручком!),
Ледзь не ўсяго Палкана аблізаў лісліва язычком,
Лёг на спіну, задзёр угору лапкі.

Ёсць сярод нас такі задзірысты піжон —
Каўбойка, джынсы і чубок з-пад шапкі,
А за каўнер вазьмі — распусціць нюні ён,—
Ні прынцыповасці, ні смеласці, ні хваткі,
Гатоў, як Бобік той, лізаць адразу пяткі.

*28.3.57*

## БОЖАЯ КАРОЎКА

Кароўку божую хваліў на ўсе лады Мядзведзь
(Казяўка малака хоць не давала,
Але прыемна лапу казытала),
А Пчолку — не раструшчыў ледзь
Ад злосці!
— Не разумею штосьці,—
Зубрыха Касалапаму сказала,—
Пчала табе нямала мёду назбірала,
А ад Кароўкі той наедку, брат, няма ж?
— Затое у яе адсутнічае джала!

Для іншых мёду саладзей — падхалімаж.

*29.3.57*

## СЛОН І МУХА

Вілася ля Слана назола Муха
І бзынкала пра ўсіх лухту на вуха.
А Слон знячэўку уздыхнуў —
І Муху... ну як ветрам здзьмула.

Пра Мухі лёс я некаторым намякнуў,
Каб не ахайвалі усіх агулам.

*30.3.57*

## ПЕЎНІК

Ледзь з яйка вылупіўся жаўтароты Пеўнік
І нават ціўкаць па-сапраўднаму не навучыўся,
А як заганарыўся!
Пачаў вучыць Курэй, нібыта прапаведнік,
Як трэба несці яйкі...

Мараль такая вынікае [illegible] байкі:
Другі ледзь зробіць у жыцці свой першы крок,
А ўяўляе ўжо, што ён — прарок!

*26.4.57*

# ПРЫНЦЫПОВЫ УПРАЎДОМ

Дом прастаяў нямала год...
Урос ён у зямлю, пакрыўся мохам,
Штурхні нагой — і паляціць пад плот,
Не выратуе хуткая, ні экстраная дапамога...
Ды што казаць: трухня
Ды парахня.
Ну хоць адно
Было б жывое бервяно —
Ўсё чыста шашалем паточана і з'едзена грыбком...
Але шаноўны Упраўдом
Нябожчыка рашыў узняць на ногі.
— Што?! Гэткі дом —
На злом?
О богі!
Кашчунства! Не дазволю! — закрычаў ён строга.—
Мець трэба гаспадарчы падыход к народнаму дабру!
Я тут залатаю, там падапру
Ці замяню падваліну якую,
Перасцялю падлогу, перакрыю дах,
І з гэнае халупы, гарантую,
Узнімецца сапраўдны гмах!
...І кожны год
Разгортваўся ля хаткі фронт
Работ!
Вазілі дошкі ды бярвенні,
Шчапу, жалеза і каменні.
(Адно рамантавалі, а другое ў гэты час гніло.)
І што ж? На дзіва ці назло,
Гадочкаў цераз пяць
Наш Упраўдом свайго дабіўся —
Халупу ажывіў, магу прызнаць...
(Але ж і гмахам церамок той не зрабіўся.)
Калі ж прыкінулі выдаткі,
Ўсіх шыбнула ў пот:
— Ды гэта ж грошай марны перавод!
Маглі мы мець заместа хаткі —
Адменны, новы
Дом трохпавярховы!

Карысці там чакаць дарма,
Дзе «прынцып» ёсць, а розуму няма.

*27.8.57*

## КАБЕТА І КАМЕТА

Набожная кабета
Учула звон, не разабраўшыся як след,
Што да Зямлі ляціць хвастатая Камета...
— Канец усім! Загіне свет!
Ото нябеснае знаменне...
Настане мор, чума, землетрасенне,
Знішчальная вайна! —
Загаласіла ў роспачы яна
І, бразнуўшыся ніцма на падлогу,
Маліцца пачала уедна богу:
— О матка боская, душу хоць уратуй!
Не дай загінуць ёй у пекле...
А пад акном праходзіла суседка Тэкля:
— Кабецiна, кінь глупства,— кажа,— не блазнуй...
Ты ж ведаеш — не боская нам ласка
Дае і хлеб і мяска...
Навошта лбом падлогу малаціць?
Хадзем на ток рабіць!
— Не-не! Цяпер нічога нам не трэба...
Маліцеся, каб душанькі патрапілі у рай,
На неба!
— Ха-ха! Ты з глузду з'ехала. А-яй!
Апамятайся. Не ўзнімай
Дарэмна звону!
Навуцы вер, не забабонам.
Камета людзям не пашкодзіць жыць.

А ёсць і за мяжой падобныя кабеты,
Што любяць звон узняць не толькі з-за каметы,
Каб нам як-небудзь насаліць.

*28.8.57*

## ШПУНТ

У кожнага сваё прызванне:
Хто сее хлеб, хто варыць сталь,
Хто новыя ўздымае збудаванні,
Хто песняй кліча нас у даль!
А ёсць каторы...
Тут байку можна распачаць:
...Ён не хапае з неба зорак —
Умее і ўслужыць, умее памаўчаць,
Умее і ўсміхнуцца ветліва, лагодна;
Паведаміць начальству першым радасную навіну,
Сагнецца у дугу прад ім ахвотна!
А сябру у бядзе дасць кухталя ў спіну...
Шматгранны талент! Проста цудадзейны!
То голас грубы, то салодзенька-ялейны...
То ў цені ён, то — на віду
(На ўсё разлік і выгада, вядома),
Ніколі першым не палезе у ваду,
Аднак параіць, як сігнуць другому...
І, хоць тыпаж мінулых ён фармацый,—
Учэпіста трымаецца за грунт!

Хто ж ён такі? Няцяжка здагадацца:
Пад бочку кожную гатовы шпунт!

*29.8.57*

## УЗГАДНЯЛЬНІК

Ён пост займае не вялікі, не малы...
Ён па натуры асцярожны, памяркоўны
І справу ведае, бадай, не павярхоўна:
Умее завязаць вузлы,
Умее закругліць вуглы —
Што і казаць! Патрэбная адзінка...
Каб не маленькая ў характары слабінка:
Калі прыходзіцца самому крок ступіць,
Абавязкова ён павінен узгадніць
З вышэйшымі інстанцыямі, каб... застрахавацца
І... калі што якое — апраўдацца.

Узгадніць ці выслухаць параду
Карысна кожнаму падчас, бадай.
Але калі займаеш ты пасаду,
Дык голас свой і думку май!

*30.8.57*

## БОГ І КАЗЁЛ

Зацятая святоша Лізавета
Памалу дыбала ў царкву...
Была часіна бабінага лета:
Свяціла сонейка, ляцела павуцінка ў сіняву,
Вясёла шчабяталі птушкі —
Такая харашба стаяла навакол,
Хоць ты з пяром сядай за стол,
Пішы не байкі, а лірычныя частушкі!
Няхай чытач даруе мне,
Што на хвіліну я пакінуў багамолку —
Яна сваім маршрутам пне
І ўсіх кабет,
Якія ўжо спяшалі на абед,
Напрацаваўшыся ад золку,
Дакарае:
— Вялікі грэх падзе на вашу галаву!
Бог вас сурова пакарае.
Бо вы забылі сцежку у царкву...
Ды хтосьці крыкнуў: — Досыць!
Зірні! Пакуль ты каркаеш пра розную нам пошасць,
Папоўскі збродзіна-казёл
У агародзе качаны твае латошыць!
Святоша войкнула, забылася адразу на маленне,
Схапіла ў рукі кол
І зараўла, як балагол:
— Ах ты, смярдзючае стварэнне!
Усе вантробы пераеў...
А каб ты выдах, адубеў!
Каб гаспадар твой спрах кудлаты!
І прывяла такую сакавітую цытату,
Што ўсе зарагаталі навакол!

З капустай бога з'еў казёл.

*31.8.57*

## ПАВУК І МУХІ

Павук сплёў сець,
Развесіў срэбраныя струны
І соладка пачаў трымцець
То серэнады, то элегіі, то руны:
— О Мушкі мілыя! Я слёзы лью...
Усюды небяспека вас чакае!
Хто зуб на вас не мае?
І толькі я адзін — шкадую і люблю!
Ляціце да мяне! Тут знойдзеце спакой і абарону,
Заключым з вамі на вякі саюз!
І Мушкі, што ж? Ахвяраю зрабіліся ягонай...

І з НАТА выйшаў гэтакі ж канфуз:
Чаго ні абяцаў той дзядзька з Пентагону!
А як «саюзнікаў» аблытаў з галавы да ног —
Кроў засмактаў з іх, нібы васьміног...

*31.8.57*

## «ЦУКРОВАЯ» ХВАРОБА

Мне хворага і кацяня шкада,
А тут суседка захварэла...
Такая сімпатычная мадам!
І ад чаго? Гавораць, што салодкага залішне ела:
Ну здобы там,
Прысмакі,
Мёд...
Вядома, расплывалася, тлусцела,
Заліты здорам шыя і жывот...
Ей вуліцу перасячы давалася у знакі.
Яна да доктара — шукаць мікроба,
А доктар глянуў і адразу — бух!
— Для вас салодкае, што для вала абух...
У вас цукровая хвароба!
Калі жадаеце здаровай быць,
Дык трэба рацыён змяніць.
Больш націскайце на гародніну, на садавіну,
А асабліва, вам сказаць павінен,
Карысны: рэдзька, хрэн, часнок, цыбуля.
— Што-о?! Рэдзька? Хрэн? — мадам у крык.—
Вы, доктар, мусіць, жартаўнік?
Мне горкае — што ў сэрца куля!

Хто слухаць пахвалу салодкую прывык,
Таму, бач, крытыка — гарчэйшая пілюля...
Ды часам гэткі «пачастунак» —
Найлепшы ад хваробы паратунак.

*17.9.57*

## «ТВОРЧЫ» МЕТАД

Лукаш з Пракопам як браты жылі,
Такая дружба! Не разліць вадою...
Заўсёды разам елі, і пілі,
І спалі пад адной страхою,
Дзялілі нават напал хлеба крошку.
Ды... перабегла, мабыць, ім дарогу кошка:
— Ах, шэльмачка! Махляр! Ах, тарбахват!
Ты ж абадраў мяне як ліпку...
Шрайбуеш свой трактат,
А з дысертацыі маёй цягаеш рыбку?
Ды гэна ж бессаромны плагіят!
А я лічыў цябе за друга,—
Пакрыўджана звінеў Пракоп...
— Што-о-о?! Я — махляр? Зла-дзю-га?! —
Лукаш раз'юшана засоп.—
Чыя бы мукала б карова...
Не можаш сам звязаць два словы,
А робіш пад мяне падкоп?!
Ах ты, пігмей! Бяздарны кампілятар!
Цытату на цытату
Наляпіў
І хоць бы трошачкі перарабіў,
Як я, на свой манер і лад...
Ты — ліпа, а не кандыдат!

Ды ім, відаць, няма чаго сварыцца —
Такія чэрпаюць з адной крыніцы,
Іх «творчы метад» — плагіят.

*27.9.57*

## ПЕРАЛЁТНЫ ГРАК

Якісьці маладзенькі Грак
Ў ансамблі самадзейным выступаў...
І так
Удала ноты браў,
Што Бусел аж заклекатаў вясёла:
— Ну-у, дарагі юнак,
З цябе, бясспрэчна, атрымаецца спявак,
Бо голас сапраўды дзябёлы!
Так-так,
Мы створым самыя спрыяльныя табе умовы —
Вучыся, песнямі ўслаўляй
І родны гай,
І родныя дубровы!
І сапраўды, Грака такімі клопатамі акружылі,
Такія неўзабаве званні, тытулы далі,
Што галаву зусім яму ўскружылі,
І ён, як кажуць, адарваўся ад зямлі.
Калі ж паслалі спевака у вырай
На гастроль
І ён там грымнуў до-рэ-мі-фа-соль,
То, скажам шчыра,
Нават каралева Пава
Прамовіла: — Ці-ка-ва!
І Грак наогул захмялеў...
Вярнуўшыся дамоў, у родныя мясціны,
Ужо ён іншае запеў:
— Што гай бярозавы? Я тут закажанеў...
Патрэбен мне прастор (ну і аклад) арліны!
І паляцеў
За пушчы і даліны...
Занёсся высака, ды нізка сеў,
Бо Грак наш супраць тамашняга Салаўя —
Ну... неба і зямля!

Каго на ўвазе меў —
Няцяжка здагадацца:
Заўзяты кар'ерыст і тарбахват
Дзеля выгоды рад
І ад пенатаў родных адцурацца.

*4.10.57*

## ГУРМАН

«Простанароднай» ежы не ўжываў Гурман:
Капусты, бульбы, верашчакі...
На кухні «калдаваў» ён, што шаман,
Гатуючы ласункі і прысмакі,
І ў вочы ўсім пускаў туман:
— Ў кулінарыі дасягнуў я незвычайнага прагрэсу!
Такія па сваіх рэцэптах выдаю далікатэсы,
Якіх не нюхалі і каралі!
Не ежа, а — узор мастацтва!
Ды «выбрыкі» Гурмана й падвялі,
Ахвярай стаў уласнага штукарства.
Аднойчы атруціўся небарак:
Хоць трэсні — страўнік не прымае стравы —
Ні блюд замысләватых, ні прыправы,
Нібы ён захварэў на рак...
На просты харч — глядзець не можа нават,
І блізка не паднось!
Як чорт ад ладану, ён верне нос...
Аж страсяне ўсяго, аж загурчаць вантробы.
— Што за хвароба?
Ну які паставіць дыягноз? —
Шапталіся ўрачы паціху.—
Звалілася на галаву нам ліха!
Рабіць прыйдзецца з пацыентам штось...
І прыпісалі: солі горкае з рыцынай.
Але бездапаможна тут і медыцына!

Эстэты-фармалісты, ваша ягамосць,
Старая мудрасць у ваш адрас ёсць:
«Той страўнік, што ніякай стравы не прымае,—
Сам вартасці не мае!»

*2.2.58*

## ЛІСІНАЯ ТАКТЫКА

Вер людзям, ды не будзь занадта прасцяком,
Бо іншы дабрадзея носіць маску,
Каб пры выпадку абысці цябе цішком...
Паслухайце вось байку, калі ласка.

У лесе завялі даўно гаворку,
Каб Вожыку даць норку,
Каб з дзецьмі ён ад сцюжы не дубеў,
Каб нармалёва жыць мог і зімой і летам.
І Вожык моцную надзею меў!
Бо Лось, Мядзведзь гарантавалі гэта:
— Вось крышку пацярпі, нябога,
Жыллё здадзім
Ну і табе дадзім
Не норку, а бярлогу!
Ідзі. І не губляй ніколі веры...
(Ды не заўсёды спраўджваюцца добрыя намеры!)
...Хоць і вальготна Лісанька жыла,
Ёй цесна стала...
Яна да Вожыка лагодна падышла
І ветліва хвастом пушыстым заматляла:
— Ах, даражэнькі, да чаго я рада!
Такія вам апартаменты адвялі,
Ільвы ў харомах гэткіх не жылі...
Вось дзе увага, клопат і парадак!
Цяпер — паслухайце маю параду:
Пакуль будаўнікі здадуць той дом —
Дзянькоў яшчэ міне нямала...
Заходзьце да мяне ў ляском,
Я вам пуцёвачку бясплатную падрыхтавала
На Каўказ.
Бярыце і — адпачывайце!
Здароўе перш за ўсё, не забывайце,
Вы так змарнелі за апошні час...
Наш Вожык троху павагаўся,
Але ж ці разгадаеш Лісін ход?
Сабраўся
І... паехаў на курорт!
На сонцы грэўся, па пяску качаўся,
Прымаў электрапрацэдуры...
А Лісанька — настырная натура!

Мядзведзя і Лася
Тым часам ахмурыла
І Вожыкаву хатку адхапіла!
Вось тут і тактыка яе уся.

*12.11.57*

## ГЛУШЭЦ І ВЕРАБЕЙ

Няшчасце здарылася ў Вераб'я...
Ён да Глушца з бядою.
— Дапамажы! Ты, кажуць, птах з душою...
Век буду ўдзячны я!
Гняздо маё
Спаліла бліскавіца,
І з дзеткамі мне недзе прытуліцца,—
Чырыкаў Верабей пра горачка сваё.
Ну, а Глушэц ківаў маўкліва дзюбай,
Маўляў: «Спакойны будзь, падсобім, любы!»
...Прыйшла,
І адышла,
І зноў прыйшла вясна,
А ад Глушца — ні слыху
І ні дыху!
І што чакаць? Глухі ён, як сцяна.

Скажу вам (абы ціха!):
Надоечы хадзіў у гарсавет,
З натуры змаляваў Глушца партрэт.

*15.2.58*

## ЦВЫРКУН

За печчу, у цяпле,
Жыў-пажываў Цвыркун звычайны:
Піў квас, еў хлеб
І свой матыўчык цвыркаў аднастайны:
— Цюр-р-р! Цюр-р-р!
І век дажыў бы ціхенька, замкнёна...
Ды неяк ка-а-ррр-кнула Варона
Са званіцы:
— Ур-ррр-ра! Ён — майстар уверцюр!
Ён — таленту крыніца,
Якіх не ведаў свет!
А за Варонай іншыя грай узнялі услед:
— Маэстра ён, бясспрэчна!

Бывае, што ярлык прылепяць здуру,
І корчыць той з сябе «хвігуру»,
А як прыгледзішся — перад табой цвыркун запечны.

*21.4.58*

## НЯЧЫСТАЯ СІЛА

Агата
Ўвечары вярнулася дахаты
І толькі лоб
Перад бажніцаю перахрысціла,
Як тут на печы хтось засоп...
— Свят! Свят! Нячыстая згінь сіла! —
Спалохана яна загаласіла.—
Ратуйце людзі! О мой бог!—
І куляй вылецела за парог.
Такі ўзняла тут крык, такое галашэнне,
Такі перапалох,
Нібы здарылася землетрасенне...
Суседзі збегліся, прыджгаў з кадзілам поп
І хату акрапіў святой вадзіцай.
Але «нячысцік» не хацеў скарыцца —
Усё гучней ён вуркатаў і соп!
— А мо зладзюга ў хаце? —
Хтось падказаў Агаце.
— Міліцыю! Міліцыю сюды!
І хату ачапіце, каб не ўцёк мазурык...

І вось з міліцыі баец з'явіўся малады,
Уляцеў у хату, бы віхура,
І загадаў, вымаючы наган:
— А ну! Злазь з печы, шарлатан!
Ды раптам — бух! Раздаўся выстрал —
Узарвалася пад кажухом каністра,
І палілася на падлогу брага...

— Эге! Дык вось які тут соп «бадзяга»! —
Узрадаваўся міліцыянер.—
І ясненька цяпер,
Хто на маім участку
Гоніць самагон!
Патрапіла святоша ў пастку...
А колькі дзён
Яна дасціпна след свой замятала!
Мне здорава пашанцавала,
Выпадак дапамог!

...І самагоншчыцу павёў у аддзяленне.
А тая вохкала: — Мой бог,

За што ты напусціў такое ачмурэнне?
Я ж брагу ставіла сама...
Ну й падкузьміла
Нячыстая мяне тут сіла!

І бог, і чорт — усё дурман,
І прыкрывацца імі любяць вельмі —
Святошы, махляры і шэльмы.

*18.4.58*

## ВІЦЯЗЬ І МАНАХ

— Куды, о доблесны, твой шлях?! —
У Віцязя спытаў Манах.—
На шумны пір?
Ці ў гонар дамы сэрца
Спяшаеш на турнір —
Харобрасцю здабыць каханне і бяссмерце?
Ці скачаш па здабычу?
— Мяне Радзіма кліча!
Я еду на вайну.
— Ну-ну!
Спяшай, ратуй ад супастата нашу старану!
Я стану за цябе маліцца...

Манахаў у нас няма даўным-даўно!
І нечага аб тым журыцца...
Ды я скажу адно:
Калі ўзнімаем мы жыцця рашуча цаліну
Або ад ворага ратуем край свой родны,
Гатовы некаторыя схавацца за спіну
Таго, хто выправіўся ў шлях паходны.

*23.4.58*

## ВАДА І АГОНЬ

— Я на зямлі жыцця крыніца! —
Прабулькатала звонкая Вада.—
Патрэбна я садам,
Пшаніцам,
Расточкам маладым і векавым дубам,
Мурашкам клапатлівым і магутным львам,
Арлам і пчолкам!
Я ў кроплі дажджавой
І у тумане золкім,
Ў слязе людской
І ў хвалі акіяна,
Расінкаю блішчу з чароўнага цюльпана.
Тысячагоддзі, эры адышлі,
Мацерыкі ўсплывалі і на дно ішлі,
А я плюскочу і грукочу несціхана!
— Чакай,— спыніў Агонь Ваду,—
Ці не занадта дужа?
Ты без мяне была б стаячай лужай
Або агромністаю глыбінай ільду...
Я даў табе і рух, і сілу, і кіпенне,
Ад сонца я прынёс сваё гарэнне,
Я перамог і холад злы, і змрок,
Сваім дыханнем я сагрэў жыцця расток,
А ты яго, як маці, успаіла!

О чалавецтва! Ты было б стаячаю вадой,
Каб шлях вялікі твой
Не азарала розуму агністае свяціла!

*24.4.58*

## ПАКРЫЎДЖАНЫ ПАРСЮК

Сатыру напісаў Гусак.
Вядома, не шэдэўр, не ўзор мастацтва,
Але даволі смела высмеяў нахабства,
Бяздушша, фанабэрыю і хамства...
Ну і на ферме ўсе загаманілі так:
— Ён выхапіў жыцця кавалак!
— Ён уляпіў што ў сук!
— Такога свінства ў нас нямала!
— Ну-ну! — зарохкаў, лыч наставіўшы, Парсюк.—
Не пацярплю паклёпу!
Дых выб'ю вон!
І кішкі расцягну на тэлефон...
Каб не збіваў жывёл і птушак з тропу
І не рабіў падкопу...

Спытаеце: чаму Парсюк на Гусака напаў?
Ён у сатыры сам сябе пазнаў.

*3.5.58*

## ДВА РЫБАЛОВЫ

Сустрэліся два рыбаловы,
І гутарка зайшла у іх наконт улову:
— Ну як, браток? —
Спытаўся першы у другога.—
Што трапіла на твой кручок?
— Уга! Насцёбаў многа!
Аж рукі анямелі, а спіну праняў пот...
— А дзе ж улоў?
— Улоў? З'еў кот.
А ты што выцягнуў?
— Я — сома!
Пуды на тры!
— Ну і загнуў! Ужо знаёма...
Прыдумай іншае, бо на зубах аскома.
І не хітры.

Ды сустракаюцца не толькі рыбаловы,
Што пахваліцца мастакі.
Не столькі рыбы, колькі той лускі.
Ну, словам,
Чэшуць языкі...

*13.5.58*

## КОНЬ І ПЕНЬ

Убачыўшы, як з возам Конь кульнуўся,
Пляшывы Пень зарагатаў:
— Га-га-га-га! На чатырох капыллях не ўстаяў...
Як аб зямлю мардасай разануўся!
Не Конь, а недарэка...
Вось я жыву амаль паўвека,
Але, заўваж, ні разу шчэ не спатыкнуўся!
— Што выскаляешся, гніляк? Чаго бурчыш?
Як спатыкнешся ты, калі ў зямлі тырчыш...
Але якая ад цябе выгода?

Так іншы копціць неба дзень у дзень —
І ні карысці ад яго, ні шкоды,
Не памыляецца, чысцюткі ён заўсёды,
Ну, не раўнуючы — пляшывы пень...

*25.8.58*

## СОНЦА І ПУГАЧ

Пакуль Пугач здабычу паляваў,
Дык Сонейка ўзышло над небасхілам...
Драпежніка аж затрусіла:
«Як так! Яшчэ каманды я свяцілу не падаў,
А ўжо яно ўзнялося над зямлёю?
Ды гэна што такое?!»
І ён з пагрозай закрычаў:
— Адставіць! Не дазволю!
— Ого! Вось як! — пракаркаў здзіўлены Крумкач.—
Над Сонцам захацеў мець волю?
Ну і пацешыў нас, Пугач...
Хоць з выгляду ты генерал брыгадны,
Ды Сонейка табе непадуладна!

Як цемрашалы ні крычаць,
А Сонца рух ім не стрымаць!
Яно ідзе з усходу —
Нясе святло, жыццё, свабоду!
І сілы цёмныя ўсе перад ім дрыжаць.

*26.8.58*

## БЮРАКРАТЫ І СТРАТЫ

Ў кватэры Кузьміча са столі лінула вада.
Ён раніцою ў рэмкантору:
— Бяда, таварышы, бяда!
Патоп у хаце, ў хаце мора...
— Ды супакойцеся, грамадзянін. Які патоп?
Біблейскія пакіньце казкі!..
Ну праіржавеў дах... Ну капнула на лоб...
Дык пацярпіце, калі ласка.
Бач мне, вялікі страх!
Вось падашлём рабочага Драздова —
Уміг адрамантуе дах,
Ён рабацяга ў нас бядовы!
І сапраўды,
Драздоў «пад мухаю» з'явіўся:
Туды-сюды
Палазіў па гарышчы, пакруціўся,
Пабразгаў малатком і тут жа ўцёк.
А дах? А дах цячэ, як цёк...
Кавалкамі ляціць са столі атынкоўка,
Струхлелі бэлькі, можа быць абвал...
А ў рэмканторы той з квартала ды ў квартал —
Адна фармуліроўка
Ды адказ:
«Мы паклапоцімся пра вас!»
...Паклапаціліся, вядома,
Ды капітальны ўжо спатрэбіўся рамонт
І немалы грашовы фонд,
Бо прагніло амаль паўдома.

На гэтым байку закруглю.
Адно дадаць мне застаецца:
Дзе бюракрат-дзяляга забярэцца —
Няма ашчады там народнаму рублю.

*12.9.58*

## ПАЦУК І ДРУК

У скляпенні небаскроба
Жыў-пажываў Пацук...
Пацук не просты, а заморскі, белалобы.
І што б вы думалі? Кантраляваў ён Друк...
Як да ўзрыўчаткі, як да тола,
Прынюхваўся да кожнага радка,
Каб на старонкі не патрапіла «крамола»
І не дайшла да сэрца бедняка...
Ды раптам... асляпіла Пацука,
Нібы маланка, нібы бліскавіца:
«...Хай ззяе Сонца! І хай згіне змрок!..»
Накінуўся ён люта на радок,
Запрацавалі зубы у зласліўца,
Узняў і енк і піск:
— Чырвоную я знішчу прапаганду,
Што нам завезлі кантрабандай,
Пра сонца дыск...

Ды што напісана пяром —
Не высечы і тапаром!

*27.9.58*

## НОВАЯ МЯТЛА

Прыйшоў начальнік новы
Ва ўстанову
І з першых дзён
Пачаў парадак свой заводзіць!
Усё яму не так. Усюды «недахопы» ён
Знаходзіць!
— Мой кабінет —
Перамясціць у актавую залу,
Каб сонца і паветра мне хапала,
Каб працаваць я мог як след!
У планавы аддзел перасадзіць касіра.
У касу — бухгалтэрыю перасяліць,
А ў бухгалтэрыі — швейцара пасадзіць.
І пачалося: — Майна! — Віра!
З паверха на паверх
Сустрэчны рух і бег —
Сталы, машынкі, шафы, табурэты,
Паперы, картатэкі і газеты —
Цягае з раніцы да вечара ўвесь штат,
Кіпіць работа, ажно пыл курыцца!
Тынкуюць, беляць і кладуць накат,
Не кабінет, а — царская святліца!
Як дзень зімовы, прамінуў квартал,
І у начальніка спыталі:
— Як з планам? Як папрацавалі?
Прыбытак дзе? Куды вы грошыкі выдаткавалі?
Навошта гэны быў аўрал?
— Ды я... Ды Вы...— стаў «рэфарматар» заікацца.—
Вось праз гадок кантора б загула!..
...Але далі яму па шапцы.

Заўсёды, кажуць, новая мятла
Мясці ахвоча,
Усё перавярнуць імкнецца дагары...
Мяці, ды з розумам! Пыл не пушчай у вочы,
Бо новая ты — да пары.

*8.6.53*

## КУ-КА-РЭ-КУ!

Старому Пеўню дрэнны сон прысніўся,
Устрапянуўся ён і... з седала скуліўся,
Штомоцы крыллямі залапатаў
І хрыпаватым басам закрычаў:
— Ку-ка-рэ-ку! Пажар, браточкі!
Ратуйся хто куды-ы-ы!
Стары і малады...
Бо застануцца толькі вугалёчкі!
А следам Пеўнікі, як падгалоскі,
З двара у двор,
Ад вёскі і да вёскі...
Гарыць сыр-бор!

Хтось пусціць часам пагалоску,
А плеткарам і на руку —
Адразу закрычаць: — Ку-ка-рэ-ку!

*10.9.54*

## РЭКАРДЫСТКА

Карова нейкая паставіла рэкорд:
Дала сем тысяч кілаграмаў малака за год.
Вядома, лічба немалая!
Праславіла калгас, праславіла раён,
На выстаўцы прысуджана медалька залатая,
Карове спецыяльная дыэта, рацыён,
Кароўнічак шыкоўны збудаваны
І персанальны штат замацаваны:
Даярка, заатэхнік, ветурач, пастух,
Фатограф, кінасцэнарысты...
З яе зганяюць аваднёў і мух,
А пры кармленні — граюць цымбалісты!
Птушынага карове толькі не хапае малака...
А на рагуль другіх ды на быка —
Увагі ў той арцелі мала...
А рэкардыстка? Рэкардыстка знакамітая праз год
Бюджэт калгасны языком злізала
Ды шчэ ў дадатак, ад раскошы і даброт,
З каровы дойнай — ялаўкаю стала.

На п'едэстал каторага ўзвядуць
І моляцца нібы на бога...
Калі ж у корань спраў зірнуць —
На грош заслуг, а фанабэрый многа!
Даўно ён плесняю пакрыўся,
Даўно ў нахлебнікаператварыўся...

*16.2.57*

## ЛІПА

Бычка здалі на мясакамбінат,
Ён пацягнуў на цэнтнер з гакам,
А ў зводцы зроблена адзнака,
Што важыў ля паўтоны акурат.
Ў раёне зводку пакруцілі
У руках
І на свае і рызыку і страх —
Да тоны лічбу акруглілі:
«Вось гэтак мы якраз уложымся у план
Ды будзем у пашане!
Ну, а пакуль той выявяць падман —
Дык утрасецца ўсё, на месца стане...»
А ў вобласці сядзеў таксама зух,
Для міністэрства рыхтаваў ён справаздачу
І зводкі ўсе па-свойму перайначыў:
Дзе тона значылася — дацягнуў да двух,
Дзе дзве было — там тры паставіў,
Збалансаваў і па інстанцыі адправіў:
«Так будзе цот у цот! Ажур!
Камар сам носа не падточыць...
Калі ж рэвізія наскочыць —
Апіска! Выбачайце! Цур!»
...Дзядзькі чытаюць «нагары» і дзіву аж даюцца:
— Бычок і... столькі тон?!
Ды гэна ж бегемот! Ды гэна ж слон!
Так і да мамантаў, спрытнюгі, дабяруцца...

Няма чаго здзіўляцца і гадаць:
Другому тыпу —
Раз плюнуць — лічбу ў зводцы прыпісаць
І выдаць за сапраўднасць ліпу!..

*4.4.58*

## ЦАЦАРКА

Цацарку Певень напаткаў,
Паслаў яму красуню бог!
А ў пеўняў правіла: «Прыйшоў, убачыў, перамог!»
І Певень ля Цацаркі заскакаў...
Ды як да гэткай кралі падступіцца?
Завіўка модная, на кіпцях манікюр,
Пярсцёнкі, завушніцы,
Звышстыльны гарнітур —
Ступае важна, казырыцца!
І Певень-хват
Збянтэжана падаўся ўжо назад,
Ды тут Цацарка, нібы выпадкова,
Яго кранула злёгеньку крылом.
— Ах, выбачайце! — праспявала млявым галаском,
Зірнула двухсэнсова
І хвосцікам крутнула адмыслова.
— Нічога. Можна паўтарыць! — Ён у адказ баском.
Так слова зачапілася за слова,
І завязалася размова,
З аддаленых праблем —
Дайшлі і да сардэчных тэм...
Выходзіць — ён Цацарцы спадабаўся!
Тут Певень пра сям'ю, пра дзетак гутарку завёў,
Маўляў, да дзетак у яго прыродная любоў,
Што бацькам стаць даўно ўжо ён збіраўся...
— Н-ну-у! Гэта ты дарма! —
Цацарка адвярнулася панура.—
Дурніц няма
Псаваць чароўную хвігуру!
Калі да куранят аматар —
Бяжы на інкубатар!
І нечага мне пра каханне галаву тлуміць...

Ды іншай толькі... каб хвастом круціць.

*10.6.58*

## КРЫЖАК І КВЕТКА

Расла свабодна Кветка ў полі:
Хапала ёй і сонца, і паветра, і вады,
І ветрык навяваў сны аб шчаслівай долі,
І красавалася яна на волі!
Але... ад шчасця недалёка да бяды...
Аднекуля Крыжак з'явіўся,
На Кветку так і гэтак падзівіўся,
І глуха ён замармытаў:
— Я фарбамі тваімі паланіўся...
Падобнай пекнаты нідзе не сустракаў!
Адно — ты кволая, а ў свеце столькі небяспекі!
Ну як жывеш ты без апекі?
Паразважай сама:
І дождж, і град, і вецер, і спякота,
А над табой і даху простага няма...
Як церпіш столькі ты бядоты?
Табе я, любая, дапамагчы хачу:
Я над табой шацёр капронавы раскіну,
Ў парчу
І шоўк, як ляльку, укручу,
Абараню у небяспечную часіну...
І ён пачаў плясці на Кветцы павуціну —
Заткаў усю ад галавы да ног!
Так «дапамог»,
Што Кветка задыхнулася і без пары прапала...

Нямала
Такіх на Захадзе «апекуноў» —
Каб утрымаць народы пад прыгнётам,
Плявузгаюць з трыбун пра «дапамогу», пра «любоў»,
А спадцішка плятуць каланіяльныя цянёты...

*11.8.58*

# МАТЫЛЬ

Матыль з начы на вогнішча ляцеў,
А даляцеўшы — ён згарэў.
— Ну і дзівак! На што ён спадзяваўся?
Дзеля чаго ў агонь так рваўся?
Ці ж ён за праўду быў змагар? —
Зласліва празвінеў Камар.—
Блазнота!
Лепш змрок і зыбкае балота...

А я —
За матыля!

*1.1.59*

## МОРА І ЦУГУЦЫК

Цугуцык гойсаў па ўзбярэжжы мора,
І ад спякоты ці ад зморы
Цугуцык захацеў вады,
Апанавала гэткая сабаку смага,
Ён і туды, ён і сюды —
Няма паблізу прэснае вады!
Пачаў хлябтаць марскую той дварняга —
Чым болей п'е, тым большая ўзнікае прага:
— Я мора выжлукчу усім назло!—
Сабака пагражае...
Ды дзе там! Мора не ўбывае!
Цугуцыка як бочку разнясло,
А смага сушыць, смага дапякае...
І з роспачы і з гора
Шалёна забрахаў на мора...
Ды брэх той патануў у гуле хваль!

Мараль?
Яна як на далоні:
Ўзнімаюць люты лямант за мяжой
Цугуцыкі і сёння...
Ды хто з іх лічыцца брахнёй?

*12.3.59*

## КУРЫЦА І ГАЛУБКА

Галубка заляцела на птушыны двор,
Каб адпачыць, каб харчам там разжыцца,
Каб з конаўкі папіць вадзіцы,
Ды тут ёй Курыца засакатала у дакор:
— Скажы, будзь ласкава, чаго ты рвешся ў неба?
Карысць якая, што ты робіш піруэты, віражы,
Няма ж там ні вады і ні надзённага, як кажуць, хлеба!
Ну, растлумач, Галубанька, скажы...
Якая насалода у палёце! Які у вышыні той ідэал?
Ну, далібог, не уяўляю!..
І я часамі узлятаю —
На плот, на хлеў, на сенавал,
Каб тлушч сагнаць, крыху размяцца,
Але ні воплескаў мне, ні пахвал...
Наадварот, з мяне гатовы ўсе вакол смяяцца.
Калі ўжо гаварыць пра ідэалы,
Хадзем! Да ідэалу давяду!
І Курыца... на сметнік паказала.

У абываценя я, безумоўна, пападу!

*6.5.59*

# СЭРЦА І КАМЕНЬ

— Цвярдзей жалеза я і даўгавечней сталі!
Не старыць час мяне і не грызе іржа!
Ні слёзы і ні кроў мяне не хвалявалі,
Мне невядома, што такое жаль, спагада, жах...
Нямала год пражыў я без трывогі
І пражыву яшчэ багата год!
— О, так! Ты праляжаў шмат часу ля дарогі —
Халодны і глухі да ўсіх людскіх нягод,—
Загаварыла трапяткое Сэрца,—
Ды лепей смерць, чым гэткае бяссмерце...
Я зведала нянавісць і любоў,
За праўду білася і за свабоду,
Я не цярпела цемры, ланцугоў.
Як сонца зыркае, свяціла я заўсёды!
Мяне краналі: і птушыны грай,
І кветка, што з-пад снегу прарастала,
І слёзы, што праліў ратай,
І лёс Айчыны ў жорсткі час навалы.
Я, цяжкасцям і бедам насупор,
Жыло і не пераставала біцца,
Згарала, нібы метэор,
Каб з попелу, як фенікс, адрадзіцца!

Мы рыску падвялі
Ды дадамо на развітанне:
Бяссмерце на зямлі —
У працы і змаганні!

*7.6.59*

## ПРУСАК

Стары Прусак, якога выкляў бог
І выракліся людзі,
Які, бы мумія егіпецкая, ўсох,
На ладан хукаў, свет паскудзіў,
Убачыў недарэчны сон:
Нібыта ён
Вядзе ў паход крыжовы
Адборны, прусаковы
Легіён...
— Нах Остэн! Шнэль! Вышэй галовы!
Усё мы на шляху сваім змяцём!
Ніхто наш націск не стрымае!
Прад намі ляжа ўсё пластом...
Нас усявышні благаслаўляе!
Наперад! Марш!
Рэванш! Рэванш!
Чакае перамога нас і слава!
...Ды хай не цешыцца «ваяка» сном,
Як быў ён Прусаком трухлявым,
Так і сканае Прусаком!
Без лаўраў,
Без літаўраў...

Ну хто не трызніў Русь скарыць?
Захопнікі ў зямлі... А Русь — стаіць!

*11.7.59*

## КАПІТАН І РЫФ

Вёў карабель у бухту Капітан.
Дзесь засталіся штормы, ураганы,
Праглядваўся ўжо бераг праз туман,
Усё набліжаўся ён, доўгачаканы!
Вось толькі мыс скалісты абагнуць,
Прайсці між рыфаў асцярожна —
І можна ветразі згарнуць,
І якар кідаць можна!
А там — абдымкі родных і сяброў,
Усмешкі, пацалункі, музыка і кветкі...
І пад нагамі цвёрдая зямля ізноў,
Без хісткай палубы, без боўтанкі вось гэткай.
Ды нечакана судна скалануў штуршок,
І судна крэн дало набок,
У трумы хлынула вада імкліва,
І далей карабель плысці не змог —
Пад хвалямі затоены, маўкліва
Сваю ахвяру Рыф сцярог...

Бывае і на сушы гэтак:
Кругом, здаецца, лад —
Адолеў цяжкасці і блізкі ты да мэты,
Але наскочыш, брат,
Як карабель той, на падводныя каменні
І церпіш караблекрушэнне...

*10.8.59*

## «ПАРТНЁРЫ»

Ішлі дарогай два Партнёры,
І кожны ў грудзі малаціў:
— Цябе, мой дружа, я навекі палюбіў!
— А я, мой браце, для цябе звярну рукамі горы!
— А я і мора б пераплыў!
Так прысягаючы, ішлі
Ды на дрыгву ўзбрылі...
Адзін у багну — і загруз,
І тут распаўся іх «саюз»...
— Тану! — крычыць Партнёр.— Ратуй ад згубы!
Руку падай хутчэй,
Брат любы!
А то не ўбачыць мне ні жонкі, ні дзяцей...
— Чаго ты, як свіння, вішчыш?
Куды глядзеў раней ты, недалуга...
Ці павылазілі твае на старасць зіркачы?
Ці петрыш туга? —
Зарагатаў над ім другі Партнёр.—
Улез у прорву — сам і выраблялся!
На дапамогу, боўдзіла, не спадзявайся...
Забудзь на дагавор!
Маліся лепей богу...
Хай ён выцягвае цябе адтуль! —
І, пхнуўшы кіем паглыбей нябогу,
Закончыў здзекліва: — Пакуль!
І адвярнуўся ад Партнёра,
А той рабіў ужо «буль-буль»...

Вядомы норавы дзялкоў мацёрых:
Хоць клятвы вернасці даюць,
А трапіць у бяду каторы —
Яго ж у бездань падштурхнуць!

*9.9.59*

## «ПРАМОВА»

Пакрыўдзілі Кузьму...
Кватэры не далі ці абкруцілі у зарплаце.
(Маленькай шрубкай быў ён у вялікім апараце,
Ну і, як правіла, не шанцавала ўсё яму...)
Расла ў душы, збіралася гаркота,
Валілася з ягоных рук работа.
І вырашыў Кузьма:
«Маўчаць мне годзе!
Усё я выкажу на прафсаюзным сходзе,
Ці ж языка ў мяне няма?»
І ночку не адну на ложку ён качаўся,
Павек не зводзіў, крыўды ўспамінаў
І «грозную» прамову рыхтаваў...
Нарэшце сходу дачакаўся:
Прамоўцу замяняў прамоўца,
Казалі пра работу, адпачынак, дабрабыт,
Каго крытыкавалі, а каго узносілі на шчыт!
А наш Кузьма — ні слоўца,
Маўчаў, бы ў рот вады набраўшы...
А потым, ідучы дамоў,
З паўлітра «за каўнер» заклаўшы,
Размахваў кулакамі, як шалёны, роў,
Даказваў нештачка, раз'ятрана спрачаўся —
Ды ўсё на вецер... Ўсё дарма!..

Кузьма,
Не там ты кулакамі размахаўся.

*3.12.59*

## СНЯГІР І ВЕРАБЕЙ

Абстрэлены, бывалы Верабей
Убачыў, як Снягір падскокваў бесклапотна,
Даў крылейкамі знак: — Асцеражней
Будзь, госць залётны!
Канаплямі не надта захапляйся,
Бо дзе канаплі — там сіло...
Дзяўбі, ды прыглядайся,
Калі ты воляй даражыш, мілок!
— Бач, адшукаўся дабрадзей зычлівы,—
Снягір з пагардай свіснуў Вераб'ю,—
Ды на твае парады я плюю!
Я птах не палахлівы...
Дарэмна пра сіло чаўпеш,
Не ўдасца трук твой вераб'іны.
Мяне не правядзеш —
Табе канаплі не пакіну,
Мой ладна варыць кацялок!
...Ды тут Снягір заблытаўся ў сіло
І ў рукі трапіў птушкалова.

А сапраўды,
Хто безгаловы —
Таго і добрае не выратуе слова
Ад бяды.

*13.12.59*

## ВОЎК І «ГУМАНІСТ»

Параненага Воўка, што ўцалеў ад зграі,
Якісьці «Гуманіст» пашкадаваў:
— Навошта дабіваць? Ён ледзьве не канае...
Мажліва, і авечак ён не рваў?
Наогул — боскае стварэнне!
Як на душу браць грэх? Сам памяркуй —
Ён просіць літасці, ён просіць прабачэння...
— Глядзі! З Ваўкамі не жартуй! —
Прадбачлівы заўважыў Паляўнічы.—
Іх шкадаваць — табе не зычу!
Бо мудра кажуць у народзе:
«Як Воўка не кармі, а ён — у лес глядзіць...»
Але дарэмна дурню ісціны даводзіць!
Пачаў за Воўка «Гуманіст» сам воўкам выць...
Звярыну узваліў на карак,
У двор свой адвалок,
Сабраў кансіліум ветэрынараў,
Каб папярэдзіць шок,
Наклалі швы, убінтавалі раны,
Укол зрабілі, паўлівалі кроў —
Ля Воўка завіхаліся старанна,
Каб ён на ногі ўстаў ізноў.

Ад харчу сытнага, ад добрага нагляду
Звяруга ачуняў, наліўся сілай утрая!
І «Гуманіст» быў дужа рады:
— Заслуга ў тым мая!
Я клапаціўся не ўпустую!
Цяпер я Воўка памуштрую,
Падвучу,
А потым нацкую звяругу на суседа
Ды з ланцуга спушчу,
Звяду рахункі напаследак
І з Паляўнічага парагачу!

...Так Воўк у «Гуманіста» гадаваўся,
Калі ж яго спусцілі з ланцуга
І закрычалі: — Піль! Цюга! —
Каб за суседа ён узяўся,
А Воўк, бы ашалелы сатана,
Накінуўся на...
Апекуна!

— Ратуйце! Каравул! Не дам звярузе рады!
Дапамажы, сусед! Задушыць люты звер! —
Заенчыў «Гуманіст».— Прыкончы гада!

Гадуюць імперыялісты бундэсвер,
Каб нацкаваць яго на СССР...
Ды мы заўжды напагатове,
Каб даць рашаючы агрэсару адпор!
А як жа вы, панове,
Калі ён кінецца на ваш уласны двор?

*14.12.59*

## ДРОЗД І ВАРОНА

З Драздом пайшла Варона на заклад:
Што лепш спяе, бо лепшы голас мае,
Што першы прыз, бясспрэчна, атрымае,
Бо тут, маўляў, яе прымат,
І што Драздў з ёй нечага цягацца...
Каб спрэчку вырашыць бакоў,
У талентах каб разабрацца —
Утворана журы з масцітых знатакоў:
Савы вушастай, рыжай Чаплі,
Глушца, Цяцеры, Кажана,
Луня балотнага ды Бацяна,
Якія бачылі не гэткія спектаклі!
Вось знак абодвум падалі,
І канкурэнты нашыя дуэтам завялі!
Дрозд засвістаў мелодыю натхнёна:
Пра гай, пра сонца, пра блакіт нябёс,
Пра любую, з якой звязаў свой лёс,—
Такія трэлі, мадуляцыі ён вырабляў са звонам,
Што Бацяна і Чаплю аж крануў да слёз...
Ды тут закаркала Варона
Узапар, нібы на пажар:
— Кар-кар!
Кар-кар!
Аж рэха страсянула бор зялёны,
Аж застагнаў вакол абшар...
Як з усёй моцы Дрозд ні напінаўся,
Якія ноты ён высокія ні браў —
Ахрып гаротнік, голас свой сарваў
І... перад карканнем вароннім — здаўся,
Зваліўся непрытомны у імшар...
А ўверсе пераможны рокат разлягаўся:
— Кар-кар!
Кар-кар!
...Хоць Чапля ды Бацян аспрэчвалі рашэнне,
Журы па большасці рашыла так:
«Перамагла Варона. Факт!
Ёй першы прыз, няма сумнення!»

Для доказаў не трэба многа слоў —
Лёс мастака падчас залежыць ад цяцер і ад глушцоў...

*3.1.60*

## ДАЛЯГЛЯД І ВЕРХАГЛЯД

Работніку раённага маштаба
Параілі пашырыць далягляд:
— Жыццё, шаноўны, ведаеш ты слаба,
Заседзеўся у кабінеце, брат...
— Ёсць! Будзе зроблена! Ўлічу! —
Ён казырнуў бадзёра,
І скора
Пажарную абжыў ён каланчу!
Перацягнуў туды і стол і тэлефон,
Узброіўся падзорнаю трубою...
Раней па зводках ведаў ён
Раён,
Цяпер — зусім другое!
Як на далоні ўсё відаць:
Лясы, лугі, палеткі,
Хаціны, свірны і паветкі,
І хлебаробаў галасы чуваць —
Аж вока радуе разгорнуты пейзаж!
Кіруй, камандуй і праводзь па тэлефоне інструктаж...

Запомні, верхагляд:
Хоць ты кіруй з аэраплана —
Жыццёвы не пашырыш далягляд,
Бо верхаглядства — стыль заганны.

*11.1.60*

## ПОП І КЛОП

Паеўшы ладна, Поп
Перажагнаўся спакваля на абразы святыя,
Стаў пазяхаць: «Даруй, ўладыка, слабасці зямныя...»
На ложак апусціўся, уздыхнуў і соладка захроп,
Так носам затрубіў, нібы архангелы у трубы залатыя!
Што снілася яму — тут знае толькі бог:
Кабета пекная, ці сан мітрапаліта,
Ці велікодны падрумянены пірог?
Прыцмокваў языком ён гэтак смакавіта,
Нібы на райскі ўжо ступіў парог!..
Ды ў гэтую салодкую хвіліну
Айцу святому ўпіўся ў лоб
Галодны Клоп!
Поп скурчыў міну,
Падхапіўся
І на Клапа са злосцю напусціўся:
— Ах, басурман!
Ах, паразіт скажэнны!
Як ты асмеліўся так апаганіць сан
Свяшчэнны?
З каго ты кроў надумаўся смактаць?
Агідная пачвара!
— Навошта, баця, бушаваць?
Зірні ты на сябе: які наеў ты карак!
Калі нас параўнаць,
Перад табою я — пігмей...
Ты цягнеш сокі з адурманеных людзей
Куды мацней!
І на цябе няма нябеснай кары...

Я так скажу пра гэту пару:
Маштабы розныя і габарыты,
А сутнасць іх адна — абодва паразіты.

*13.1.60*

## ХАЦІНА І АЎТАРЫТЭТ

На малацэ як апячэшся,
Дык дзьмухаеш і на сцюдзёную ваду...
Пра гэта байку павяду.

— Чаго ты чмыхаеш? Чаго ты гнешся,
Братка?
Ты на паперы лепш зірні:
І штамп стаіць, і гербавая круглая пячатка,
І подпісы як след! Дык не цягні,
А выдай лесу мне на хату
Ды будзь здароў,
Жыві багата!
А пабудуюся — прашу у госці, на замочку тых вуглоў! —
Даводзіў пагарэлец старшыні аднога сельсавета.
— Ўсё правільна, канешне, гэта...—
Патыліцу пачухаў старшыня.—
Але ж мяне ты зразумей таксама:
Калісьці пагарэў і я...
Вось гэна была драма!
З раённай вышкі я зляцеў кулём...
А з-за чаго? Вось ты б спытаўся,
А я і адкажу ладком:
Занадта давяраўся,
Дэвізам састарэлым кіраваўся:
«Падпісана — і з плеч далоў!»
І наламаў аднойчы дроў...
Вось дакуменцік гэтакага роду
Праштампаваў пячаткай з ходу,
Свой подпіс крутануў,
А сам, як бачыш, тутка апынуўся...
А ты гаворыш, каб я не цягнуў!
Навучаныя ўжо! Ты едзь дамоў, а я памалу разбяруся
І лесу на халупу, мабыць, дам...
Табе нявыкрутка, а як жа нам,
Кіраўнікам?
Ну, пацярпі... Не курчы міну!
Табе я ісціну адну жыццёвую падкіну:
Лепш пагарэць — чым падарваць аўтарытэт...
Яго не адбудуеш хутка, як хаціну.
Прывет!
Хто там наступны? Калі ласка ў кабінет.

*22.1.60*

## АСІЛАК І ВЯДЗЬМАР

Асілка некалі зачараваў Вядзьмар,
Атрутным апаіў якімсьці дурнап'янам,
І рукі закаваў і ногі ў кайданы,
І кроў смактаў з яго, нібы кальмар.
Але падзьмулі свежыя вятры,
Асілак уздыхнуў, расплюшчыў вочы
І загрымеў: — Даволі ночы!
З зямлі маёй — прэч, ведзьмары!
Устрапянуўся, путы разарваў,
Устаў
І, як вулкан, загрукатаў!
...Вядзьмар за дапамогаю — да чорта, да самога д'ябла:
— Ратуй! Інакш — труба!
Мая улада ўжо аслабла,
З Асілкам не па сілах барацьба...

Паўстала Афрыка! Кіпіць, нібы вулкан!
Як той Асілак, разрывае путы!
Трашчаць каланіяльныя статуты...
Ні чорт, ні д'ябал, ні заморскі пан —
Ярма не ўздзенуць зноў таму народу,
Які ачнуўся і адчуў свабоду!

*23.1.60*

## ЛЮСТРАНЫ КАРП

Люстраны Карп (не просты, а люстраны!)
Узяўся за раманы...
«Парадую я свет! Усіх здзіўлю! —
Самаўлюбёна мроіў з асалодай.—
Такую эпапею адлуплю,
Што ў прэсных і салёных водах,
Як бура, прашумлю!
Сучаснікі, далёкія нашчадкі
Пачнуць чытаць мае сямейныя нататкі...»
І ў твань залёгшы, ў халадок,
Карпеў, крамзоліў за радком радок...
Нарэшце скончана «цяжкая» праца,
Пайшла ў набор і пачала ўжо друкавацца,
А аўтар плаваў і ад пыхі раздзімаўся:
— Ну ці ж не класік я?!
Хто мне раўня?
Я над усімі рыбамі узняўся!
Такі стварыў духоўны скарб!
Бо я не просты, а люстраны Карп!..

Нядаўна прачытаў адзін «раман»...
Вады — ура! Вады — даволі!
А солі, неабходнай солі —
Ні каліва няма.

*1.2.60*

## ЧАЙНІК І НАЧАЛЬНІК

Бляшаны Чайнік
Ускіпеў,
Затросся, засіпеў,
Запырскаў варам з яго гнеў:
— На кухні — Я начальнік!
За ўсіх Я на агні пякуся!
Як толькі Я не разарвуся?
Што мне Чугун? Што мне Каструлькі?
Патэльня і стары Чарпак?!
Не стану чыкацца Я і гуляць ў бірулькі...
Старых паразганю! Прыцісну маладняк!
Я навяду парадак тут жалезны!
Тут кухня, не кірмаш!
Гарланіў, казырыўся ён пампезна,
Кіпеў ды накаляўся
І... распаяўся —
На сметнік трапіў Чайнік наш...

О шэф! Шаноўны ты начальнік,
Здароўечка сваё пабераж<br>ы...
Не кіпяціся, як той чайнік,
А калектывам — даражы!

*1.2.60*

## ПАДАРОЖНЫ І ТЫГР

Праз лес таёжны
Ішоў з аглядкай Падарожны,
А ззаду, след у след,
За чалавекам краўся асцярожна —
Тыгр-людаед.
То ён з бакоў заходзіў, то наперад забягаў,
То ў бураломе звер рабіў засаду...
Ён зручны момант выбіраў
Для нечаканага нападу.
А чалавек быў начыку:
Ён кожнаю хвілінкай
Чакаў суровай схваткі, паядынку,
Трымаючы свой палец на узведзеным курку...
Ды колькі не ідзі, а трэба прыпыніцца,
Каб чарвяка, дарэчы, замарыць,
Каб адпачыць,
Каб люльку выкурыць, ад сну адбіцца.
Ды, перш чым кайстру зняць з пляча
І ўзяцца за вячэру,
Разводзіць Падарожны вогнішча пачаў,
Каб адпалохаць пры выпадку звера.
— Ды што ты робіш, галава?! —
Тыгрыны роў з лясных данёсся нетраў.—
Атручваеш куродымам паветра!
Пасохнуць дрэвы, выгарыць трава,
І птушкі шчабятаць не стануць —
На ўсіх наклічаш ты бяду!..
— Замоўкні, Тыгр, бо стрэльбу навяду!
Не возьмеш ты мяне ні сілай, ні падманам...
Твой нораў мне здаўна вядом,—
Прагаварыў спакойна Падарожны,—
Не дымам ты спалохан, а агнём,
Якога звер баіцца кожны.

Мы любім неба чыстае, без хмар,
Паветра свежае, стаім за мір на свеце,
Але таму, хто пагражае смерцю,
Гаворым мы у твар:
— Вам не пазбегнуць справядлівай кары!
На ваш удар —
Адкажам сакрушальным мы ударам!

*2.3.60*

## БУРБАЛКА

Магутная рака імкнулася наперад,
І перад ёю адкрывалася за даллю даль!
Тут знізу, на паверхню хваль,
Ўзнялася Бурбалка, заганарылася без меры:
— Вяду адна я рэй!
Куды я павярну — туды й рака спяшае,
Адна я ведаю, адна я знаю —
Куды ёй плыць! Цішэй або барздкэй...
Пакуль так Бурбалка спявала,
Яе да берага патроху прыбівала...
Ды тут
Наскочыла яна на тонкую сцяблінку,
І Бурбалцы — капут!
Не засталося нават і ўспамінку...
Ну, а рака плыве без перапынку
І не мяняе свой маршрут!

Узнімецца падчас над калектывам
Прайдоха-прайдзісвет
Ды выхваляецца пыхліва!
А як дадуць яму пад зад — і дзіва:
Нібы ад бурбалкі той мокры след...

*4.3.60*

6 Зак. 612

# РАГАТЫ «АНЁЛ»

Казёл унадзіўся ў распусту:
Сягоння ён адной закруціць галаву,
Назаўтра новая каза па густу,
А там і з трэцяю скубе траву...
З двара у двор, ад статка і да статка.
— Даскачашся ты, братка! —
Перасцярог Бугай.—
Крыху свой юр стрымай,
Бо абламаюць рогі,
Так некалі намнуць бакі,
Што ў хлеў не знойдзеш ты дарогі...
— Ах, страх які!
Глядзі, як напужаўся! —
Затрос рагаты сівай барадой.—
Яшчэ казёл не нарадзіўся той,
Які б са мною сілаю зраўняўся!
...Але наскочыла каса на камень —
Знайшоўся на яго казёл з мацнейшымі рагамі
І так бадзягу скабы наламаў,
Што ледзьве дуба той не даў...
Ажно ўзмаліўся барадаты:
— Браток! Хоць паўжывым ды адпусці ты ў двор!
Дальбог, не я, а козы вінаваты...
Няхай на іх чума і мор!
А я, павер, святы анёл, дармо рагаты...

Бадзяга-хват
Гарцуе ля кабет і ля дзяўчат.
А наламаюць яму скабы —
Заблее, нібыта казёл:
— Невінаваты я! А вінаваты бабы...
Бязгрэшны я анёл!

*18.4.60*

## АРОЛ І ЗМЯЯ

У час землетрасення
Змяя патрапіла ў бяду:
Засыпала ўсе вылазы каменнем,
Не выпаўзці па харч і па ваду.
Хоць з голаду здыхай ты у прадонні цесным,
Хоць галаву раструшчы аб скалу...
Ды тут убачыла яна Арла ў блакіце паднябесным
І узмалілася Арлу:
— Будзь літасцівы, выцягні з каменнай дамавіны!
А то адна я тут загіну...
Хай будзе сведкай бог,
Табе удзячна буду я да скону,
Што ты мне ў горы дапамог,
Не адвярнуўся ад маіх малітваў і заклёнаў...
І злітаваўся з гада горды птах:
Спусціўся у прадонне смела
І ў неба ўзняў Змяю ў магутных кіпцюрах.
Змяя тут засіпела
Ды ў сэрца ўджаліла Арла.
У тым змяіная удзячнасць і была...

Усё тут ясна:
Друг пападзе ў бяду — руку падай!
А гада — дабівай,
Бо згінеш сам дачасна...

*20.4.60*

## ПРЭФЕРАНС

Праныра-кар'ерыст
Даведаўся, што шэф — прэферансіст.
«Вось гэна добра! Вось дарэчы!
І як раней я не дапяў
Каля начальства пакруціцца вечар —
Ого! Тут часу б я не змарнаваў!..»
І неяк у суботу,
Калі атрыман быў аванс,
Сабралася пасля работы
Кампанія у прэферанс...
Ў «адкрытую» і ў «цёмную» ідуць,
Патрошку выйграюць і прайграюць,
Вось толькі кампаньён іх новы,
Не разумеючы, здаецца, карт,
У гэткі увайшоў азарт,
Што залажыць штаны ён быў гатовы...
— Бач, тэмпераментны стручок! —
Начальнік задаволена смяецца.—
А мне трубілі — першакласны ты ігрок,
Што папацець з табою давядзецца...
Ці паддаешся назнарок?
— Ах, што вы! Я гуляю слаба!
Ды шчэ і не шанцуе, як на грэх...

Ён шэфа вырабіў бы пад арэх,
Ды ведаў, што начальнік любіць хабар,
Ну і зрабіў умела рэверанс —
Падсунуў хабар далікатна —
Прайграў аванс.
Глядзіш, праз некаторы час
Уладкаваўся ў апараце ён выдатна!
Што значыць з розумам гуляць у прэферанс!

*27.8.60*

## ТЛЯ

— Вунь там жывуць! Ото жывуць!
Гамашы ўзяць — няма ім зносу...
А гарнітур? Прыемна апрануць!
А што ядуць?
Што п'юць?
Не харч, а — казка! Не пітво — дзівосы!
У кожнага уласны лімузін,
А хочаш — верталёт спускаецца на ганак —
Ляці у магазін
Ці да каханкі на спатканак...
А танцы? Бугі-вугі! Рок-н-рол!
Экзотыка! Прагрэс! Культура!
— Заціхні, балабол,—
Хтось абарваў малакасоса хмура.—
Ды дзе ты рос? Ды дзе ты гадаваўся,
Што гэткай каламуці нахлябтаўся?
Каб ты за Бацькаўшчыну кроў праліў,
Каб зведаў пот нялёгкай працы —
Тады б не стаў заморскім захапляцца,
А родны б край любіў!
А то трымаецца за матчыны спадніцы,
Не зарабіў сумленна і рубля,
А распачаў плявузгаць небыліцы...

Бач, выпаўзе такая тля —
Глядзіць на свет цераз кішку сляпую...
А мітынгуе!
Як церпіць погань гэткую зямля?

*12.9.60*

## ПАЧУТЫ ДЫЯЛОГ

— Ці чуў? Рыгор Іванавіч пакінуў працу...
Так-так!
Без дай прычыны. Ну й дзівак!
Ці ж зможа ён яшчэ так цёпла ўладкавацца?
Сядзеў бы ўжо, як пад мятлою мыш...
А ён, глядзіш —
Заганарыўся!
Супроць начальніка пайшоў...
Не даказаў нічога, не дабіўся,
А на сябе вось цень навёў...
— Ды кінь плявузгаць на Рыгора!
Я ведаю яго не першы год:
Сумленны чалавек, не абармот,
У справе разбіраўся, працаваў заўсёды без дакору.
Напэўна, крыўды вынесці не змог...
Начальнік ваш такі ужо нудота,
Як стане пілаваць — дык зваліць з ног
І таўстаскурага, бадай-што, бегемота!
— Якая крыўда? Ну якое пілаванне?
Ну, скажам, перацёр з пяском,
Ну прачытаў табе ён павучанне...
Дык змоўчы. Дык прыкінься ты цялём.
Паттакні. Усміхніся.
Па-ві-ні-ся!
Ці ж я калі б не змог
Свой паказаць начальству нораў?
Навошта. Ці ж сабе я вораг?..
Яно ж сагне мяне ў баранні рог!

Дзе спіны падхалімы і маўчальнікі згінаюць —
Там самадуры сілу маюць.

*15.9.60*

## КЛІМ-МАЛАВЕР

Нікому добрага Клім не зрабіў павек,
Адно — гроб пад сябе, шукаў карысці і выгоды...
У іншых радасці былі, нягоды,
А тут як воўк жыў чалавек.
Што Кліму ні скажы — гатоў адказ у Кліма:
— Хлусня! Таго не можа быць...
Памацаю рукой, убачу ўласнымі вачыма —
Тады паверу я, магчыма,
А так... няма чаго мне галаву тлуміць...
Яму вы пра касмічную ракету,
Пра небывалы ураджай на цаліне,
А ён сваё ўсё гне:
— Лухта! Чаго там не напішуць у газету!
Усё ад бога — ўродзіцца ці не...
Або вазьміце латарэю —
Навошта ж мне рызыкаваць?
Ці ж я дурны, каб грошы кроўныя на вецер выкідаць?
Што-кольвечы ж я разумею!
Я лепш на рынку пакручуся,
Пушчу свой капітал у абарот
І гарантую, што абзавядуся
Уласнай «Волгаю» праз год!

Жыве ж на свеце гэткі жываглот...

*21.9.60*

## «ПАДПОЛЬШЧЫК»

Мікодым кінуў піць...
Вось сапраўды дзівосы!
Ну як цвярозым уявіць
Такога капітальнага п'янтоса?
Раней ў сваё бяздоннае нутро
Гарэлкі ўбухае з вядро —
І мора для яго, бач, па калена...
І майце — перамена:
Пры людзях дзьмухае ён нават на баржом,
Нібы той пыхае агнём!
(Такі ён стаў «свядомы»!)
Адно дзівіліся усе,
Што перагарам ад Мікодыма, як і раней, нясе...

Адгадка простая, вядома:
Ён п'е, як піў,
Але методыку змяніў —
П'е па начы, пад коўдраю, гарэлку,
А днём — мінводы на пахмелку.

*6.2.61*

## БАРАН І ТРУС

Далі адстаўку Барану,
Ён прачытаў загад: «Ну што ж? Адстаўка — дык адстаўка.
Як мог цягнуў...
Узнагароды, прэміі былі. За выслугу ідзе надбаўка.
Бадай-што можна на спачын...
Усё салідна, па закону.
Мне крыўдзіцца няма прычын».
І ён падыбаў да свайго загону.
Але праз некаторы час
Баран узбунтаваўся!
З крыніц дакладных ён дазнаўся,
Што Трус прызначаны замест яго якраз.
— Ды гэта ж мне знявага!
Хто на маю пасаду сеў?
Якісьці Трус-трусяга!..
Чым думаў Леў,
Калі яго прызначыў?
Якія якасці у ім убачыў?
Які з яго, даруйце, кіраўнік?
Дзе бас? Дзе самавітая пастава?
Дзе баявая слава?
Дзе той камандны зык?!
Ды гэта ж не па Хомку шапка!
Перада мною Трус хадзіў на задніх лапках,
І майце — навіна,
Трус — пераемнік Барана!
Ці ж гэта не пацеха,
Ці ж не было кандыдатур мажней?
Або прызначылі яго для смеху...
— А ты, Баран, цішэй,—
За Трусіка Кот заступіўся,—
Чаго ты расхадзіўся?
Адно ты ўцям, адно ж уразумей:
Хоць знешне Трус не гэткі самавіты,
Затое сціплы, дзелавіты,
Без крыку справы ён вядзе ладком.

Навошта трэск, і гром,
І фанабэрыя, і пыха, і пагардная пастава?
Галоўнае, каб рушыла наперад справа.

*29.2.61*

# НЭНДЗА

На ўзлеску ніцая Бяроза
Рыпела, пралівала слёзы:
— Які мой горкі лёс!
Я кволая... Зусім здароўечка не маю...
Ледзь-ледзь трымчу, ледзь-ледзь трываю...
У сэрцавіне у маёй склероз...
Мяне то вецер прыгінае,
То спёка, то мароз даймае...
Не смокчуць соку з глебы карані,
І караед грызе, і шашаль точыць —
Няма спачыну мне ні днём, ні ноччу,
Дзе ні крані —
Усё баліць, пячэ і ные...
Апошнія я дажываю дні!
...А час ішоў! Паблізу рушыліся дрэвы векавыя:
Засохла стройная Сасна,
Маланкаю спаліла Дуб, Асіна без пары струхлела,
Ну, а яна —
Рыпела ды рыпела...
І чорт яе не браў!

Такой бы нэндзы я сказаў:
Здароўе у цябе, што ў бегемота,
Дык не стагні, бярыся за работу!

*3.4.61*

## БЕСПРАЦОЎНЫ ЁРШ

Калючы Ёрш
Аднойчы з Ментузом па службе пасварыўся
І прынцыпова разлічыўся.
«Ці ж я каштую грош,
Каб на хвасце ды перад ім круціўся?
Або дрыжаў, як той Пячкур?
Не! Я не з тых натур!
І розум я, і гонар маю
І самадурам здзеквацца з мяне не дам!
У крайнім выпадку — я лепш пагаладаю,
Пакуль работу падшукаю,
Ды мною папіхаць не стане нейкі хам».
І, пляснуўшы хвастом, ён да Ляшча падаўся,
Які ў затоцы адсыпаўся.
— Прывет, начальнік! (Так, маўляў, і так...)
Казалі мне, ёсць у цябе вакантная пасада —
Прыслужвацца я не мастак,
А ў працы ведаю і толк і смак!
— Ну што ж, прыняць такога рады,—
Салодка пазяхнуў спрасонак Лешч,—
Праз тыдзень падплывеш,
Як толькі я ўтрасу пытанне з Сомам,
І аддамо загад.
Бывай! — І, абнадзеяны, паплыў той Ёрш дадому.
А Лешч — за тэлефонны апарат:
— Ал-ло! Мянтуз Мянтузавіч? Здарова!
Што атрымалася ў цябе ■ Яршом?
Прыплыў вось да мяне... Біў, як гаворыцца, чалом...
Не раіш браць? Няўжыўчывы? Задужа прынцыповы?
Ну, дзякую за інфармацыю... Лады!
Нічогачка... Як-небудзь адкаснуся!
...І так, куды б той Ёрш ні ткнуўся,
Адказ быў ветлівы, аднолькавы заўжды:
— Шкада! Прыйшоў ты пазнавата...
Запоўнен пад завязку штат.
...А вінаваты
Быў Мянтуз лупаты,
Што налягаў на тэлефонны апарат.

Хачу, каб байка гэта
Ударыла Мянтуза па хвасце,
А рыкашэтам —
Таго, хто слухае, што ён пляце!

*26.6.61*

## БАЦЬКА І СЫН

Ў дарогу Бацька Сына выпраўляў
І, маючы багаты вопыт за плячыма,
Адну мудрэйшую другой парады ён даваў,
Запомні — і звіхнуцца немагчыма!
Але як вырваўся Сын за парог,
Як ён ступіў у свет шырокі,
Забыў адразу бацькаў маналог,
Усе яго парады і урокі...
«Ды мала што наплёў мне мой стары!
Я сам не лыкам шыты, маю вусы:
Б'юць — уцякай, даюць — бяры!
І нечага разводзіць тут турусы...»
І выкаціўся на жыцця бальшак
Бясклопатна, як на бліны да цешчы,
Нібы навюсенькі, зіхотлівы пятак,
Без шрамін, без умяцін і без трэшчын.
І узялося за яго жыццё:
Не столькі лашчыла, як мяла...
У сэрца кідала асцё,
Гаіла раны, дыхту зноў давала!
Дабром і злом не абдзяліў яго ў дарозе лёс!
І зразумеў ён розумам і сэрцам канчаткова:
Калі гаворыць Бацька слова —
Не варта з пыхай адварочваць нос!

Ў фактуры байкі і сама выснова.

*3.7.61*

## ДОЛАР І РУБЕЛЬ

На міжнародным рынку ці на кірмашы
Сустрэўся Долар з новенькім Рублём.
— А, канкурэнт стары! Ну як жывём?
Якія маем барышы?
Гавораць, што ты ў сілішчу вялікую ўвабраўся?..—
Ён прад Рублём нахабна выскаляўся.—
Давай падужаемся на руку!
Хто з нас мацней, хто з нас трывалей,
І перамога будзе на чыім баку...
Не гэткіх малайцоў мы на лапаткі клалі!
— Падужацца? — перапытаў Рубель.—
Прызнацца, гонару я ў тым не бачу,
Але калі ты надта скачаш,
Дык пыху я з цябе саб'ю, круцель!
Давай далонь, сядай за стол напроці,
Як хочаш растапырвай локці
І націскай, калі сілёнка ёсць...
Ну пачалі! Трымайся, ягамосць!
...Тут Долар як ні напінаўся,
Як ні чапляўся —
Рублём прыціснуты быў да стала...
— Вось так, васпан, каб больш не зазнаваўся!
Твой курс упаў, а моц мая ўзрасла!
Нясеш народам ты і рабства і галечу,
А я — свабоду і жаданы мір!
На мне Серп, Молат — сімвал чалавечы,
А твой кумір —
Рабункі, беспрацоўе, войны...
А ну з дарогі прэч! Пастараніся, сэр!
Ідзе Рубель працоўны,
Рубель СССР!

*6.7.61*

## «КАВАЛЬ»

Прыбіўся дзядзька гаваркі ў калгас
І папрасіў якое працы.
— Ды што ты можаш? Чым парадуеш ты нас? —
У прышлага тут пачалі пытацца.
— Ды я, прызнацца, кіраваць люблю,
Карысныя даваць парады,
Як не пакрыўдзіце мяне акладам,
Для грамады я шмат зраблю,
Бо адпаведныя прайшоў навукі...
Вы толькі дайце лейцы ў рукі!
— Ну, а з кавальскім рамяством
Знаём?
— А як жа! Змалку прыглядаўся...
— Вось мы цябе на кузню і пашлём,
Рабі сумленна,
Ды не баўся,
Часу не марнуй,
Адменна
Інвентар калгасны рамантуй!
...І ўзяўся дзядзька той рабіць нарог;
Б'е молатам што мае сілы,
Стараецца, пацее, далібог,
І свет ужо яму не мілы,
Жалеза плешчацца, а не куецца,
Ну хоць ты плач...
Ажно памочнік з «майстра» ўжо смяецца:
— Партач!
Не поп — не апранайся ў рызу...

Карысна зверху крытыка і... знізу.
Каторы зух прывык
Ледзь не з пялюшак да кіруючай пасады
І дужа спрытны на язык,
А дай яму кувалду —
Выйдзе пшык...

*20.8.61*

## ЛЕЎ І БУЛЬДОГ

У Льва памочнікам служыў Бульдог,
Ён толькі тым і вызначаўся,
Што каля ног ягоных ціраўся
Ды гыркаў на усіх як мог,
За што Ільвом, вядома, патураўся.
— Карысць якая ў ім? —
У шэфа запыталі.—
Памочнік, і гультай, і ёлупень, і падхалім...
Якія якасці вы адшукалі?
Ён падрывае толькі ваш аўтарытэт!
— Тут ёсць адзін сакрэт,—
Прамовіў Леў з ухмылкай,—
Мажліва, ён і не хапае зор,
Мажліва, часам зробіць дзе памылку...
Затое — нюх! Службіста жылка!

Скажу я некаторым у дакор:
Падчас шануе тых начальнік —
Ў каго спіна не клічнік, а — пытальнік...

*2.2.62*

## БЮРАКРАТ І АПАРАТ

Спатрэбіўся рамонт хаціне,
Сабраліся на кухні жыхары:
Гаспадары
І гаспадыні
Заяву напісалі калектыўна,
Паставілі ўсе подпісы як след
І падалі аператыўна
Паперу ў гарсавет,
Ды пачалі чакаць рэагавання.
Мінае час — ні гуку, цішыня...
Ды кажуць, рэзалюцыю «Да выканання»
Наклаў размашыста шаноўны старшыня.
І закруцілася заява —
З аддзела у аддзел, бы той вятрак.
Хто далікатна, хто карава,
Хто прама, хто і наўскасяк —
Усе, хто не паленаваўся,
У росчырках пяра над ёй практыкаваўся!
Пакуль не трапіла папера пад сукно...

Вядома ўсім даўно:
Калі начальнік установы
Чынуша, валакітчык, бюракрат —
Дык падбярэ абавязкова
І адпаведны апарат.

*4.3.62*

# СВІННЯ І КАЗЛЯНЯТКА

Па волі лёсу
Свіння начальніцаю стала!
(Ці ж мала парадоксаў?)
Хвост закруціла, лыч задрала,
Шчаціну настабурчыла дыбком,
Ідзе, калышацца, з пагардай пaглядае.
А як жа! Нейкую яна ж уладу мае
Над дваром!
Ды тут ёй Казлянятка на шляху трапляе.
— Рох, рох! —
Яна малога лычам штурханула груба.—
— Ды не скачы! Бо вытапчаш мурог.
Няма ад вас ніякае рахубы...
Здаецца, маладзён,
Мог пастаяць на месцы смірна
Ці паляжаць у лужыне ля свірна.
Дык не ж! Адразу бачна — ветрагон...
Ўсе крошкі падабраў ад таты.
На гэты час
Якраз
Казёл падскочыў баявы, рагаты
І, не сцярпеўшы, так сказаў Свінні:
— Яшчэ яго ты толькі закрані —
Табе не пройдзе дарам гэта!
Няўжо не памятаеш, як мінулым летам
Сама ты гойсала па ўсім двары?
Ніхто цябе не біў, не лаяў,
Бо ты ж была малая.
Дык лыч не задзірай занадта дагары!

Суседухна ў мяне такая:
Начальніца, як кажуць, над мятлой,
А гонару, а пыхі — божа мой!

*3.12.60*

## «ПАМАГАТЫ»

Дахаты дзядзька з лесу вёз
Бярвенняў воз.
А восень на дварэ стаяла.
Ліў дождж. Дарога заплыла.
Конь ледзь цягнуў цяжар памалу...
Ды недалёка ад сяла
Завязлі ў твань калёсы
Па самыя атосы.
Наш дзядзька падналёг плячом,
Затузаў лейцамі: — Но-о, мілы!
Давай-тка паднажмём,
І з ходу
Удвух адужаем мы перашкоду!
Ды як ні напіналіся, ні надрывалі жылы,
А выцягнуць з балота воз той не змаглі...
Ды тут якраз ідзе чырванатвары малады асілак!
Наш дзядзька да яго з паклонам да зямлі:
— Дапамажы, шаноўны, ўзбіцца на дарогу!
— Магу! — Я рад прыйсці на дапамогу!
І, ўсціўшыся на пянёк,
Асілак аддаваць пачаў загады:
— А ну, каняку пугаю перацягні разок!
Паддай, як трэба, пары гаду!
А пугі мала — ўрэж паміж вушэй калом!
Ды сам мацней наляж плячом!
Ну што стаіш, як слуп той укапаны?
— Пайшоў да д'ябла! — дзядзька вылаяўся узлаваны.—
Злазь з пенчука і сцежкаю сваёй
Правальвай ты адсюль, каханы!
Як-небудзь спраўлюся я сам з бядой...
І, разгрузіўшы воз нямнога,
Ён выбраўся з канякам на дарогу.

Ад «памагатых» гэтакага роду
Карысці мала для народу.

*3.1.62*

## ДАРМАЕД З КРЫЖАМ

Махаў кадзілам поп, блямболіў у царкве з амбона:
— Браты і сёстры! Сёстры і браты!
У дзень будзённы, а тым больш — святы́,
Не забывайцеся, што бог — вышэйшая персона,
А я — яго даверany пасол!
Маліцеся, стаўляйце свечкі,
Цягніце грошы, сала, кумпякі, яечкі
Сюды вось, на гасподні стол!
Не будзьце скнарамі, аблудныя авечкі...
Бо гэна ўсё для паратунку вашых грэшных душ!
І хто адваліць большы куш —
Той улагодзіць лепей бога,
Таму у рай —
Адкрытая дарога!
Кладзіся і... спакойна памірай,
Лічы, што месца цёпленькае забяспечана на небе!
А ў раі — не жыццё, а благадаць:
Не трэба клапаціцца аб надзённым хлебе...
— Ды хопіць Лазара спяваць! —
Тут брыгадзір калгасны не ўтрымаўся.—
Жанчынам бульбу рупіцца капаць,
А ты кадзілам размахаўся...
Калі так хораша ў тым «раі» —
Дык сам туды і адлятай!
Ніхто цябе за рызу не трымае...
А то разявіў рот на наш мазольны каравай!

Папы то пеклам запалохваюць, то раем спакушаюць,
За кошт дурніц жывуць і не шманаюць.

*12.3.62*

## «ВАЛІ НА БУРАГА!..»

Быў у калгасе конь па клічцы «Буры»:
Не вызначаўся ростам ён,
Ні атлетычнаю мускулатурай,
З'ядаў звычайны рацыён,
Меў ціхую натуру.
Узвернуць воз — ён крэкча, а ідзе!
Яшчэ падкінуць — аж дымяцца восі,
А Буры зноў не падвядзе!
Вось так і павялося:
«Каму дабавіць груз?» — «На Бурага валі!
Ён выцягне! Ён вывезе! Ён — цягавіты!»
А Буры ад натугі мордай прыпадае да зямлі
І цягне, потам ўвесь абліты...
Другія ж біцюгі трушком
Бягуць амаль паражняком,
А да аўса дык хваты...

Калі падатлівы характар твой,
Цябе работаю загрузяць з галавой,
А побач гоцаюць, сачкуюць сімулянты...

*5.4.62*

## ВАРЭННЕ

Кабета эканомная варыць варэнне стала:
Купіла журавін аж два вядры,
Прамыла ягады, старанна перабрала,
А цукру ўсыпала ну толькі кілаграмы з тры
І таз
Паставіла на газ.
Памешваючы лыжкаю варэнне,
Спрабуючы на смак,
Кабета з захапленнем
Разважала так:
«Вось гэна атрымаецца ласунак!
Не варыва, а — люкс!
Адменнейшы гатунак!
Усіх суседак я дзіўлю...»
Зварыла. Ў слоікі паразлівала.
Пазакруціла крышачкі як след.
Паставіла ў буфет.
І, справу скончыўшы, аж заспявала!
Праз тыдзень ці другі —
Чайку папіць кабета з журавінай захацела.
Палезла ў той буфет і ледзьве не самлела:
— О божа дарагі!
Што робіцца з маім варэннем?
Чаго яно ўзнялося? Паплыло? —
Завохкала жанчына у здзіўленні.—
Нібы на дрожджах падышло...
...І колькі раз яна ні надбірала,
А гляне ў слоікі — ізноў
Паўнютка да краёў!
Варэнне ўсё расло, брадзіла, бушавала,
Нарэшце скісла і прапала —
З-за эканомнасці панесла гаспадынька страты...

А вось дзялок
Заўзяты
Што сэканоміць — шугане «на бок»,
Глядзіш — «датацыя» — да заработнай платы!

*7.5.62*

## «ІНШАЗЕМЕЦ»

— Бонжур, гросфатэр!
Гутэн таг у хату!
Пардон, што тэлеграмы не даслаў,—
З парога хлопец зухаваты,
Як іншаземец, лапатаў.
А дзед разгублены стаяў,
Чупрыну чухаў, вінавата усміхаўся,
Успомніць госця намагаўся.
І, толькі ўздзеўшы акуляры
Ды пільна глянуўшы у твар,
Ён закрычаў, як на пажары:
— Дык гэна ж мой Захар!
А каб цябе ды растапталі качкі!
Ну й задаеш, унучак, мне задачкі...
Ці трызню я са сну?
Такую апранаху на сябе ты нацягнуў:
Спінжак блішчасты, на заклёпках порткі,
Гамашы з рыпам ды стракаценькі берэт,
Так па-заморску шпарыш порстка,
Нібы аб'ехаў цэлы свет!
Хто ж ты цяпер? Хранцуз? Ці немец?
Або яшчэ які бадзяга-іншаземец?..
І валасню адгадаваў, нібы Махно,
І пэйсы, што у рабіна старога,—
Хоць замест пудзіла самога
Пастаў цябе ў каноплі, за гумно...
— Мерсі, гросфатэр, за прыемны камплемэнт!
Адсталы ты, як лапаць, элемэнт...
Хаў ду ю ду! І заадно — гуд бай!
А пераводзіцца: — Здарова! І... бывай! —
Пакрыўдзіўся юнак грунтоўна.

Тут смех бярэ і жаль раптоўны:
Не іншаземец ён —
Штукар духоўны,
Бязглузды балабон!

*1.6.62*

# БАЙКА І ОДА

Даўным-даўно (не станем даты ўдакладняць)
Здарылася наступная прыгода:
Велікасвецкая, напышлівая Ода,
Сустрэўшы Байку, пачала хіхікаць, шпількі падпушчаць:
— Якога племені ты і якога роду?
Якія тытулы і званні у цябе?
Кім у гісторыі услаўлена? Чым знакаміта?
Калі ўжо гаварыць адкрыта,
Раданачальнік твой — плебей,
Фрыгійскі раб Эзоп,
А не Гамер, не Дантэ і ні Гётэ!
Смярдзіш ты дзёгцем і жывёльным потам...
Твае ўсе персанажы — то Асёл, то Клоп,
То Малпа, то Свіння,
На Львоў і на Арлоў пароды наводзіш...
Ты ім нікольні не пашкодзіш,
Сама ж да чорнага дастукаешся дня...
Бо кожнаму сваё ў прыродзе:
Чарвяк не можа ластаўкаю стаць,
І на Алімп табе не завітаць...
Жывуць Багі там ды Героі,
Крылатых Муз сям'я!
А я —
Страфой узнёслай, залатою
Вянчаю лаўрамі манархаў, каралёў,
Іх слаўлю подзвігі і пераможны гром баёў,
Прысутнічаю на пірах, на трызнах, на турнірах,
З'яўляюся цырыманіялаў я кумірам!
А ты і твой Эзоп
Сваёю з'едлівай сатырай
Шальмуеце вяльмож і тытулованых асоб...
Ты згінеш назаўсёды,
А мне ў вяках, як сонейку, свяціць!

Даўно ўжо Ода
Выйшла з моды...
А Байка ўсё жыве і будзе жыць!
Бо служыць не Багам — Народу.

*7.7.62*

## «НЯБЕСНАЯ» РУКА

Быў Анатоль Язэпавіч артыстам,
На барабане ў джазе граў,
Такія залпы выдаваў,
Што аж зайздросцілі яму артылерысты!
Ды неўзабаве вырашыў прафесію змяніць:
— Я артыстычным хлебам накарміўся...
Хачу ў начальстве пахадзіць!
Зайшоў да земляка. Там праслязіўся.
(Зямляк быў шышкай немалой!)
А ў выніку: за стол чыноўніцкі ён учапіўся:
Сядзіць, пакручвае бялявай галавой,
Дыктуе і падпісвае загады,
Заўсёды метадысты, рэферэнты пад рукой,
Адскочыць у пампасы можна з сакратаркай маладой...
Работка — люкс! І маеш тры акцёрскія аклады!
Ну што ж? Належным чынам рэй вядзі!
Ды барабаншчык у мінулым зухаваты
Стаў форменным адпетым бюракратам:
З драбніцаю прыйдзі —
Пытанне ператворыць у праблему,
Пачне малоць пра Станіслаўскага сістэму,
А ты сядзі
Ды слухай лепет блазнаваты...
Здароўя марная і часу трата!

Што ён адпеты бюракрат — не дзіва,
А дзіва — церпяць гэткага смаржка.
Пад зоркай нарадзіўся ён шчаслівай,
Над ім, як шчыт, «нябесная» рука...

*8.3.63*

## ВОЛ І ШЧАНЮК

З работы Вол вяртаўся,
Нямала пнёў за дзень накарчаваў!
Знямогся — аж хістаўся,
Ды ў двор цяжкой хадой ступаў.
Тут з падваротні на яго наскочыў,
Нібы шалёны, ускудлачаны Шчанюк!
Надыбіўся, ашчэрыўся па-воўчы,
Ну, не інакш Валу — каюк!..
Цяў-цяў! Цяў-цяў!
Ну раздзярэ! Ну праглыне, здаецца!
(Дарма што росту бог не даў...)
Аж смешна робіцца — адкуль і злосць бярэцца?
Вол рогі нахіліў, зачмыхаў у трывозе,
Падумаў, пастаяў,
І... рушыў па дарозе!

Як вол, працуе літаратар,
А тут наскочыць крытыкан-блазнюк,
Зацяўкае, як той шчанюк
Кудлаты,
Але ягоны брэх
Адразу выклікае смех!

*6.5.63*

## ГОРА-КІРАЎНІК

Быў кіраўнік незадаволен штатам,
І радыкальныя рэформы ён зрабіў:
Паразганяў усіх, перашарсціў
І новым абзавёўся апаратам.
Але ў рабоце зноў агрэхаў шмат,
Зноў ад намесніка і да вахцёра
Ператрасае, камплектуе штат
Пад свой і густ і нораў...

Ў таго аркестр заўсёды вінават,
Хто сам не дырыжор, а — гора!

*12.3.65*

## СВІННЯ І ЛЕБЕДЗІ

Свіння ля возера паслася,
Нажэрлася ды напілася,
Тут сонейка ўзялося прыпякаць,
Ёй горача і млосна стала,
Свіння калюжыну ў цянёчку падшукала,
Улеглася, сабралася ўжо крыху падрамаць...
Але яе увагу прыцягнула
Чародка Лебедзяў, ад снегу што бялей.
— А-а-а! Прывітаннейка! Пра вас я многа чула...
Што вы за іншых птушак прыгажэй!
Што грацыяй сваёй скарылі свет —
Пра вас і песні і балет...
А я, прызнацца, слепаце людской дзіўлюся:
Ну дзе? Якая? Ў чым тут ваша прыгажосць?
Звычайныя вы Гусі...
Ну шыя крыху ў вас даўжэй,
Затое у Гусей
Заслугі ёсць:
Іх продкі Рым уратавалі!
А вы аўтарытэт свой чым прыдбалі?
Прыдатны толькі вы на пух...
І нечага спрачацца!

Трапляецца такі лапух,
Хоць у мастацтве і не можа разабрацца,
А «эрудыцыю» сваю імкнецца паказаць,
Паслухаеш — адразу лыч ідаць!

*10.12.65*

## ПАШЛЯК

Не пешшу на кірмаш
За кропам,
А бач, на караблі вакол Еўропы
Дзяцюк адправіўся ў ваяж!
Наведаў Рым, Венецыю, ў гандоле пракаціўся,
Віна ў Афінах выпіў, а ў Парыжы вустрыцамі закусіў,
І Амстэрдам, і Лондан скалясіў...
Нарэшце ў вёску заявіўся!
— Ну як? — сябры распытваць пачалі.—
Уражанняў цікавых нахапаўся ты багата?
Ці хутка дагніе капіталізм праклятьі?
Ці бачыў Калізей? І Елісейскія Палі?
Сабор Парыжскай Божай Маці?
Булонскі лес?
— Ды што вы, браце!
Чаго б туды я лез?
Што там я страціў?
Падумаеш мне, Калізей і лес Булонскі!
Руін не бачыў? Ў лесе я не жыў?
Вось я часопіс падчапіў —
Якія здымкі! Бог японскі...
Чувіхі — камільфо! Ма-лін-ка!
Разанчыкі! Амурчыкі! Мімозы!
А позы?!
Зірнеш — цячэ адразу слінка...
Вось гэна дзевы!
Смак!
Ім пазайздросціць і прамаці Ева...

Што зробіш? Ездзіў за мяжу пашляк.

*16.12.65*

## АГАФОН І МІКРАФОН

Кансерваторыю закончыў Агафон
Па класу, як гаворыцца, вакала.
— Выдатны барытон! —
Камісія яго атэставала.—
У голасе метал!
Што у слана, дыханне!
Хвігура — хоць пастаў на п'едэстал
Ды прысуджай заслужанага званне!
І сапраўды, ён першапачаткова,
Дзе б ні выступаў,
Людзей сваім спяваннем захапляў,
На «біс» на сцэну выклікаўся неаднаразова,
У зале ракатаў апладысментаў гром!
Ды недарэчны з ім адбыўся «пералом»,
Спакуслівай паддаўся модзе:
Цяпер той Агафон
Калі ўжо на падмосткі і выходзіць,
Ля рота блізенька трымае мікрафон
І не пяе, а блее, як баран,
То, нібы воўк ў піліпаўку галодны, вые,
Віхляе задам, шэпча, як шаман,
І рытмы і мелодыі крыклівыя, чужыя —
Ну не канцэрт, а — балаган!

А прыгадаем мы Шаляпіна, Поль Робсана, Карузу, Буша?
Які рэпертуар! Які дыяпазон!
Як хвалявалі сэрцы! Узнімалі душы!
А тут ўсялякі прахіндзей, піжон,
Да славы падкі,
Закруціць, як нашкіпінараны, азадкам,
Замяўкае, заблее ў мікрафон
І думае, што — «ўсё ў парадку!».

*20.12.65*

## ПІСАРЧУК

Ў арцелі невялікай
Быў працавіты калектыў,
Вытворчы план выконваўся без крыку,
Бо кожны ведаў справу і любіў.
Але... знайшоўся пісарчук плюгавы,
Штодзённа скрытна піша ён заявы —
У гарсавет, у міністэрства:
Што старшыня арцелі — бюракрат,
Чыноўнік чэрствы,
Намеснік — хам і казнакрад,
Бухгалтар — аферыст і кручкатвор,
Касірка — злосная махлярка,
Распусніца, падліза сакратарка,
Інспектар — п'яніца, хабарнік — рэвізор...
І вось ідзе франтальная праверка:
За тры гады
Ператрасаюцца усе паперкі!
З-за гэнай чахарды —
Усім работнікам тут не да працы...

Я раю за пісарчука узяцца,
Па карку даць, каб не муціў вады...

*31.1.66*

## ЛАПУХ І КАМУНІЗМ

У Лапуха кватэра неблагая:
Сталовая, дзве спальні, кабінет,
Хол, кухня, ванная, раздзельны туалет.
Паветра, сонейка хапае,
Столь чапялою не дастаць.
І «стратэгічныя» яна выгоды мае —
Да парку як рукой падаць,
З балкона адкрываецца пейзаж чароўны,
Хады на працу тры хвіліны роўна.
Калі б паэту гэткую кватэру даць,
Ён змог бы «Адысею» напісаць!
Але Лапух не быў паэтам,
У міністэрстве быў службістам радавым,
Ну і жылплошчай гэтай
Хваліўся сябрукам сваім:
— Кватэрка — люкс! Мне жыць у ёй да скону...
Я ж не міністр! Я не персона...
Уся ж мая сям'я —
Сыночак, жоначка ды я!
Ды адбыліся змены па рабоце —
Лапух партфель важнецкі адхапіў
І носам ён адразу закруціў:
— Ці ж не хвігура я на гэным гарызонце?
Наменклатура, як-ніяк!
Пабудаваць, і тэрмінова,
Мне адпаведны асабняк!
Каб быў уласны смеццяправад,
На даху — персанальненькі салярый,
А ў тым падвале (гэна ж мара!)
Басейн, каб плаваць стылем «брас»...
Бо я ж не папуас —
Жыву на першай фазе камунізма!

На шкурніка навёў я прызму:
Яму на ўсё начхаць —
Абы сабе пабольш урваць.

*30.3.66*



7 Зак. 612

## АБРУС І СУРВЭТКА

Каля парога, на зямлі,
Ляжаў Абрус стары, падраны,
Забыты, занядбаны,
Так тыдні, месяцы, гады ішлі...
Нагамі бруднымі яго таптали,
Падэшвы ботаў выціралі.
Ды вось,
Пасля вялікай трызны,
Калі ішло мыццё бялізны,
З ім побач кінулі за штось
Сурвэтку.
— А-а, добры дзень, суседка! —
Звярнуўся да яе Абрус.—
Што? І цябе такая напаткала доля?
Ўжо непатрэбна за сталом ты болей?
— Ды як ты смееш уступаць са мною у хаўрус?!
І што за тон такі фрывольны? —
Адсунулася ад яго Сурвэтка.—
З'яўляюся я першай неабходнасцю настольнай!
Якіх пірушак і банкетаў не была я сведкай!
Якіх ласункаў і заморскіх він,
Якіх асоб высокіх я не знала,
Калі я на стале ляжала!
А ты тут на падлозе, як жабрак, адзін...
— Э, любая... Не гневайся, не дакарай...
Калісьці і маё жыццё было, як рай!
Хадзілі кубкі ля мяне па кругу,
І брага пенілася цераз край...
Ды годы адышлі! І, быццам непатрэбную анучу,
Мяне пад ногі кінулі сюды...

Жыццё ўсяму навучыць:
Ад шчасця да бяды —
Адзін, як кажуць, крок!
А ад яе мы не застрахаваны...
Дык ад гаротніка не адварочвайся ты ўбок,
Будзь літасцівы, чалавечны і гуманны!

*6.7.59*

## ЛЕЎ І БЛЫХА

Саноўны Леў
Знянацку захварэў...
Вядома — шкода.
Але што зробіш? Не папрэш супроць прыроды...
Ільвы ж таксама з мяса і касцей,
А не са сталі.
Ды тут, нібы на ліха, і намеснікі паад'язджалі...
І вось Блыха, што каля Льва падскоквала часцей,
Руль кіраўніцтва ў лапкі ўзяла,
Камандаваць парадам стала!
Наскочыла адразу на Казла,
Затым Дзіка ўвесь дзень даймала,
А Зайку ледзь не даканала...
Нікому не дае Блыха спакою —
Хоць ты ў раку кідайся галавою...
Замучыла звяроў усіх, пакуль вярнуўся Леў.

Падкрэсліць я хацеў:
Казюрачка малая
Падчас мацней, чым буйны звер, кусае.

*10.2.63*

## ТЭХНІКА І ПЕДАНТ

Спазняўся чалавек на працу...
Ускочыў. Хуценька стаў апранацца.
«Але нічога,— разважае чалавек,—
Жыву ж я не ў каменны век...
Навошта хвалявацца?
Аўтобус за якія паўгадзіны
Да месца давязе мяне,
Працоўнай не парушу дысцыпліны,
І шэфава накачка абміне».
Дабегшы да прыпынку,
Стаў нецярпліва «тэхніку» чакаць...
Хвілінка скача за хвілінкай —
Машыны, бы знарок, чамусьці не відаць...
Нарэшце, плюнуўшы ад гора,
Паслаўшы ў адрас транспартных тузоў
З дзесятак сакавітых слоў,
Пабег, як спрынтэр, у сваю кантору!
Ды як ні пёр —
На пяць хвілін спазніўся,
Бо сэрца чалавечае — не гоначны матор,
Ды з гэтым шэф не палічыўся,
А ў падначаленага мёртвай хваткай учапіўся:
— Вы што? На службе або ў доме адпачынку?
Транжырыце дзяржаўны час!
Сабе ўявіце на хвілінку:
Калі так зробіць кожны з нас?
Затым крануўся шэф эканамічнае праблемы,
Інтэнсіфікацыю і космас зачапіў,
І, ў рэшце рэшт, пласцінку закруціў
На міжнародныя ён тэмы...
О! Гэта быў яго канёк!
(Няштатным лектарам ён дзесь лічыўся
І ўласным красамоўствам дужа ганарыўся!)
Цытаты, лічбы ведаў назубок!
Ён сыпаў іх і сыпаў без запінак,
Ды наступіў абедзенны тут перапынак:
— Загаварыўся я! А мамачкі!
І кінуўся ў сталоўку шэф.

Кіраўніку такому ўсё да лямпачкі...
А гаварыльня — камуфляж і блеф.

У іншых скрупулёзна ён падлічвае хвіліны,
Як гросбух,
А сам марнуе балбатнёй гадзіны,
І даражэй за ўсё яму — уласны свой каўбух!

*10.10.60*

## ГАЛАВА І «РУКА»

Хлапчук з маленства быў хітрун:
Ў ваду ускочыць — не намочыць ногі,
Сяброў утравіць у бяду — сам выслізне, нібы уюн...
Каму — папружка, а яму — нічога.
— Ох, шэльмачка расце, хітрэча, прайдзісвет! —
На хлопца гледзячы крытычным вокам,
Казаў з ухмылкаю сусед.—
Такі праб'е свой шлях, узнімецца высока!
А хлопец рос ды рос...
Глядзіш — закончыў дзесяць класаў,
У інстытут накіраванне атрымаў з калгаса —
Спрыяў яму тут лёс!
А там — ускочыў у аспірантуру,
І хоць не меў асветніцкай «фактуры»,
Ды быў ён зухаваты
Жук
І ў хуткім часе кандыдатам
Стаў навук.
Ды мала гэтага — прыцэл на доктара ўжо робіць!
Дарма што у навуцы ён шалопіць,
Як шаман,
Свайго дасягне, безумоўна,
Бо акадэміка дачку узяў ён «на таран»,
І акадэмік апанентам стаў яго галоўным —
Усё-ткі цесць, што там ні гавары!
Як не пралезці ў дактары?
Бо хто не падтрымае
Сваяка?!

Бывае
Сітуацыя такая,
Што галавы важней — «рука»...

*5.1.64*

## ПАЛЬЦЫ

Аднойчы Пальцы завялі дэбаты.
— Галоўны я! Бо сіла ўся ў мяне! —
Сказаў Вялікі палец грубавата.
— Ды не! —
Тут Указальны заспрачаўся,—
Я указую, я ківаю...
А значыць, большую вагу я маю!
— Ну й дзівакі! — Сярэдні палец не ўстрымаўся.—
Зірніце, самы я даўгі,
Размешчаны у цэнтры самым,
І значу я не менш таксама!
— Гі-гі! —
Заліўся смехам палец Безымянны.—
На мне вунь зіхаціць пярсцёнак заручальны,
Няўжо я горш за вас?
Рот Мезінец раскрыў, каб пахваліцца,
Ды ў гэты час
Прамовіла Рука: — Ды хопіць вам сварыцца!
Вы ўсе патрэбны мне. Так-так!
Усе працуеце — выдатна!
А калі час наступіць ратны,
Я сцісну вас — і атрымаецца кулак,
Што лезці супастату стане непанадна!

Калі ў сям'і пануе лад і згода —
Адужаць лёгка ўсе нягоды.

*17.1.64*

## СВІНЯЧЫЯ НОТЫ

Адна Свіння захрукала ў дуду:
— Як вынесці нам гэную брыду?!
Спрадвеку па лычы нас б'юць...
Ні жалудоў пад'есці, ні карыта абярнуць —
Адразу абсмяюць паганцы-байкаробы...
Каб трасца ўсім
Ім
У вантробы!
Па-свінску жыць нам не даюць.
Была б я Львом — дык крытыку зусім забараніла!
А ўсіх сатырыкаў за смех іх пасадзіла б
На лебяду
І на ваду!

Калі я чую: «Байка устарэла...»,
Таму кажу я ў вочы смела:
— Браток, не дзьмі ў свінячую дуду!

*8.5.64*

## «ВОГНЕТУШЫЦЕЛЬ»

У філармоніі праходзіў справаздачны сход,
Дакладчык выступіў і садакладчык,
Пасля ў палеміцы гарачай
Прыняў удзел народ:
Вялі гаворку там наконт жылля, рэклам,
Рэпертуару, распарадку дня, праграм
І прынялі разгорнутую пастанову.
Ды тут пажарнік, што ў кутку драмаў,
Устрапянуўся і руку узняў,
Далі яму, вядома, слова.
— Та-ва-ры-шы! Катэгарычна я хачу сказаць,
Аб тым, што ў сэрцы набалела —
Далей так нельга працаваць!
Тут шум і гам дзянёчак цэлы...
Не філармонія, здаецца, а вар'яцкі дом!
Ну, ўвечары канцэрт. Я разумею.
А днём?
Навошта кожны з вас шалее?
Затым, вы дружна заклікалі,
Каб з аганьком, з іскрой мы працавалі...
Аб-сурд! Кажу я вам у твар,
Інструкцыі пажарнай парушэнне!
Запомніце: дзе аганёк — там і пажар...
Забараняю я гарэць на сцэне!
Не за агонь я — за ваду!
Вось так, таварышы. Цяперака на вахту я пайду.

Вы толькі спрэчкі разгарніце —
Адразу знойдзецца «вогнетушыцель».

*22.5.64*

## ЖАБА, ТРЫТОН І БУСЕЛ

На купіну усцібілася Жаба, ўзяла высокі тон
І залілася, заспявала!..
— Ды ты,— хвастом аж закруціў Трытон,—
Мяне зачаравала!
Сапраўдны Салавей!
Калі ж рванеш гучней —
Дык пераплюнеш ты Ільва!
Ад лёстачак Трытона
Аж закружылася у Жабы галава!
Напялася, гучней трамбона
Зараўла,
Штосілы затрубіла,
Аж нават разбудзіла
Ў гняздзе Бусла!
— Што за гармідар, га? Хто не дае мне спаць?
— Леў... Салавей...— Трытон спалохана стаў лапатаць.
— Ды што ты мелеш? — узлаваўся Бусел.—
Я сам як-небудзь разбяруся:
Хто Салавей, хто Леў...—
І Жабу з'еў! —
Ды гэна ж самая звычайная Жабуся!
Гэй, дзе ты там, Трытон?
Куды цябе нячыстая загнала?

Рэкламшчыкі і падпявалы
Узнімуць часам звон,
Ажыятаж,
А падаплёка тут — падхалімаж!

*12.3.65*

## ЗЯЗЮЛЯ І КУРАПАТКА

Выпадкам
Сустрэлася Зязюля ў лесе з Курапаткай,
Якая з вывадкам гуляла між кустоў.
— А божухна! — Зязюля закугала.—
На дзетачак сваіх звяртаеш ты увагі мала,
У лесе шмат лісіц, ваўкоў...
Ці ж можна быць такой бяспечнай?
Ну і матулі сёлета пайшлі...
Ды гэна проста бессардэчна!
Я не магу *маўчаць,*
Мяне трасе, калоціць абурэнне,
Няма ў цябе, відаць, сумлення,
Я мушу біць у звон, на лес увесь крычаць,
Каб дзетак ад такое маці
Аднялі
І аддалі
Саве або Карозе даглядаці!
— Зязюленька! Вядома, я не ідэал,—
Збянтэжаная Курапатка адказала,—
Ды растлумач — у чым знайшла ты крымінал?
І падзяліся вопытам, як ты уласных дзетак гадавала?
...Зязюлька ўраз стуліла дзюбу,
Ад Курапаткі падалася прэч...

Тут вось якая рэч:
Спявае іншы пафасна і люба,
Здаецца, што для ўсіх — узор!
А разбярэшся — фарысей, пазёр.

*2.11.65*

## АРАП І НАП

Шахрай, спрытнюга кемны,
А да таго ж нахрапісты Арап
Прапанаваў укараніць ў калгасе НАП...*
Не без выгоды для сябе ўзаемнай.
У хату ён да старшыні зайшоў
І галаском завёў прыемным:
— Удой залежыць ад кармоў,
Вы з гэнай ісцінай не будзеце спрачацца,
Калі ж па-навуковаму наладзіць працу,
Як кажуць, шарыкамі пакруціць,
Тады спраўляйся толькі ты рагуль даіць!
— А ты канкрэтней. Ты бліжэй да справы,—
Уставіў слова старшыня.
— Ды вось што прапаную я,—
Заёрзаў чалавек рухавы,—
Узброім акулярамі зялёнымі карову ці цялушку.
«Навошта?» — запытаеце. Ахвотна растлумачу:
Накідаем саломы у кармушку,
Ну, а яны сянцо убачаць!
Цяпер скумекаў, кіраўнік?
— Выходзіць, што адразу
Мы вырашаем кармавую базу?
— А як жа! Навуковы тут разлік,
Вучэнне Паўлава, рэфлекс умоўны...
А зараз, старшыня шаноўны,
Не грэх і замарыць нам чарвячка —
Налі пакуль што малачка.
— Ах, малачка! — прамовіў старшыня калгаса іранічна
І, зачарпнуўшы шкляначку вады
Крынічнай,
Дадаў: — Пі, чалавеча малады.
— Ты што? З мяне жартуеш?!
Ды гэна ж $H_2O$, звычайная вада...
І гэтак госця ты частуеш?
— Вада? Ну, не кажы! — ўсміхнуўся гаспадар.—
Вось акулярамі цябе малочнымі узброю,
І на стале убачыш шклянку сырадою!
— Ча-го?! — угневаўся шахрай.—
Ці ж я карова альбо бык рагаты?!
З каго ты кпіш? Дурніцу пашукай...
І куляй вылецеў спрытнюга з хаты.

---

* НАП — навуковая арганізацыя працы.

І ў сельскай гаспадарцы
Патрэбна, безумоўна, НАП.
Але калі шахрай або арап
Пачне з пражэктамі сумніцельнымі набівацца,
Наводзіць на навуку цень —
Не след на вуду паддавацца,
Ганіце шарлатана вы ў каршэнь!

*3.11.65*

## ПАДМАЦАВАННЕ

На лесасплаве працавалі
Два Сланы,
Бярвенні тралявалі
Да ракі яны.
Тэндэм быў зладжаны у іх на дзіва,
Перавыконвалі заўсёды план
І прагрэсіўку атрымоўвалі на піва.
Ды неяк выклікаў Сланоў Баран:
— Шаноўныя! Цаню я вашу сілу і старанне,
На вас няма ні скарг, ні нараканняў,
Але, што ні кажы, гады́!
Не юнакі вы, а, бадай, дзяды...
Не лішнім будзе вам падмацаванне.
— Ну што ж, за клопат ратуйбо,— прамовілі Сланы,—
Хоць мы спраўляліся адны,
За дапамогу мы гарой.
Але скажыце, будзьце так ласкавы,
Хто той асілак бравы,
Волат дужы той,
Што на «буксір» Сланоў узяць бярэцца нават?
Мо Зубр, мо Лось, а мо Мядзведзь палярны?!
— Ды не, сябры! Чаго гадаць?
Ён звер малы, затое папулярны!
Да вас я Зайца вырашыў накіраваць! —
Баран праблеяў уладарна.
— Каго?! Зайчо?.. Ды кіньце жартаваць!
Ну памяркуйце самі:
Ён толькі блытацца ў нас будзе пад нагамі,
Марока з ім адна,
Бо ён не толькі бервяна —
Галінкі ўзняць не зможа...
А за яго цягні, выконвай план!
— Не зможа,— флегматычна адпарыраваў Баран,—
Затое бегае! Дай божа!
Яго ад вашае брыгады
Мы накіруем на спартакіяду!
...Так з некаторае пары
Той Заяц зухаваты
Сланом залічаны ў бары,
Слановай забяспечаны зарплатай
І, больш таго, слановаю кватэрай!

Дасціпны рэвізор-эканаміст,
Ты на заводзе іншым пагартай паперы —

Там на пасаду інжынера
Залічаны то футбаліст,
То хакеіст.
Кідаюць грошыкі пад хвост сабаку,
Ну, а рэкордаў, чэмпіёнаў — кот наплакаў...

*8.11.65*

## СВІННЯ Ў ГАСЦЯХ

Каза паклікала Свінню на імяніны.
Ну як суседку не пазваць?
Пакрыўдзіцца. Пачне капаць.
Сварыцца. Абражаць.
А там нядоўга да судовай цяганіны...
Таму разумная Каза,
Узважыўшы «супроць» і «за»,
Свінню на урачыстасць запрасіла!
Шыкоўны стол і шмат гасцей,
Ўсе віншавалі гаспадыню міла,
Казалі кампліменты, тосты чуліся часцей.
Затым зайграла радыёла,
Твіст і чарльстон падскокваць пачалі,
А ў перапынках зноўку елі і пілі,
Ва ўсіх настрой святочны быў, вясёлы!
Адна Свіння,
Набраўшыся без меры брагі,
Круціла лычам, хрукала: — Я! Я!
Персона важная і патрабую персанальнае увагі!
— Паслухай, не блазнуй! —
Прытрымліваў Свінню Баран рагаты.—
Ідзі паціхеньку дахаты,
Кампаніі не псуй!
— А мне пляваць на ваша свята...
І на усіх на вас пляваць! —
Свіння усчала капытом махаць
І ўсё вышэй свой лыч кірпаты
Угору драць!
І, ашалеўшы канчаткова,
Ускочыла на стол,
Была гатова
Патрушчыць шклянкі, пляшкі і талеркі,
Але яе на рогі ўзняў і выкінуў за дзверы Вол.

Хто з нас не хлебасол?
Для госця не шкада ні закусі, ні паўлітэркі.
Прыходзь хоць дзень пры дні,
Частуйся, чарачку цягні,
Але трымайся чалавечай меркі —
Не ўпадабляйся той свінні.

*13.11.65*

## БАБРЫНАЯ ХРОНІКА

Байка-трылогія

### Частка першая

Лагодна, мірна, ціха
Бабёр жыў са сваёй Бабрыхай...
Сумленна ён служыў,
Дамоў прыносіў поўную зарплату,
Не піў і не курыў,
Ні з кім рамана не круціў,
Пасля работы бег хутчэй дахаты.
— Ну й дамасед!
— Ну і звярок няшчасны! —
Яму казалі спачувальна ўслед
То саслужывец, то сусед. —
Які́сьці тыпус несучасны...
Сухар. Манах.
Вунь сакратарка, Ліска маладая,
Па ім аж млее, сохне на вачах,
А ён і вухам не вядзе, не заўважае!
І... да Бабра дайшло —
Ён даў такую з Ліскаю раскрутку,
Што папаўзлі неверагодныя ўжо чуткі,
Прыпісваць пачалі, чаго наяве не было:
— Распуснік! Алкаголік! Казнакрад!
— Пад суд яго! І пакараць сурова!
— Прыкідваўся святошай, гад,
А сам што вырабляў! Ах, хрыч бабровы...
Тут тэрмінова
Байкар славуты байку напісаў,
«Грамадскасць» зашумела, загула!
— Ах, ну й Бабёр! Ах, шэльмачка Ліса!
Ну, карацей, Бабра з Бабрыхаю «грамадскасць» развяла...

### Частка другая

Бабёр не рад разводу,
Бо шкода
Бабранят...
Ужо назад няма, здаецца, ходу.
Вядома, сам ён вінават...
Але, калі б Бабрыха
Не слухала дарадчыкаў і адвакатаў,
Канфлікт уладзіўся б, бадай-што, мірна, ціха,
І бабраняты
Не страцілі б мо таты...

А так пайшло усё наперакос!
Бабрыха стала дамай папулярнай:
То спачувае ёй занадта Качканос,
То круціцца Барсук, то зачасціў Янот не марна...
Жыве Бабрыха бы ў хмялю
І казырыцца!
Бо кожны кажа ёй: — Люблю!
І любяць... Ды не думаюць жаніцца...
— Ну і на ліха мне той шлюб?! —
Бабрыха разважае.—
З Бабра я аліменты маю,
Я вольная! Каго хачу — таго і абдымаю,
Той мне і люб!
І тут «грамадскаць» ёй дапамагае...

**Частка трэцяя**

Ну, а Бабёр?
Яму прыйшлося надта крута:
Яго з работы Леў прапёр,
Да Ліскі кінуўся, а там прыжыўся Тхор —
Кругом ён стаў банкрутам...
Сышоўся з Выдраю. Стаў працаваць.
Кватэру збудаваў, пачаў і абстаўляць.
Ды Выдра аказалася пройдохай, аферысткай —
Дом ababрала і накрылася хвастом...
І не паказвае і носа блізка.
Бабёр жыве халасцяком,
П'е бражку і «чарніла»,
Дэбошы часам учыняе...
Але яго «грамадскасць» выручае:
Выхоўвае што мае сілы,
Ды вынікаў пакуль няма...

**Эпілог-мараль**

О божа мілы!
Я на грамадскасць цень не узвяду дарма.
А «дабрадзеі» ды пляткаркі
Вас могуць давясці да чаркі
І нават да магілы...

*9.11.66*

## АХВЯРА КАХАННЯ

Цімох амаль што дзедам ажаніўся.
Вядома, і ў халасцяках
Быў не манах,
Скаромнае любіў ён, не пасціўся...
І зараз нават некаторыя кабеты,
Як завітае ў вёску з горада Цімох,
Прыцмокваюць з імпэтам:
— О-ох,
Дзянькі дзе залатыя,
Дзе маладосць мая?!
Як час ляціць! Як шпарка круціцца Зямля!
А клопаты ў Цімоха немалыя:
То жонцы набывай шыкоўненькі убор,
То футру, то кулон, то завушніцы.
Перад люстэркам толькі б ёй круціцца,
А потым — шусь на двор!
А ты сядзі, як тхор.
Ці ж можна з гэтакім змірыцца?
Прытым
Адны выдаткі.
Цімох да жонкі: — Любая, гарым!
Хоць прадавай манаткі...
Мо ты б упрэглася ў які хамут?
— Ча-го? Ды што я, кабыліца?
Эксплуататар! Ашуканец! Чмут!
Мне абяцаў, што буду жыць ямчэй царыцы...
А зараз? Парабчанку вырашыў з мяне зрабіць?
Дык ведай, гэтаму не быць!
Ёсць у рэзерве кавалеры,
Кіўну ледзь пальцам — наляцяць
Аўтаінспектары, таксісты, афіцэры,
Яны без грошай не сядзяць!
...На тым і скончыўся дыялаг меркантыльны,
Цімох воз цягне непасільны,
Старыя косці аж хрусцяць.

«Каханню ўсе узросты падуладны...»,
Як гаварыў паэт.
Але жыццё — не марш парадны:
Абмазгаваць патрэбна ўсё як след —
З кім заручацца, каб не ведаць бед.

*10.12.66*

## ФАНАБЭРЫСТАЯ «ЦАЦА»

Пятроўна — птушка не абы-якая:
Яе не возьмеш голаю рукой...
Ідзе, з пагардай паглядае,
Здаецца, міністэрша важная перад табой!
А як жа, браце,
Яна ж працуе у «вялікай хаце»!
(Паперкі падшывае, на машынцы стракаціць,
З начальствам ладзіць палюбоўна...)
Ну як хвастом ёй не фінціць?
І вось у санаторый трапіла Пятроўна.
Лячыся, любка, сілы набірай,
Сябе і іншых паважай,
Бо хворыя ўсе на курортах роўны...
Дык не ж! Яна пачала штучкі выкідаць:
То за сталом сусед ёй не лагодны,
То боршч гарачы, то халодны,
І кухара бярэцца распякаць!
То персанальны тэлевізар у свой «люкс» патрабаваць,
З-за кожнай драбязы гатова абурыцца,
Узняць скандал,
Абразіць, прычапіцца.
Каля яе адной медперсанал
На дыбачках гарцуе,
Але нічым ёй нельга дагадзіць!
Ніхто, здаецца, фаварытку не ўтаймуе,
Яна ж усім паспела насаліць...
Ну й фанабэрыстая «цаца»!

У філасофію не станем мы ўдавацца:
Дзе б хто ні працаваў,
Якое крэсла б ні займаў —
Патрэбна Чалавекам заставацца.

*20.12.66*

## АПЕРЭТЫ
## І РЭВІЗОРСКІЯ «КАРДЭБАЛЕТЫ»

Мясцком наладзіў культпаход на аперэту.
Ўсім спадабалася мерапрыемства гэта:
Ад рогату, апладысментаў грому
Дрыжалі сцены і дрыжала столь!
І толькі старшыня мясцкома
Крывіўся, курчыўся, нібы яго даймаў нясцерпны боль.
— Кузьміч,— звярнуўся да яго рабочы,—
Чаго ты зморшчыўся, раскіс?
Чаго не пляскаеш і з намі не рагочаш?
І прымадонне не скандуеш: «Бі-ісс!» —
Няўжо не падабаецца вясёлы бенефіс?
А мо радыкуліт цябе так скасабочыў?
— І падабаецца, і я здаровы!
Ды вось у чым сакрэт:
Як прыгадаю я, што заўтра рэвізор бядовы
Наладзіць можа мне кардэбалет —
Дык аж няміл становіцца мне свет...
Бо, каб пакрыць на культпаход выдаткі,
Я вымушаны ўсё кругом
Узважыць, братка,
І ход зрабіць канём,
Каб рэвізора збіць са следу,
Афарміць так, нібы дакладчыкаў у цэх
Мы запрашалі з таварыства «Веды»...
Ці ж то не смех і грэх?

І сапраўды, тут босу прафсаюзнаму не да пацех...

*30.6.67*

## БІТЫ ПЕВЕНЬ

Якісьці Певень-басурман
Ускочыў з лёту на паркан,
Залопаў крыллямі, загарлапаніў што ёсць духу:
— Ку-ка-рэ-ку-у!
Суседа задзяўбу! Суседа праглыну, як муху!
Сатру яго ў муку!
Не астанецца нават следу...
— Ну-ну! — паддаў імпэту
Ды падбухторыў крыкуна Індык.—
Чуб надзяры суседу,
Бо завіхацца ён ля курак тваіх звык...
Давай-давай! Смялей, мой дружа!
А перамога будзе верная твая:
Сусед слабы і трус, а ты адважны, дужы!
Прытым, з табой маральна я.
...Адчуўшы збоку поўную падтрымку,
Той Певень не вагаўся ні хвілінкі —
Рвануўся на суседні двор
І бойку завязаў знянацку.
Але... там жыў таксама Пеўнік забіяцкі:
«Агрэсару» ён даў такі адпор,
Што той застаўся без хваста, без шпор,
Да курасадні ледзь даклыпаў...
Дзе ж быў Індык?
Вачыма толькі лыпаў...

Задзіра узнімае крык,
У бойку лезучы, на памагатых спадзяецца,
А сам без носа застаецца.

*3.7.67*

## РАЗБІТАЕ ШЧАСЦЕ

Пасля вайны Якуб
Ў зямлянцы нейкі час туліўся,
Затым крыху разжыўся,
І збудаваў сабе ён новы зруб.
Жанчыну пакахаў і ажаніўся!
Праз пэўны тэрмін — нарадзілася дзіцё,
А там, глядзіш, другое!
Наладзілася чалавечае жыццё,
І шчасце пасялілася у хаце маладое.
І жонка, і Якуб, абое,
Сіл не шкадуючы, старанна працавалі
І дзетак гадавалі.
«Вось вырастуць... Вось скончаць інстытут!..»
Ах, колькі у бацькоў было хвалюючых мінут!
Ах, колькі радасці, затоеных надзей!
Сабе ў апошнім адмаўлялі,
А выстарчалі
Толькі на дзяцей...
— Ды што вы робіце?! — суседзі дакаралі.—
Навошта песціць так? Навошта калаціцца?
Навошта прыхмацям іх патураць?
Як на святых маліцца?
Каб потым не прыйшлося шкадаваць...
Ды будзе позна!
— Ах, што вы кажаце? Ціпун вам на язык! —
Матуля на прарокаў наступала грозна.—
А ведаеце вы, як адпакутвалі і я, і мой мужык
У час ваеннай завірухі?
Ды і пасля вайны
Пакаштавалі лебяды й макухі
І мелі на дваіх адны трафейныя штаны?
Дык пажыруюць хай сыны!
Ну і сыны, вядома, жыравалі:
Салодка елі, мякка спалі...
Працерабілі сцежку ў рэстаран,
Звязаліся нарэшце з блатнякамі
І, разумееце вы самі,
Былі асуджаны і высланы у Магадан.
Што ж? Прыйдзецца кайлом ім памахаць...
Каго вініць? Каму тут спачуваць?
Інфаркт ад гора бацьку спляжыў,
А маці плакаць, то смяяцца недарэчы пачала...

У заключэнне скажам:
Любоў сляпая — корань зла.

*14.12.67*

## ВЕЛІКАСВЕЦКІЯ «БАБЫ»

У добрай маці — роўныя ўсе дзеці,
Няма любімчыкаў, і пасынкаў няма.
Але... бывае рознае на свеце!
І напісаў я гэту байку нездарма...

Ў Кандраціхі было сыночкаў двое:
Макар малодшы і старэйшы Вальдэмар;
Адзін зануджаны, хлапчо худое,
Другі — блішчаў, як самавар!
Малодшы быў нялюбым у матулі,
Старэйшы, той наадварот — пястун,
Лізун!
Макару тыцкалі заўсёды дулі
Ды лупцавалі без віны дубцом...
А Вальдэмара — да грудзей гарнулі,
Квахталі, як квахтуха над яйцом.
Хоць да работы ён не меў імпэту,
Яму заўсёды за абедам
Тлусцейшы і смачнейшы кус даюць
І гладзяць па галоўцы,
Цалуюць, побач спаць кладуць —
Ну, казка, не жыццё для хлопца!
Для маці Вальдэмар
І бог і цар,
Дагэтуль сусла смокча,
Хоць вусы зарунелі над губой...

Які тут вывад мой?
Скажу я ў вочы:
Калі шырэй узяць маштабы,
Калі глыбей капнуць —
Велікасвецкія вусатыя ёсць «бабы»,
Якія прынцыпамі гэткімі ж жывуць:
Адным — штодзень медавікі,
Другім — гузы ды сінякі...

*17.1.68*

## БАЙКАРОБ І ЦЭРБЕР

Рэдагаваць узяўся байку
Адзін паэзіі «мастак»:
Распатрашыў яе, як шмайку,
Ад галавы і да хваста;
Соль вымачыў, дабавіў мёду,
Мараль як тапаром адсек...
Зрабіў з сатыры едкай дыфірамб ці оду —
Ну гвалт над аўтарам і здзек!..

Ад цэрбераў звышпільных, цвердалобых
Не гэтакае можна нам чакаць,
Яны гатовы крытыку ў трубу загнаць
І ў пекла кінуць байкароба...

*18.1.68*

## ТХОР

Раз на птушыны двор
Залез смярдзючы Тхор...
Ну і пачаў душыць курэй, гусей, індычак!
(А у Тхара,
Вядома, гэтакая звычка:
Калі яму хваста не прышчаміць,
Дык не чакай дабра,
Унадзіцца — ўсіх птушак можа падушыць...)
Злосць узяла Гаспадара:
— Ах ты, брыдота! Душагуб паганы...
Я гэнага не пацярплю!
А позна-рана —
Ванючку крыважэрнага злаўлю!
І ў месцы, дзе быў лаз Тхарыны,
Паставіў пастку Гаспадар.
І тут, як толькі сунуўся галаварэз на двор птушыны,
Адбыўся гэтакі удар,
Што ад Тхара не засталося і ўспаміну!

Агрэсары задумацца павінны.

*19.1.68*

## СТАЛЬ І ШЛАК

Сталь выплаўлялася ў мартэне:
Загружаны шыхта, і флюс, і металічны лом,
Гудуць фарсункі д'ябальскім агнём,
Аж цэх дрыжыць, бы ад землетрасення...
Праз нейкі час, глядзіш —
Ужо клякоча Сталь, віруе,
Ды раптам зверху чуе:
— Чаго кіпіш?
Мне не даеш спакою?
Вурчыш,
Бунтуешся чаго там пада мною?
Цябе я хутка супакою! —
Шыпеў пыхліва наздраваты Шлак.—
Агню я нават не паддаўся!
Наадварот, я ад яго атак
Шчэ больш загартаваўся!
Хто за мяне дужэй, цвярдзей?
Я недарэмна ўгору ўзняты!
Са мною дрэнны жарты...
Мне будзе гонар і пашана ад людзей!
— Чым казырышся, Шлак? Чаго ты варты? —
Абурана загаварыла Сталь.—
З мяне сфармуюць не адну дэталь,
Нідзе не падвяду я, не спасую,
А ад цябе карысці — брак,
На звалку вывезуць якую...
Падкрэслім аналогію такую:

Ёсць людзі — сталь, ёсць — легкаважны шлак.

*20.1.68*

## АДНАГАЛОСНА

У прэзідыум спартыўнага савета
Звяры лясныя выбіралі старшыню...
Ліса, бывалая кабета,
Ускочыўшы на адпаведную, як кажуць, вышыню,
Прагаўкала лісліва:
— Я прапаную Воўка! Хто галасуе «за»? —
І лапку ўскінула імкліва.
Ніводзін звер яшчэ — ні Дзік, ні Заяц, ні Каза —
З сваімі думкамі належна не сабраўся,
А Ліска зноў: — Хто «супраць»? Устрымаўся?
Няма!
Праходзіць Воўк аднагалосна!

Гаворыць байка за сябе сама,
І аналогій тут прамых або ўскосных
Не раю я шукаць,
Лепш дэмакратыю не парушаць!

*21.1.68*

## ПРАЖЭРЛІВЫ КРУК

Зіма. Завея. Маразяка.
Як кажуць, добры гаспадар
На вуліцу не выжане сабаку...
Звініць зямны, здаецца, шар!
На дрэвах воблачкі пушыстыя застылі,
І стукае у шыбку верабей,
І комін галубы гаротна абляпілі —
Ўсе птушкі горнуцца з надзеяй да людзей,
Бо сцюжа лютая і голад іх даймае...
Я фортку адчыняю,
На падаконнік сыплю, не шкадую круп —
Няхай дзяўбуць! Дабра ў мяне хапае.
(Ну, кашы не звару — згатую суп.)
І да акна ляцяць імкліва
Мае крылатыя сябры,
Глядзяць даверліва, не палахліва,
Хоць ты у рукі іх бяры.
Дзяўбуць з імпэтам, дружна, ў міры,
Аж сэрца радуе рытмічны перастук!
Але... аднекуль прыляцеў задзіра,
Пражэра Крук.
Начубіўся, стаў злосна буркатаць,
Круціцца
Ды ўсіх штурхаць,
Па галаве біць галубіцу,
Малога верабейку лапамі таптаць —
Нікому не дае зярняці
Нават ухапіць!
А у самога ўжо валляк трашчыць...
Але ад прагнасці бяда бывае, браце:
Маланкай сігануў драпежны кот,
Ўсе птушкі кінуліся ў лёт,
А Крук-пражэра не паспеў у неба ўзняцца,
І трапіў ён у кіпцюры...

Сябры,
Пачнеш да іншага часамі прыглядацца:
Ну той жа ненажэра крук...
Ўсё да сябе грабе, хапае,
У бліжняга скарынку з горла выдзірае,
Ад тлушчу крэкча, як вяпрук,
Людзей не бачыць ён з-за прорвы-жывата...
Вось на хапугу б гэткага — ката!

*24.1.68*

## АНКЕТА І Г. Д.

Аўдзей Іванавіч, як добрага суседа,
Сымона з малалецтва ведаў,
Бо разам лазілі у яблыкі, гуркі,
Вучыліся, кахалі,
На фронце ў адной роце ваявалі,
На сёстрах пажаніліся. Ну, словам — сваякі!
Бліжэй, здаецца, парадніцца ўжо няможна —
Давер'е поўнае, саюз!
Але дарогай рознаю пайшоў з іх кожны:
Аўдзей Іванавіч стаў важны туз,
На верхатуры дзесь заняў пасаду;
Сымон жа — узначальваў будаўнічую брыгаду,
Але патрапіў неяк у бяду.
Быў звольнены. Прыйшоў да сябра за парадай:
— Напэўна, праўду я ў цябе знайду...
Жыццё маё перад табой як на далоні.
...Аўдзей Іванавіч у крэсле закрактаў:
— Цыц! Зноўку языку ты волю даў?
Вунь пасівелі твае скроні,
А розуму ніяк не нажывеш,
Усё з пляча сячэш...
Запомні, даражэнькі, глупства не рабі:
Супроць цячэння не грабі,
Бо вылезе, брат, бокам...
Будзь дыпламатам трошку і не пніся на ражон —
І ўзнімешся, як я, высока!
Такі жыцця закон.—
І, падміргнуўшы мнагазначна вокам,
Аўдзей Іванавіч спагадліва дадаў:
— Пішы заяву, біяграфію і запаўняй анкету,
Табе я нешта падшукаў.
— Анкету? Ды навошта валакіта гэта?
А мо ты не пазнаў
Суседа?
Дык вось мой пашпарт і працоўная вось кніжка.
— Пазнаў. Але паслухай крышку
І правільна мяне ты зразумей —
На кожнага, як кажуць, чалавека
Павінна справа быць і картатэка.
То не выпендрывайся! Афармляйся, і хутчэй!

Я не супроць анкеты
І веру: чалавек сапраўдны — чалавеку брат,
Але дадам пры гэтым:
Не можа братам быць адпеты бюракрат.

*28.1.68*

## ЭЎРЫКА!

На пенсію пайшоў Даніла...
(А быў яшчэ ён здаравяк!)
І занудзіўся не на жарт дзівак:
«Куды падзець свой час? Куды прыкласці сілы?
Не паляўнічы я, і не рыбак,
І не грыбнік зацяты...
Пляваць у столь? Або гуляць у карты?
Без справы, ліха пабяры,
Загнешся без пары...
Патрэбна нейкі мне знайсці занятак!»
І раптам закрычаў,
Нібы адкрыў Амерыку:
— Эўрыка! Эўрыка! Эўрыка!
Па сэрцы хобі адшукаў!
Яшчэ я трасяну, як кажуць, сівізною!
Праслаўлюся на цэлы свет!
Шчэ адсмалю такое...
І наш рахманы «дзед»
Засеў з алоўкам у альтанцы,
Пісаў да ночы штосьці ў ліхаманцы,
Аж узмакрэў ягоны плеш.
А раніцою —
Ён да Рэдактара прыдыбаў з пісанінай тою:
— Вось, калі ласка, надрукуйце верш,
Ён пра каханне маладое...
А надрукуеце — на гэну тэму
Я напішу паэму!
Рэдактар прачытаў: — Ні складу тут, ні ладу.
Паэзія — то не камандаваць парадам...
Параю ад душы —
Унукаў лепей калышы
Або вырошчвай на градзе расаду.

*1.6.68*

## РЭЗАНАНС

У Аляксея
Мусіла адбыцца нейкая падзея...
Ён вырашыў яе паціху «замачыць»!
(Бо не любіў адкрыта піць,
Ці ж мала хахмачоў і ліхадзеяў?
Сваім прэстыжам трэба даражыць!)
І, ўзяўшы «Экстру» ў краме,
Сказаў шляхетна, спакваля размаляванай даме:
— Шаноўная мадам,
Вы загарніце пляшачку ў паперу,
А то прычэпяцца яшчэ міліцыянеры...
Удзячны дужа буду вам.
— Бач ты, інтэлігент! Культурны алкаголік!
Яму бутэльку загарні...
Праходзь, праходзь, саколік,
Ў чарзе ты не ўтварай мне валтузні!
Пакрыўджаны абразай,
Сарваўся Аляксей адразу:
— Прашу без «тыкання», без ярлыкоў...
Я па закону патрабую!
Падайце кнігу скаргаў, прапаноў,
Я тое-сёе занатую...
— Ага! Дык ты яшчэ і пісарчук!
Ах, напужаў... Ах, страх вялікі!
Мяне пазбавіць хочаш прагрэсіўкі?
Я адвучу цябе ад гэтых штук!
Мы бачылі такіх прыдзір...
І краля прыняла адразу контрмеры —
Як з-пад зямлі з'явіліся два міліцыянеры.
І шляхціц наш як дэбашыр
Пайшоў памалу на «пасадку»...

Каб не запляміць свой «мундзір»,
Пі не гарэлку, а кефір,
І абмінай «ахоўнікаў парадку».

*28.7.68*

## «ВАЛ»

Завод па вырабу цвікоў
Ніколі не выконваў плана...
І вось, па указанню адпаведных устаноў,
Дырэктара знялі за «стыль заганны»
І новага прызначылі: «Глядзі!
Табе, Бамбэн, у рукі карты...
Цвік нам давай эпохі нашай варты!
Не падвядзі!»
Бамбэн за справу ўзяўся крута:
Па-першае, майстроў сабраў
І інструктаж належны даў;
Затым з эканамістам рахаваўся трое сутак,
З рабочымі размову меў —
Паабяцаў ім горы залатыя...
І што вы скажаце — заводзік загрымеў!
Пачаў выконваць і перавыконваць планы тыя,
Бамбэн пахаджвае ды рукі пацірае:
— Ой, будзе прэмія, і немалая!
Штодзень даём мы «вал»!
І нездарма, відаць, яны пацелі,
Бо спажыўцы ўзнялі шалёны гвалт,
У міністэрства скаргі паляцелі:
— Патрэбен цвік нам рознае велічыні,
А нам даюць метровай даўжыні...
Ці то афёра, ці то гулі?
І камбінатара турнулі.
...Заўважым мы:
Ён «вал» выконваў, пераводзячы на тоны,
І быў «асартымент» адзін ягоны —
Цвікі-ламы!

Дай толькі разгарненне зуху —
Ён лічбай круглай ашалопіць!
І мала гэтага, за паказуху —
Яшчэ і прэмію адхопіць.

*26.7.68*



8 зак 612

## НА ДЫВАНЕ

Начальнік зверху выклікаў Захара на дыван,
І стружку зняў такую ён з Захара,
Што заклубілася з яго аж пара:
— Ці ты работнік, ці цурбан?
Фінансавы зрываеш план!
Прыбытку не даеш — адны выдаткі...
Раздзьмуў звыш каштарыса штат,
Куды ні глянь — усюды непаладкі,
Вытворчасць у цябе альбо дзіцячы сад?
Калі не навядзеш парадку —
На вочы мне лепш не трапляйся,
На пенсію адразу афармляйся!
— Рыгор Васільевіч! — заекатаў Захар.—
Даруйце! Вінаваты...
Звяду да мінімуму штаты,
Каб ніякі камар...
— Што-што?! — Рыгор Васільевіч крывёй наліўся.—
Мяне раўняеш з камаром?!
Ты што? Забыўся?!
Вось чыркану пяром —
І ад цябе не застанецца й паху...
Захар затросся, заікацца стаў ад страху:
— Ва-вас... ды-ды ды з ка-ка-ма-ма-рром?
Ха-хай раз-з-з-заб'е мя-не гыг-гы-гы-ром!
Х-хай, с-с-спе-пя-пя-ліць ма-ма-лан-ка!
Ка-ка-калі я ме-ме-меў нн-на ўва-ва-зз-зе Вв-ва-вас...
— Ну-ну, сядай і газіроўкі выпі шклянку,—
Змякчэў начальніцкі адразу бас,—
Які ты, брат, нервозны...
Ды супакойся. Я пажартаваў...
— Рыгор Васільевіч! — Захар зарумзаў слёзна.—
Са львом бы вас я параўнаў!
Такі магутны Вы! Такі Вы грозны!
Ды сэрца мяккае, не помніць зла...
Дай бог Вам шчасця! Моцнага здароўя!
Ох, і люблю ж я Вас вялікаю любоўю!
Ад нас усіх Вам гонар і хвала!
І шчырая падзяка!

Закончыць байку прымаўкай пара:
«Хоць гаспадар і б'е сабаку,
Ды ліжа той руку гаспадара...»

*13.8.68*

## «СПУЖАЎ»

Ціхоня-падхалім,
Вярнуўшыся ад шэфа,
Усклікнуў: — Сёння я не здрэйфіў!
Я разлічыўся як належыць з ім!
Паклаў яго на дзве лапаткі,
Так напужаў начальніка, што ён і пікнуць не пасмеў!
— Няўжо? А братка,
Ты — звар'яцеў!
Ну раскажы нам па парадку.
— Дык слухайце! Прыходжу на даклад.
Аддаў паперы.
А сам і свету божаму не рад.
Дрыжу, як зайка шэры.
А ён і ўвагі не звяртае...
Ў паперы ўнурыўся мае,
Ліст за лістком перакідае,
То ціха запяе,
То завурчыць злавесна зверам...
«Ах, думаю, каб на цябе пярун!
Пракляты бюракрат! Сядун!
Каб большай ты не меў кар'еры!
Зануда грэшная, чынуша і смарчок,
Ну пачакай, халера!»
А ён ні слоўца у адказ. Маўчок.
А потым ветліва, лагодным тонам:
— Ідзіце. Не затрымліваю вас.
Што значыць крытыка! — закончыў падхалім з рэзонам.—
Стаў шоўкавым хамула, свінапас...

Вядома, крытыка магутнейшую сілу мае!
Яе баіцца дэмагог, чынуша, бюракрат...
Але хто ў думках толькі шэфа лае,
А ў вочы лесціць, спіну перад ім у крук згінае —
Той крытыкі і ганьбы сам найбольшай варт!

*23.8.68*

# ДАЛЬНІ ПРЫЦЭЛ

Пал Палыч Капшукоў
Прыдбаў сабе бульдога.
— Ну й штуку ты ўпароў! —
Сказаў яму сусед Пятроў.—
Навошта ён табе? Не разумею я нічога...
Не паляўнічы ты, не следапыт
І хутара не маеш,
А грошыкі на кніжку адкладаеш.
У цуцыка — звярыны апетыт,
Лепш ты прыдбаў казу б ці парсючка,
Дык меў бы ў хаце крынку малака
Або кавалак сала!
— Ты мелка плаваеш, Пятроў,—
Зарагатаў Пал Палыч Капшукоў,—
Фантазіі ў цябе, мой мілы, мала!
Ты мысліш немаштабна, дапатопна, куца...
А у мяне, брат, дальні ёсць прыцэл!
І гэны кірпаносы цуцык
Ў маёй кар'еры будзе мецъ рашаючы удзел!
Раскінь мазгамі, галава:
Бульдога я падрэсірую месяц-два —
Дык перад шэфам ён пачне хвастом віляць,
На задніх лапах піруэты выраблядь,
Лагодна усміхацца,
Ну, а галоўнае, у лапу хабары даваць...
А я пачну угору узнімацца!
Ну, раскумекаў ты мой план, Пятроў?

Даводзіцца здзіўляцца:
Якіх толькі няма на свеце спрытнюкоў!

*3.12.68*

## КРАХ АМОСА

Спрыт у Амоса своеасаблівы:
Любую справу можа правярнуць,
Замяць, уладзіць ці раздзьмуць!
Увішны ён, ліслівы,
Таму й не дзіва,
Што шэфу ён убіўся у давер...
Цяпер
Той без яго й дыхнуць не можа нават:
— Амос — сюды! Амос — туды!
Амоска гойсае рухава,
І заўсягды
Ён уладкоўвае належным чынам справы...
Ад захаплення рукі пацірае кіраўнік:
— Амоска — незаменны працаўнік!
А як жа! Шэфу і рабіць няма чаго ўжо стала...
Заняты ён другім —
То едзе на Каўказ, то ў Крым,
Ці ж маляўнічых месцаў мала?
Амос убачыў — шэф цяльпук...
І ўладу ўсім на гора
Прыбраў да ўласных рук,
Без узгаднення кіраваць пачаў канторай.
Ды і на шэфа як на блазна паглядае:
— Пустое месца. Парахня.
І хто такога ёлупа ў начальніках трымае?
Вось — Я!..
...Але Амоса раскусілі,
Далі яму пад зад!
А каб аздаравіць наогул апарат,
І шэфа замянілі!

Начальнік! Сцеражыся падхалімаў і праныр,
Бо падвядуць пад манастыр.

*5.3.69*

## ВАВІЛА І ЗАКОН

Мясцовы галава Вавіла
Рабіў вячэрні мацыён,
І старадаўнюю тут вежу ўбачыў ён.
Вавілу ўзбударажыла, гнеў закіпеў у жылах:
«Чаму на фоне буйнаблочнага мікрараёна
Стаіць яна і краявід псуе?
Куды глядзяць работнічкі мае?!
А архітэктар? Сівая варона...
Ну й дам жа лайдакам разгону!»
...Назаўтра ўсіх сабраў у кабінет,
Загаварыў паважна, змрочна, строга:
— Чорт ведае! Не робіце, каханыя, нічога!
Не адчуваеце, як навакольны пераўтварыўся свет,
Век космасу настаў, хакея, сексу і ракет,
А ў вас пад носам вунь стаіць каменная бандура,
Пазелянела, мохам абрасла,
Глядзіць на светлыя кварталы хмура,
А вам нікому думка нават не прыйшла,
Што час яна свой аджыла...
— Дык гэта ж помнік старажытнае культуры! —
Раскрыў нарэшце архітэктар рот.—
Яму, напэўна, год семсот...
Вы гэта зразумейце!
— Семсот? Ха-ха! А хто гады лічыў?
Мо гэта, скажаш, восьмы цуд на свеце?
Мяне ты, браце, рассмяшыў...
Ўзарваць яе! Каб не было і следу!
Вось так. Ідзіце. Гэта мой загад.
...Ды архітэктар той законы ведаў,
Ён у вышэйшую інстанцыю падаўся на даклад.
Там разабраліся талкова
І вежу для нашчадкаў зберaглі.
І, больш таго, ўзялі
Яе пад пільную ахову!

Хоць у Вавілы многа сілы,
Але Закон мацней Вавілы.

*4.8.69*

## «ГЕНЕРАЛ» У СПАДНІЦЫ

Міронавіч з'яўляецца дырэктарам саўгаса,
І, скажам шчыра, гаспадар ён неблагі:
Высокія паказчыкі па малаку і мясу,
І банкаўскі кашэль тугі,
У парніках круглагадова
Вырошчваюць салат, радыску, памідоры, агуркі,
Ёсць пчалапасека, вялікі сад пладовы;
На фермах — гусі, куры, індыкі,
Авечкі, парсюкі,
Каровы...
Наладжан выраб тут сваіх
Каўбас, вяндліны,
А з ягад, з садавіны —
Такія гоняць віны,
Як хопіш шклянку — зойме дых!
Ну не саўгас, а рай!
Жыві, здаецца, і не памірай...
Усё капітальна і заможна!
Ды раем гэты кут назваць няможна.
Чаму? А вось паразважай:
Дырэктара тут жонка асядлала
(Кабеціна, прызнацца, цэнтнеры са два),
Яна па сутнасці ў саўгасе галава!
Як вотчыну, усё да рук сваіх прыбрала,
Усе фанабэрыі яе, ўсе прыхмаці, заскокі
Тут для усіх — загад, закон!
Ледзь пікне хто ці гляне скоса вокам —
Адразу гоніць вон!
На ферме, ў хаце, ў полі,
У клубе, ў школе —
Ад Любы Хведараўны паратунку анідзе няма...
Усюды чуецца яе камандны бас!
Нібы тут гарнізон вайсковы, не саўгас...
І нездарма,
Мёд пакідаючы і сала,
Ад гэтага ў міні-спадніцы «генерала»
З саўгаса хто куды,
Бы ад чумы, ўцякае...

Ды гэта паўбяды.
А што, як большага начальніка жанчына асядлае?

*27.8.69*

## ВЕРАБЕЙ І ПЕНТАГОН

«Пентагон выношвае планы вы... карыстання ў ваенных мэта... прадстаўнікоў птушынага цар... ства планеты. На гэтыя мэт... міністэрства асігнавала 600 ты... сяч долараў».

*З газе...*

Звычайны шэры Верабей,
Які туліўся дзесь пад дахам незаконна
І выбіваўся з сіл, каб пракарміць дзяцей,
Раптоўна стаў персонай!
А як жа! Ім зацікавіліся генералы Пентагона,
Яго фактычна мабілізавалі,
Мундзір адзелі, пачапілі пісталет
І на ваенны факультэт
Накіравалі,
Каб там яго, як дыверсанта, падкавалі.
— Ну, жоначка, цяпер мы зажывём! —
Чырыкаў Верабей усхвалявана.—
Як афіцэрам кадравым я стану,
Тады ўжо канапель ад пуза падзяўбём!
А даслужуся як да генерала...
— О-ох! — тут Вераб'іха заўздыхала.—
Не падабаецца ўсё гэта мне!
Хаця б ты даслужыўся да капрала,
Баюся — згінеш на вайне,
І застануся з дзецьмі я ўдавою...
— Што-о-о? Ты станеш жонкаю героя!
Не румзай, а абед шыкоўненькі рыхтуй,
Гасцей паклічу, трэба развітацца,
Не ўздумай толькі прыбядняцца,
Усё на стол! Нічога не шкадуй!
І ф-фыр-р з гнязда! Сеў на франтон высокі:
— Чырык! Чык-чык! Ну, дзе вы, абібокі?
Чык-чык! Чырык! —
Пачаў склікаць ён Верабейкаў галасіста,
Падскокваць з форсам, выхваляцца ганарыста:
— Ну як мундзірчык? Шык!
Але пабачыце яшчэ не гэта...
Вось прылячу праз год
Пры аксельбантах, эпалетах...
Але аднекуль валацуга Кот
Як сігане на хэўру тую!
Згроб кіпцюрамі Вераб'я:
— Папаўся, «генерал»! Вось зараз я

І пакаштую,
Які, ваяка, ты на смак...
Так-так!
— Ды як ты смееш! Я мабілізаваны!
Мяне ахоўвае закон! —
Затрапыхаўся Верабейка раззлаваны.
— Закон? Ай, напужаў мяне ты, балабон.
Галодны я, каханы,
І мне начхаць на Пентагон!
І Вераб'я Кот праглынуў з касцямі.
...А Вераб'іха тая
Ўсё чакае,
Калі заявіцца супруг з шаноўнымі гасцямі.

Мяркуйце самі:
Хто рукі хоча на вайне нагрэць —
Таму самому не ўцалець!

*11.10.69*

## ГАЛАВЕШКА

Трухлявая, сырая Галавешка,
Якая не давала ўжо ні жару, ні святла,
А толькі чадзіць і сычэць магла,
Курылася на прыпечку няспешкам
І ганарыста разважала:
— Як факел я гару! Як сонейка свячу!
Такіх на свеце Галавешак мала...
Сама ж, між іншым, атмасферу чадам атручала.
— Цябе я зараз правучу! —
Прамовіў Гаспадар.—
І дзякуй богу,
Што не скацілася яшчэ ты на падлогу,
А то пачаўся б тут пажар...
І, ухапіўшы Галавешку голаю рукою,
Укінуў спрытненька ў вядро з вадою.
— О-ёй! — крык Галавешка узняла.—
Гвалт робяць нада мною...
Я светачам была!
Прыносіла карысць народу,
Яму служыла сэрцам і душой,
А не далі мне разгарэцца, не далі мне ходу...
Якая ж тут свабода,
Калі святло маё згасілі у вядры з вадой?..

Пасаду часта нехта так займае
І фанабэрыцца: — Свяціла я! Я карыфей!
Як галавешка тая, вочы чадам засцілае...
Ды цяжка ачмурыць людзей:
Дзе парахня, дзе сонца — кожны знае.

*1.11.69*

## СЛОН І ШАКАЛ

Стары рабочы Слон
Цяжар вялізны нёс на карку.
Даўно, вядома, ён
На пенсію меў права ў заапарку,
Але не мог сабе ўявіць,
Як будзе ён жаваць салому, сена
І лынды біць?
Цягнуў Слон лямку век сумленна.
І зараз цюк ён нёс паміж лясных прагал,
Крактаў, сапеў, але наперад крочыў!
Ды тут Шакал
Наскочыў —
За ногі ён пачаў Слана кусаць,
Сліною пырскаць і раз'юшана брахаць:
— Работнічак! Ледзьве варушыцца. Ідзе і засынае...
А Гаспадар ўсё цацкаецца са Сланом,
Яму чамусьці патурае,
Не перацягне па вушах дубцом...
Мне б ношку гэную, дык, несумненна,
Не поўз, а бег бы я трушком!
Пачуўшы гэта, Гаспадар імгненна
Цюк са спіны Слановай зняў
І на Шакала, што ля ног круціўся,
Бац! — і ўсклаў:
— Цягні, калі сам напрасіўся!
...Шакал і гаўкнуць не паспеў,
Як акалеў...

Мы падышлі і да фіналу:
Кусануць ды аббрахаць
Лягчэй, чым працаваць,
Ды ўсё ж Сланом не стаць Шакалу...

*9.11.69*

## ДАЛІКАТНАЕ ПЫТАННЕ

У кабінет дырэктара завода
Кабеціна зайшла
І скардзіцца на мужа пачала:
— Начальнік, родненькі, прыміце нейкія заходы,
Ўжо сіл маіх няма...
П'яны прыходзіць чалавек заўсёды,
Ўсё чэпіцца дарма,
Ў ход кулакі пускае,
Палохае дзяцей...
Як жыць з ім далей — я не знаю,
Не чалавек, а — ліхадзей.
Ды горачка не толькі ў тым паўлітры...
Зусім здурнеў пад старасць мой Паўлюк —
Завёў наводшыбе каханку-цытру,
Такуе з ёй, як цецярук...
Ад сораму гатова скрозь зямлю я праваліцца,
Няўжо разводзіцца? Амаль жа век з ім пражыла...

— Вы супакойцеся. Не трэба гарачыцца
І з камара рабіць вала.
Глыніце вось вады.—
Дырэктар ёй пасунуў шклянку.—
Ваш муж — дзяцюк не малады,
І вы не верце плёткам пра каханку.
А вось за кулакі,
За п'янку,
Калі пацвердзіцца на справе факт такі,
Тут дам я прачуханку! —

І ён
За тэлефон:
— Сямён Сямёныч? Прывітанне!
Зайдзі-тка да мяне,
Ёсць далікатнае адно пытанне.

Начальнік цэха зразумеў, куды дырэктар гне.
І вырашыў: «Выносіць смецце я не стану».
— Жучкоў? Работнік дзелавы,
План выдае і якасць без заганы...
Але ён чалавек жывы,
Не без граху. Хто з нас бязгрэшны?
Ручацца за яго я не магу, канешне.
Вы кіраўнік. Дырэктар. Галава.
У рукі вам і карты!
Мая тут з краю хата...

Другому майстру трын-трава,
Няма ніякай справы
Да тых, хто п'яніца, распуснік, хуліган...
Абы даваў ён план!
І чхаць на амаральныя праявы...

*4.11.69*

# МАСТКІР *

Ў Палац культуры
У якасці мастацкага кіраўніка
Прыслалі Гусака.
Ну, брат, хвігура!
Чырвоны нос з гарбінкай,
Не шыя, а скрыпічны ключ,
Важнецкая хада, ў вачах зялёныя іскрынкі!
Ну не масткір — арол з каўказскіх круч!
Кумекаў у вакале і ў балеце,
Няблага сам спяваў,
А пры выпадку, на банкеце,
Экспромтам тосты вершамі казаў!
Меў гучны, басавіты голас
І не хмялеў ніколі ні на волас...
— Ну, гэна ідэал!
Універсал,
Браточкі! —
Дырэктар Певень галасіў
І аж заплюшчваў у экстазе вочкі.—
Цяпер мы ўсіх
На конкурсах мастацкіх і аглядах
Пакінем ззаду!
...Прайшла адна, другая, трэцяя дэкада,
І Певень нецярплівы, які драмаць нікому не даваў,
Зайшоў у клас вакала,
Дзе Качачка прывабная спявала,
І запытаў
Ў мастацкага кіраўніка:
— Ну як, маэстра, новая салістка?
— Хто? Качачка? Ого! Такую пашукаць!
Чароўная ў патэнцыі артыстка...
Зірніце, шэф, што за натура:
Якія бёдры, грудзі, стан!
Але і не пазбаўлена яна заган,
Пакуль што, хе-хе, гліна, не скульптура.
Надаць ёй смеласць трэба і размах,
Правінцыяльную аслабаніць скаванасць.
Як кажуць, патрымаць у вопытных руках,
Ну, абкатаць, каб атрымалася сапрана...
— Ну-ну! Абкатвай! Ды старанна!
А калі што — дык я дапамагу,—
Пракукарэкаў Певень на бягу.—
Ды і на іншых ты не забывай!..
Гуд бай!

---

* Масткір — мастацкі кіраўнік.

— Гуд бай! — Гусак загагатаў
І рэпеціраваць так інтэнсіўна стаў,
Што ў выніку абкаткі
Дабіўся поспеху мастак:
З'явіліся у прымадонны качаняткі...

А як
Гусак?
Праводзіць з іншымі заняткі!

*11.11.69*

## СПРЫТНАЯ КАЗА

За Козачкаю маладою
Скакалі Козлікі адразу двое:
Адзін, здаецца, зух; другі — не зломак!
А Козачка, вядома,
То ласціцца з адным,
То падміргне загадкава другому...
Так закруціла галавы дурным,
Што з-за яе яны ў вір сігануць гатовы!
Згубілі апетыт, пазбавіліся сну
І між сабой вядуць не на жыццё вайну!
Трашчаць і капыты, і скабы, і галовы...
А Козачка рагоча, жару паддае,
Да белага калення распякае:
— Ну-ну, джэнтльмены, рыцары мае,
Хто з вас мацней, хто больш мяне кахае?!
(Сама, між іншым, на Казла сівога паглядае
Ды ўсё: «Хі-хі!», «Ха-ха!»)
Дзядуля зразумеў адразу пазыўныя
І, ўбок адкінуўшы умоўнасці і сантыменты тыя,
Ашчадней кніжкай памахаў.
І вынік быў магічны:
Пакуль там Козлікі вялі рашучы бой
За даму сэрца граічна,
Сівы Казёл з Казуляй маладой
Афармілі у загсе шлюб.

З-за рэўнасці да кручанай дзяўчыны
Хлапцы дзяруць адзін другому чуб...
Ну, а яна з іх строіць кпіны,
І да кахання у яе падход адзіны:
Хоць стараваты,
Ды багаты!

*12.11.69*

## «ТВОРЧАЯ» БАРАДА

Паэт Фантанаў захандрыў...
Дэпрэсія, апатыя яго скавалі,
Перад люстэркам ён сядзеў і сам з сабою піў,
А Музы над чалом яго луналі!..
«Чорт пабяры! — Ён грукнуў кулаком.—
Ці ж пораху няма ў парахаўніцы?
Як рыбіна аб лёд хвастом,
Я тыдзень б'юся над радком
І не магу за слова учапіцца...
Раней, бывала, толькі сеў за стол —
Ляцелі рыфмы, і метафары, і тэмы,
Шугала думка, як арол,
Як семкі, лускаў я балады і паэмы!
А зараз вобраз свежы адшукаць — праблема...
Не!
Трэба мне
Ускалыхнуцца,
Туды,
Сюды
На лімузіне пракаўзнуцца...»
І вось назаўтра, у чатырнаццаць нуль-нуль,
Як алімпійцы на Парнас прыходзяць на работу,
Фантанаў наш прынёс свае турботы:
— Шэф дарагі, ніхто не дакучае нам пакуль,
З табой дазволь парахавацца.
Патрапіў я ў цэйтнот...
За эпапею я хачу узяцца,
Дык трэба і эмоцый, і уражанняў набрацца —
Дай творчую камандзіроўку мне на год!
— Ды што ты, браце? Апупеў?
Дзе грошы я вазьму табе такія? —
Шэф ускіпеў.—
Мо думаеш, тут б'юць крыніцы залатыя?
На месяц, калі ласка. Гэна мы дадзім!
Едзь. Набірайся творчага запалу.
І эпапею ты пішы памалу.
А там мы пачытаем. Абмяркуем. Паглядзім.
Як варта будзе — і прадоўжым...
...І вось Фантанаў выправіўся ў падарожжа!
Дзе ён блукаў
І вандраваў —
Нам невядома.
Але, відаць, дарэмна час ён не губляў
(Хоць не стварыў ні тома,

Ні паўтома) —
Прывёз такую бараду,
Што глянуць люба!
І, кажуць, шэфа зноў бярэ за чуба,
Каб даў камандзіроўку на Чукотку ці ў Караганду...

Што ж? Паспрыяць патрэбна барду —
Мо вусы прывязе і бакенбарды?..

*16.11.69*

## ЖАЛЕЗНАЯ ПАМЯЦЬ

Кандрат з Лявонам па-суседску некалі жылі,
Хадзілі да дзяўчат і чарку бралі,
А ідучы дамоў, «Шумеў чарот» спявалі...
Але «гады зялёныя» даўно ўжо адышлі!
Кандрат заняў салідную пасаду,
Над калектывам меў
Ён пэўную уладу
І звысака на падначаленых глядзеў.
Ды неяк нос у нос з Лявонам напаткаўся,
Зірнуў, як на мурашку слон:
— Прыпамінаю, здэцца. А-а-а, ці не Лявон?
Паэзіяй ты захапляўся,
З млынамі ваяваў, дзівак...
Дасяг чаго ў жыцці ці так
Дагэтуль донкіхотам і астаўся?
Ну-ну! Бывай!
Спяшаю на паседжанне АБВГДЕкома.
Глядзі! За гальштук моцненька не закідай
І з жонкай не шумі... Мне ўсё вядома!
Бо інфармацыя на вышыні...
Паклон радні!
Ага. Дарэчы, братка,
Калі ты вернеш мне дзесятку?
— Дзесятку? — здзіўлена Лявон перапытаў.
— Угу. У сорак шостым пазычаў.
— Дык, можа, і вярнуць працэнты?
— Ды што я — крахабор? Ліхвяр?
Навошта гэтакія сантыменты?
— Ну дзякуй, дамавіты гаспадар!
Але ўлічы: ужо дзве рэформы адбыліся,
Бяры капейчыну — і не чапіся...

На грош каторыя карысці прынясуць,
А на рубель падкалупнуць.

*17.11.69*

## АРАНЖЫРОЎШЧЫК

Музыка дамаспелы Скрыпунок,
Які у нотах з горам разбіраўся,
Сяк-так ў руках трымаў смычок,
Пілікаў «Чыжыка» і «Крыжачок»,
У кампазітары падаўся!
Але, каб напісаць санату ці сімфонію
Або арыгінальную мелодыю стварыць,
Патрэбна дасканала знаць гармонію,
Ну, а галоўнае, таленавітым музыкантам быць!
Мець божы дар,
Мець творчае натхненне!
А Скрыпунок ад нараджэння
Быў бездар і глухар...
Аднак прырода і яго не абдзяліла:
Пранырлівы, настырны, прабіўны,
Трубіў усім і біў ва ўсе званы,
Што ён не кампазітар — сіла!
Ды словы словамі, а справа справай:
Што ні напіша, небарак —
Не музыка, а брак —
Ні ганарару і ні славы...
Напэўна б, іншы рукі апусціў і духам заняпаў,
А Скрыпунок быў не такоўскі!
Хоць ён не стаў Чайкоўскім,
А «залатую жылу» адкапаў!
Народныя мелодыі, забытыя матывы і рамансы
Стаў перакручваць на эстрадны лад...
І пацяклі ў кішэнь яму фінансы.

Па-свойму кожны зух і хват!

*19.11.69*

## СМЕХ І ЖУРБА

У дом культуры, на канцэрт эстрады,
Сышліся сельскія працаўнікі:
Дзядзькі, кабеты, маладзіцы, юнакі,
Прыбраныя, як для парада.
Вось песня загула, танцоры закружыліся, нібы ваўчкі,
Вось Смеху заіскрыліся каскады
На жарты трапныя, дасціпныя рэпрызы, каламбуры.
У зале узнікаў вясёлы рэагаж,
Апладысментаў віравала бура!
Адна Журба, па непаразуменні трапіўшы сюды тыпаж,
Зялёная ад суму, ад нуды, ад злосці,
Крывілася і Смеху пагражала штосьці...
Ды на старую качаргу ніхто увагі не звяртаў,
Бо Смех усім настрой узняў!
З канцэрта крочылі калгаснікі дахаты
Ў гуморы добрым, як са свята!

Нядаўна прачытаў я пакляпон:
Валіў пісака з хворай галавы ды на здаровую,
Ды тактыку яго не новую
Адразу выдаваў яго ж плаксівы тон.
Ізноў на Смех наскочыла Журба,
Але арэшак гэны ёй не па зубах!

*23.11.69*

## НАВУХАДАНОСАР

Навуходаносар — быў халдзейскі цар,
Жыў некалі да нашай эры...
Але на вуха наш даносар і пляткар
Жыве і сёння побач у кватэры,
Вось байку і зластыў я пра такіх пачвар.

Ягор прыйшоў апоўначы дахаты,
Ну жонка і насела на яго:
— З'явіўся, чорт чубаты!
Не беражэш здароўечка майго:
Сяджу. Нервуюся. Перажываю.
Гляджу ў акно.
Чакаю.
А ты? Не чалавек, а — бервяно!
Ах, бедная я сірацінка...
Тут голас задрыжаў, закапалі з вачэй слязінкі...
— Ах, ластаўка мая! Даруй! —
Ягор да сэрца прыгарнуў пяшчотна жонку.—
Але ты зразумей, сама вось памяркуй,
У нас такая завядзёнка:
Штодзень — то сход, то семінар, палеміка, дэбаты...
Цікава, не цікава, а — сядзі,
Вось тут у тэрмін і прыйдзі
Дахаты!
— Дэбаты, кажаш? Лепей не мані,
А ну, мой любенькі, дыхні!
Ну так і ёсць. Ты піў віно.
А дзе віно — там і жанчыны...
— Ды божа барані! Мы па грамульцы... па адной...
Была на гэта важкая прычына —
Я прэмію сягоння атрымаў!
— Ах, прэмію! Ах, мой харошы!
Чаго адразу мне ты не сказаў?
Давай сюды! Якраз патрэбны грошы!
...Усё пайшло як след,
Закончылася спрэчка поўным мірам!
Але... сусед,
Які за сценкай вуха натапырыў,
Назаўтра чуткі распускаў,
Што поначы Ягор скандаліў, дэбашырыў,
Адпачываць нікому не даваў...
Ну, словам, накляпаў бязбожна.

З навуходаносарамі будзьце асцярожны!

*2.2.70*

## ПУПЫР У ЗЕНІЦЕ

Пупыр узняўся у зеніт!
Плюе на ўсіх, дзярэ свой нос кірпаты...
А чым ён знакаміт?
Таленавіты? Розуму ў яго палата?
Наадварот!
У гэтым і пытанне —
Дурны як бот!
Але... наверсе дзесь, ля пульта кіравання,
Сядзіць ягоны брат...

А вы гаворыце, што пахаваны блат.

*3.2.70*

## ТУДЫ І РАК З КЛЯШНЁЙ

Намаляваў карціну Вол...
(Ён быў не геній, а мастак звычайны,
Але пейзаж стварыў рэальны.)
Адлюстраваў, што бачыў навакол:
Лес, луг, раку,
Затоплены вадою човен гнілаваты,
На выгане — калгасны статак,
А у кутку —
Калёсны трактар.
І далей дзесьці ў гушчары —
Казёл рагаты...
У салон, дзе выстаўлялі мастакі карціны і плакаты,
Малюнак Вол прынёс на суд журы.
І разгарнуліся дэбаты:
— Магутненька! — прамармытаў Казёл.—
Ды ліха пабяры! Маштаб маёй хвігуры малаваты...
Ты б перанёс яе сюды вось, на пярэдні план,—
Адразу б кампазіцыя зайграла!
— Бе-бе-зумоўна! — забэкаў усхвалёваны Баран.—
На першы погляд выдаецца ўсё удала:
А як змястоўна, дасканала!
Але... але... Не можа быць, каб без заган...
Скажыце, Вол шаноўны,
Які тут сэнс асноўны?
І стыль які?
Класічны мо? Ці мадэрнісцкая імпрэсія?
Каб не было якой дыверсіі...
— Яшчэ, здаецца мне, браткі,—
Авечка Барана суладна падтрымала,—
Занадта ўжо будзённы фон,
Стэрэатып, шаблон,
І выдумкі мастацкай мала...
Я гурт авечак ў цэнтры бы намалявала —
Вось гэта быў бы іншы каленкор!
Ніхто б не кінуў аўтару дакор...
— Пры чым авечкі? Га? — зарохкала Свіння.—
Тут і Казёл, зазначу, недарэчы...
Паколькі ў кампазіцыі кумекаю, калегі, я,—
Галоўнай у карціне не хапае рэчы —
Лужы!
Астатняе — дэталі, драбяза...
— Дазвольце! — умяшалася Каза.—
Арыгінальная работа. Падабаецца мне дужа.
Адна парада: човен замяніць лепш на маторку —
Надаць сучасны каларыт,

І можна ацаніць карціну на «пяцёрку»!
Тут Конь узняў капыт:
— Прашу увагі! Дайце слова!
Казалі многа, востра, дэталёва
Пра кампазіцыю, палітру, тэму і сюжэт...
Вядома, не сакрэт,
Крытыкаваць лягчэй, чым напісаць талкова.
Не памылюся я — ёсць добрая аснова,
Ёсць некаторыя і недаробкі,
Але на існаванне мае права твор!
На гэтым і паставім кропку.
Ды тут ў атаку Рак папёр,
Махаючы ў паветры грозна
Раскрытаю кляшнёй:
— Таварышы! Ішло абмеркаванне несур'ёзна!
Не вызначаецца малюнак глыбінёй...
Па сутнасці, прад намі не карціна,
А — мазня!
Дзе ціна?
Пытаюся ў вас я...
І дзе падводнае, скажыце, царства?
Дык нечага нам думаць і гадаць...
Зняць!!!
...І твор знялі, бо Рак
Хоць быў і не мастак,
Але ён прадстаўляў начальства!

Ў пастскрыптуме дадаць карціць:
На густы ўсе — не дагадзіць.

*9.2.70*

## ФАРАОН І МЕГЕРЫ

Барсук, пакрыўджаны нахабным Воўкам,
Мядзведзю чалабітную прынёс.
Ў прыёмную зайшоў і да парога як прырос,
Уразіла яго шыкоўненькая абстаноўка:
Канапы, люстры, дываны, парфумы пах
І прыгажуні, што сядзелі па кутах!
Вавёрка за машынкай сумавала,
Такая пекная — не адарваць вачэй...
А побач Лісанька — яшчэ ямчэй
Якуюсь кніжку тоўстую чытала.
А далей — Козачка, сапраўдны цуд!
Век на яе, здаецца б, любаваўся...
І моўчкі ля дзвярэй Барсук таптаўся.
— А вам што трэба тут? —
Да Барсука падбегшы жвава,
Спытала Козачка.— Вы на прыём?
Якая справа?
Прыходзьце лепей іншым днём.
Таптыгіна няма. Дакладней, ён заняты!
(Хаця Мядзведзь у кабінеце ў гэты час сядзеў
І над красвордам «Аганька» пацеў.)
— Ну што ж стаіце? Тупайце дахаты.
Здаецца, ясна вам сказалі,—
Вавёрка і Ліса аднагалосна падтрымалі
Паплечніцу сваю.—
Бач, швэндаюцца розныя... Б'юць лынды...
...Барсук з нябёсаў апусціўся на зямлю!
Ад горкай крыўды —
Забыў, дзеля чаго прыйшоў сюды:
— Даруйце. Выбачайце. Я-я выйду...
І кінуўся з харомін падалей ад бяды.

У бюракрата іншага не крэсла — трон!
А сакратаркі, бы мегеры,
Ахоўваюць надзейна дзверы,
І ён
Жыве, як фараон!

*18.2.70*


Галанд-
ская
карова

## АДЗІНКА І НУЛЬ

Адзінка выхвалялася перад Нулём:
— Я — гэна сіла, брат!
Ўсё пачынаецца з мяне кругом —
Сатняга, тысяча, мільён, мільярд!
А ўзяць любы даклад?
Таксама ад мяне ўсе скачуць...
А тэарэма? Формула? Задача?
Не абыходзяцца ізноў жа без Адзінкі!
— Мажліва,— пагадзіўся Нуль,—
Але паслухай і мяне хвілінку:
А сіла і вага твая адкуль?
Хіба ж не ў тым, што побач я з табою?

Так некаторы кіраўнік
Сябе галоўнаю персонай велічаць прывык,
А калектыў лічыць за нуль гатовы...
А сіла — у саюзе двухбаковым!

*3.3.44*

## З ЛЕВАЕ НАГІ

Прыехаў старшыня ўначы з нарады,
Зняў боты, шапку і кажух
І хуценька пад коўдру — жух!
«Вось ухадзіўся... І ядзе не рады»,—
Падумала яго кабета.
А старшыня хапаўся то за сэрца, то за лоб,
І толькі ён на золаку захроп.
Затое так салодка і з такім імпэтам,
Што дзесь прачнуўся апасля абеду,
Ускочыў і загаласіў:
— Гэй, жоначка! Чаму раней мяне не пабудзіла?
— А ты прасіў?
— А ты б сама ініцыятыву праявіла!
Вунь на двара вясна. Шпакі крычаць.
Не сёння-заўтра трэба ў поле.
А па брыгадах трактары няспраўныя стаяць,
І сеялкі з-пад снегу трэба адкапаць.
Тут не да жартаў! Клопатаў даволі!
— Ну-ну, сядай за стол ды лепей павячэрай,
А потым мітынгуй...
Капусты лыжку ён глынуў і зубы аж ашчэрыў:
— А каб цябе халера!
— У-ю-юй!
Га-ра-чае. Папёк усё у роце.
Магла б і астудзіць...
— Ну хопіць, мужанёк, круціць!
Запомні, ты не на курорце...
Ці з левае устаў нагі?
Ці атрымаў узбучку на паседжанні райкома?
Камандуй у калгасе, дарагі,
А не над жонкай дома.
Зіму ты ў шапку спаў — цяпер вылазіць бокам...
Эх, гора-кіраўнік!

Ацэнку жонак не бяруць ў разлік.
Шкада! Патрапіла кабетка не ў брыво, а ў вока.

*10.10.46*

## БЯЗЗУБЫ КРАКАДЗІЛ

Няведама з якой прычыны
У Кракадзіла сталі зубы выпадаць...
І грозны некалі звярына
Пачаў прэстыж свой баявы губляць.
Бывала, што ля вадапою
За хобат браў ён і Слана,
І Леў яго абходзіў стараною,
Бо з ім валтузіцца — бяда адна,
Зубастая такая зяпа —
У момант застанешся без хваста або без лапы...
І майце — навіна...
Смяюцца з Кракадзіла Кабаны і Малпы,
І Зайцы кпяць
Адкрыта:
— Бяззубае каменнае карыта!
— Абразіна!
Як Кракадзіл знявагу мог стрываць?
Ад крыўды пакацілася ў яго ажно слязіна...
Але ў бядзе яму ніхто не дапамог,
Бо нават бог
Ад Кракадзіла адвярнуўся...

Цяпер я сутнасці крануся:
У іншага сатырыка рэклама — будзь здароў!
Ўсе лацканы абчэплены значкамі,
А прыглядзішся — без зубоў,
Звычайны скамарох тут перад вамі.

*4.1.68*

## ПАРОДЗІСТЫ ПЕНЬ

Старое ляда карчавалі...
Тут трэба сілу мець і спрыт,
Падважнік прымяніць, сякеру, трактар, часам дынаміт.
Ну і дзядзькі, вядома, справу зналі:
Ўжо наварочалі гару карчоў,
Ішла работа поўным ходам!
Ды між струхлелых пнёў
Сустрэўся Пень такой пароды,
Які ў зямлю на метраў пяць урос...
І як ні напіналіся мужчыны,
А вывернуць яго было ім немагчыма.
Тут трактар падагналі,
Зачапілі трос.
— Ну, гніляку каюк! — чакалі.
Ды што за дзіва! Трактар буксаваў,
Ў зямлю глыбей сам зарываўся,
А корч ні з месца, нібы пасміхаўся,
Ніякі чорт яго не браў!
— Ах, вось як! — брыгадзір аж узлаваўся,
І, залажыўшы шашку дынаміту
І падпаліўшы кнот,
Пень узарваў ён без турбот.

Ідзе гаворка менавіта
Аб тым, што кансерватара ці бюракрата,
Псеўдавучонага, які ад старасці замшэў,
З пасады выкарчаваць цяжкавата...
А карчаваць іх варта,
Каб новы вырастаў пасеў!

*20.3.68*

## ШАФЁР І КАЛЕГІЯЛЬНАСЦЬ

Міхал ў арганізацыі адной
Рабіў шафёрам,
Выконваў чэсна абавязак свой,
Меў першы клас, выдатна разбіраўся у маторы.
А шэф таксама меў свой нораў:
Калі, бывала, выязджалі ў дальнюю камандзіроўку,
Ён клапаціўся, каб Міхал меў і начлег,
І падкідаў яму пяцёрку на сталоўку.
А ці ж то грэх?–
— Ты, браце, калі што якое, дык кажы,
Ты не саромейся. Ў цябе ж сямейка!
На ўліку, пэўна, кожная капейка?
І правільна! Ашчадна трэба жыць...
Вось пагаворыць так, а часам і палае,
Але глядзіш,
Пры зручным выпадку і прэмію ён выдзяляе.
А зараз — шыш!
Працуй, хоць вылузайся аж са скуры —
Ні прэміі Міхалу, ні халтуры,
Адзін аклад.
Ну, а на ім не надта пашыкуеш,
Брат.
А справа ў тым, што пастанову прынялі такую:
Каб кіраваць
Калегіяльна!
Ну і замест аднаго Івана
Абралі пяць!
Цяпер усім Іванам мусіць наш Міхалка дагаджаць...
Ды кожны ж тузае, ды кожны распякае!
А вось каб матэрыяльна падтрымаць
Ці глянуць у душу —
То кемнасці чамусьці не хапае...

Прашу
Не кідаць у мяне камення.
Калегіяльнасць — добра! Я у захапленні!
Але не згодзен вось Міхал —
Пакінуў «Волгу», перасеў на самазвал...

*28.5.68*



9 Зак. 612

## БАЛАДА ПРА БОТЫ

На абутковай фабрыцы «Прамень»
У пачатку года
Мітынгавалі цэлы дзень.
Пытанне ставілася, як заўсёды,
Аб якасці, аб колькасці, аб выкананні плана.
Прамоўцы гаварылі палымяна,
Не шкадавалі слоў
І фарбаў:
— Таварышы! У эканоміі — крыніца скарбаў!
— План перавыканаем аж... у пяць разоў!
— Панізім сабекошт на... сто працэнтаў!
— Асвоім выпуск новага асартыменту!
— Парадуем пакупнікоў,
Бо нашы боты новага фасону —
Не горш за боты, што ідуць аж з-за кардону!
Які магутны ў нас
Абцас!
Яго не стопча і рабочы клас!
І што ж? Абавязацельствы выконвалі датэрмінова,
Ізноў дэбаты бурныя вялі,
З энтузіязмам план прымалі новы,
Кляліся, абяцалі...
А боты? А боты штосьці не ішлі,
Пакупнікі іх абміналі...
Бо хоць цана была «на вышыні»,
А якасці — ані...

А вывад ясны:
Таварышы, паменей балбатні,
Пабольш прадукцыі добротнай і сучаснай.

*25.6.68*

## КАРАВАН І САБАКА

Адзін прафан,
Дакладней палітычны камерсант і рэнегат заўзяты,
Пачаў пісаць «тэарэтычныя» трактаты:
«Я,— кажа,— ў хвіласофіі тытан!
Дзядуля Маркс і дыктатура пралетарыяту
Ўжо адышлі ў нябыт...
За іх хаваецца хто, як за шчыт,—
Той не хвілосаф творчы, а — дагматык!
Як піша прэса:
«Цяпер век тэхнікі, навукі і прагрэса!
Не той рабочы клас,
Не той капіталіст таксама...»
На сёння гэткая праграма —
Ўрастанне мірнае народных мас
Ў сацыялізм шляхамі рэфармізму...»

Шуміць шалёна буржуазны друк
Пра «крызіс» камунізму,
Але мы знаем — гэта справа рук
Агентаў платных імперыялізму.
Ды з панталыку не саб'еш людзей —
Сабака брэша — караван ідзе!

*27.7.68*

## УЗНАГАРОДЫ

У сувязі з адною датай
Узнагароджвалі звяроў.
Старшынстваваў Казёл, а сакратарстваваў Баран рагаты.
Вядома, шмат было прамоў,
Параднасці, шуміхі...
Каму ўручылі грамату, каму — медаль,
Усіх успомнілі — ад Пацука і да Ласіхі,
Аднога Вожыка, на жаль,
Маўчаннем абышлі ўсе ціха.
— Ты што ж так падкачаў, сябрук? —
З ухмылкай калупнуў Барсук.—
За што такая на цябе апала?..
— Ну, не далі,
Ці ж сонца з неба ўпала?
Або патоп стварыўся на зямлі?
Чаго цябе так гэта ўстурбавала?..
— Э-э, не! — Барсук не суніраўся.—
Калі б Мядзведзя ты не падкалоў,
Калі б перад Зубром, як Ліска, выгінаўся,
Тады б табе Казёл медальку прыкалоў,
Ты б без увагі не застаўся...
Не пніся на ражон! Будзь трохі дыпламатам!
І станеш нават лаўрэатам!

Цяпер адкінем алегорыі...
Трапляюцца на вочы некаторыя:
Перад начальствам рады стаць,
Здаецца, на карачкі
Дзеля падачкі...
Але давайце годнасць чалавека паважаць!

*14.8.68*

## «АБ'ЕКТЫЎНЫЯ» ПРЫЧЫНЫ

У санаторыі штось з харчаваннем дрэнна стала:
То фруктаў да стала не падаюць,
То замест масла ёлкага накрояць сала,
То крупніку нішчымнага нальюць...
А порцыі такія, што кату і тому мала!
Смятана знікла, знік з меню тварог,
Яечкі, селядцы, таматы, сокі,
Скрозь скаргі раздаваліся, папрокі:
— Ну, далібог,
Не санаторый, а вакзальная сталоўка...
І пачалі прычыны «аб'ектыўныя» шукаць:
— Напэўна, міжнародная пагоршылася абстаноўка...
Запасы трэба ж папаўняць!
— Ды кіньце глупства! Досыць выдумляць!
Наадварот! Наладзіліся ў нас кантакты,
І чымсьці трэба ж гандляваць...
— Я просты чалавек, я — не арыстакрат,
І ў даную мінуту
Мне не патрэбна сёмга і ікра,
Бо мы бяром за гэта ўсё валюту!
— Браткі! Краіны Афрыкі, Лацінскае Амерыкі,
А Куба? А В'етнам?
Хто ж дапаможа, як не мы, братам?
Дык нечага тут кідацца ў істэрыку...
— Сухмень... Датла усё згарэла...
— А дзесьці вымакла ўсё наадварот! —
...Гадаў народ,
Але не з таго боку, не з таго прыцэлу...
Рэвізія іх вырашыла проста спрэчкі:
На «аб'ектыўныя» прычыны звальвалі дарма,
Шэф-повар краў і масла і яечкі,
Пасліся цешча і кума...

Краіна нашая багацця мае шмат!
Гандлюем мы і бескарысліва, дзе трэба, памагаем,
Але калі ў сталоўцы недахват —
Прадукты хтось, бясспрэчна, раскрадае,
На «аб'ектыўныя» прычыны нечага тут спасылацца,
Лепш за канкрэтных злодзеяў узяцца!

*27.8.68*

## СЦЯНА

Кіраўнікі мікраскапічнага маштабу
Суседзямі былі,
Суладна ва ўстановах рэй вялі,
Ды нечакана пасварыліся, як бабы...
Была б прычына. А то дурнота, блазната адна —
Сцяна,
Сцяна з'явілася штуршком тым да разладу.
А вось як тут было:
Аднаму з іх у галаву прыйшло
Прыстасаваць з выгодай анфіладу,
Адгарадзіць сабе так званы «хол».
Дарэчы, у суседа тэрыторыі хапала,
Хоць пачынай гульню ў футбол!
Здаецца, што няма зачэпкі для скандалу,
Бо меўся і дазвол
З інстанцыі высокай, найшаноўнай,
Каб справа вырашалася па-брацку, палюбоўна,
Каб той,
Што размясціўся надта ўжо шыкоўна,
Крыху пасунуўся і даў пакой
Суседу.
Каб супрацоўнікі для працы ўмовы мелі
І без паветра не марнелі.
Але хто ведаў,
Ліха пабяры,
Што ўчарашнія суседзі і сябры
З-за нейкае сцяны, перагародкі
Гатовы перагрызці, як ваўкі, адзін другому глоткі?..

Зірнеш на свет — аж кружыцца ад шчасця галава!
Ну не жыццё, а проста казка,
Навокал столькі прыгажосці, хараства!
Ды выбачайце, калі ласка,
Ёсць недарэчнасць не ўяўная адна —
Сцяна.

*4.9.68*

## ФОРУМ

Звяры сабраліся на форум...
Абвестка дня: «Ахова вод».
Адкрыў паседжанне салідны Бегемот:
— Браты! Разлад забудзем. Мірна пагаворым.
Праблема сёння — чыстае вады!
Мялеюць рэкі і азёры,
Аазісы забруджваюцца. Гэта ж нелады!
Калі трывогу нам не біць —
Дык хутка недзе будзе нам памыцца
І смагу нават прытупіць...
Прашу выказвацца, уносіць прапановы,
Каб нам пазбыцца
Гэнае бяды...
— Дазвольце слова!—
Лапку узняла Лісіца.—
Вядома, без вады
І ні туды і ні сюды...
Але, дзе я жыву, у нашым краі,
Чаго-чаго, але вады хапае!
А Пеўнікаў недастае...
Вось наконт іх пытанне узнімаю!
— Сядай! Размовы неістотныя твае,—
Спыніў Лісіцу Бегемот.—
Даецца слова Насарогу!
— Шаноўныя! Мы ўсе сабраліся на гэты сход
Без зубаскальства і згрызот,
Па-дзелавому, строга
Рашыць нялёгкую задачу —
Задачу захаванасці і чысціні вады.
Але тады
Чаму на нашым форуме тут чалавека я не бачу?
Бо ён віноўнік! Ён крыніца зла!
Лясы сячэ, без розуму балоты асушае,
У рэкі хімікаты і мазут скідае...
Тут хваля абурэння загула!
І мусіў Бегемот узняцца з-за стала:
— Цішэй! Паслухаем, што піша паважаны Кіт:
«Шаноўныя прадстаўнікі так званай сушы,
Мае далёкія вы землякі,
Паскардзіцца я мушу —
Я задыхаюся у моры-акіяне:
То вадародныя выпрабаванні,
То танкер з нафтай узарвуць...
Мы, рыбы і звяры стыхіі воднай,
Якія шчэ не вымерлі, якія шчэ жывуць,

Але ўжо адчуваюць голад кіслародны,
Свае да вашых далучаем галасы
І пратэстуем супраць забруджэння вод!»
(У нашыя часы
Даказана, што рыбы голас маюць!)
І гэты прадстаўнічы сход
Пасля дэбатаў рэзалюцыю прымае:
«Прасіць ААН
Узяць пад ахову рэкі, моры і сусветны акіян.
Ну, а да тых, хто будзе брудзіць і муціць,
Такую кару
Прымяніць —
Не даць вады ім піць!»

«Бач ты! Вады прыхільнік яры!» —
З мяне хтось можа падтруніць...
А паспрабуйце без вады пражыць?!

*15.11.68*

## ЗАПОЗНЕНАЯ РЭАКЦЫЯ

Год пяцьдзесят дзед з бабай пражылі
Без лаянкі, без груку,
Пагадавалі і сыноў і ўнукаў...
Ды нечакана сварку завялі!
Аднога разу за абедам
Кулеш са скваркамі паднесла баба дзеду,
Ну не кулеш, а цуд!
Духмяны, залацісты, смакавіты,
Цяперака і кухар знакаміты,
Які закончыў спецыяльны інстытут,
Такога харчу згатаваць не умудрыцца.
Сёння акцэнт
На стравы з-за граніцы:
Трыпангі ды вустрыцы...
Дзядуля гэткіх страў не каштаваў,
Ён на кулеш з імпэтам налягаў,
Ды раптам — плясь! — па лобе бабе лыжкай...
— Ці звар'яцеў, старая качарыжка?!
Чаго ты бойку пачынаеш?
Ну чым не дагадзіла я табе?!
А дзед ёй — плясь!— яшчэ па лбе:
— Дык ты яшчэ пытаеш?
Успомніў — ускіпела кроў —
З кім ты круціла да мяне любоў?
Прывёў цябе я ў хату
З далёкага сяла,
А ты ж не дзеўкаю была...
Кажы, хто да мяне цябе пакратаў?
— Ды што ты, дзед, вярзеш?
Век пражылі. Цяпер ты спахапіўся,
Лепш
Даядай кулеш,
І без дзявоцтва пражывеш!
І з бабкаю сваёй дзед пагадзіўся.

Рэакцыя запознена, вядома,
Калі бывае грэх,
Да твару рэўнасць толькі маладому,
У старога — выклікае смех.

*4.1.69*

## ГАРЭЛКА І АМЕРЫКА

Раману даручылі выступіць з дакладам
На тэму: «Алкаголь — атрута, зло!»
І ён завёў: — Таварышы, за іншым ладам
Вось як было:
Мой дзед, скажу я прама,
Гарэліцы не гнаў.
(Была пад бокам крама!)
Адразу «гусака» ён браў,
Ну і на дзень пітва яму хапала.
А госці ў хату — іншы каленкор,
Тут гусака таго, вядома, мала,
Ён скрыню валачэ у двор!
Дзед не хварэў да самай смерці,
Пражыў на свеце
Сто гадоў.
А каб не піў — пражыў бы дзвесце!
Ну возьмем зноў
Майго вось татку:
Смалісты корч! Яшчэ мядзведзя раскладзе на дзве лапаткі,
Сівуху п'е і «Сонцадар»,
Пад восемдзесят, бач, старому,
А перад ім жа я камар...
Дапіўся ў шэсцьдзесят да брому.
А вывады? А соль?
Закусвай, дык не зваліць алкаголь!
Дзяды пілі, а чым жа горш унукі?
Гарэліцу забараніць —
Ўсё роўна што Амерыку закрыць...
Хто здольны не такія штукі?
Вось тэма й вычарпана ўся мая!
Пайду і прычашчуся я.

Паслухаеш даклад падобнага Рамана,
І стане ясна — ў бок які ён гне:
«А ісціна ў віне!»
І сам міжволі зробішся духмяны.

*3.8.69*

## ЖАЎРУК І СІВАГРАК

Жаўрук не меў ні званняў, ні дыпломаў,
Але на конкурсе Вясны так праспяваў,
Што Кенару самому
Фору даў!
Загаманілі птушкі ў захапленні:
— Ну й малайчына! Брава! Біс!
Вось гэна дык сюрпрыз!
Якое дараванне, прыгажосць, натхненне!
— Лухта! — пракаркаў змрочна Сіваграк.—
Вось Кенар — то заслужаны спявак!
І голас у яго акадэмічны.
А ў Жаўрука?
Ні адукацыі музычнай
І ні паставы артыстычнай,
Не бачу я пакуль што спевака...
Занадта малады, гарачы,
Пашлі такога за мяжу — няйначай
Бярэма наламае дроў...
Я супраць прынцыпова!
Хай пасівее, дажыве хай да маіх гадоў,
Тады і я закіну, мабыць, слова...
Як птаства ні пратэставала,
Пяршынства Кенару старому аддалі,
І за мяжу яго журы паслала.

Калі
У журы перастрахоўшчык старшынёю,
Там мераюць не талентам, [redacted] сівізною.

*5.8.69*

## ДАМЫ І САБАКІ

Спакон вякоў
Служыў сабака чалавеку:
З ім паляваў на дзікіх ён звяроў,
Быў верны абаронца ў небяспеку.
Цяпер ён з пагранічнікамі ходзіць у дазор,
З палярнікамі перавозіць грузы,
І не яму я кідаю дакор.
...Ах, што за дама цётка Фруза!
Румяная і пышная, як булачка з разынкай,
На шчоках ямачкі, а над губой пушок,
Пад блузкай скачуць спелыя дзве апельсінкі,
І зубкі, што часнок!
А што за ножкі, што за ручкі, што за стан —
Ну не жанчына, а Мілоская Венера!
Хоць ты малюй з яе карціну ці пішы раман...
Адно нягожа, от халера,
От прыхмаць на яе найшла:
Замест таго каб падчапіць сабе якога кавалера,
Яна сабаку завяла...
Такога грознага бульдога,
Што да яе
І дакрануцца не дае!
...А Фруза моліцца на цюцьку, як на бога:
Цалуе ў пысу, гладзіць спінку,
Цукеркамі частуе, каўбасой,
У ванне мые перад сном ружоваю вадой
І спаць кладзе на мяккую пярынку.

На гэтую мяшчанскую ідылію зірнеш
І думаеш: «А дамы і мамзелі,
Дальбог, ад тлушчу пашалелі...»
І мімаволі ленінградскую блакаду ўспамянеш.

*13.11.69*

## ЗАМШЭЛЫ ГРЫБ

Язэп Язэпавіч, актор перыферыйны,
Што палюбоўнікаў у вадэвілях граў,
Калі пляшывым і пузатым стаў
І голас страціў ад напіткаў вінных,
Сцэнічныя падмосткі кінуць быў павінны...
Вядома, пенсію яму далі,
Але што пенсія? Патрэбы у яго штодзень раслі,
Бо па натуры быў ён мот і франт!
Ды выручыў Язэпа зноў «талант» —
Паэтам ён зрабіўся аварыйным:
То па заказу «Бытпаслуг» складзе куплет,
То оду з выпадку якойсьці гадавіны,
То ён за тамаду запрошан на банкет...
Ну, словам, падкалымлівае дзед!
Ды «ахілесава пята» ў яго, як і даўней,— жанчыны,
Убачыць ледзь спадніцу,
Віецца ля яе сляпіцай,
Успыхнуць зіркачы, нібы ў ката:
— Вось гэна бабанька! Дарэчы, ў маім гусце!
Якія ножкі, грудзі — смаката!
Не бабанька, а — груздзік!
Ажно падскоквае, далоні пацірае,
Аж слінкі у яго бягуць...
Старая,
Маладая —
Да сэрца кожную гатоў ён прыгарнуць!
Як паглядзіш — дык рогат разбірае...

Такія тыпы ёсць:
Замшэлы грыб, ледзь не разваліцца,
А да дзяўчат нахабна заляцаецца.
Ды маладосць,
Як ні круціся — не вяртаецца.

*5.3.70*

## МАРЫГАННА

Шалёны ў Марыганны апетыт:
Ледзь з ложка саслізне кабета,
Якаясь сіла, нібыта магніт,
Яе прыцягвае адразу да буфета...
І вокам не міргне,
Што ягадку-малінку,
Яна кавалак сала праглыне
І хлеба цэлую цаглінку!
Зап'е бутэлькай малака,
Ды гэта не яда — размінка:
«Ну замарыла крышку чарвяка...»
Асноўны жор у Марыганны —
На службе, у канторы, за сталом,
Тут паспаборнічаць жанчына можа са сланом!
Гаршчок утопча кашы маннай,
Грам восемсот каўбаскі з часнаком,
Капусты слоік, бульбы міску...
А там глядзіш — і перапынак блізка —
Ў сталовую яна бяжыць,
Пад ёй ажно зямля дрыжыць!
Там поўны зноў абед ды плюс смятана.
І жаліцца ўсім Марыганна:
— Ці ж не бяда? А ці ж не гора...
Тлусцею з кожным днём,
Ледзь дыхаю ад здору...

Параду мы даём:
Здаровай хочаш быць, мець грацыю Венеры —
Не захапляйся ежаю без меры.

*6.4.70*

## ХАКЕЙ

Дзве першакласныя каманды
СССР — Канада
На полі ледзяным хакейны бой вялі:
Стралялі клюшкі, нібы аўтаматы,
Трыбуны ашалелыя раўлі,
Як хлопчыкі, свісталі дыпламаты,
І акадэмікі капелюшы падкідвалі ўгару,
Калі варатару
У звалцы шайбу забівалі!
Ці абаронцы нашыя на сілавы прыём
Таксама сілу прымянялі,
Аж нападаючы ляцеў той старчаком!
Бой прынцыповы быў, бескампрамісны,
То верх адзін браў, то другі.
Але суддзя своекарысны,
Убачыўшы — ў наш бок схіляюцца вагі,
Пачаў падсуджваць прафесіяналам:
То нашага пасадзіць ён на лаву штрафнікоў,
То аддае увагі мала,
Калі даходзіць аж да кулакоў...
І вынікі былі —
Канадцы сілаю перамаглі.

Суддзя-суддзей. Ды гэта не прычына.
На сілу — сілай адказаць павінны!
На поле выйшаў — будзь смялей!
«Гуляюць у хакей сапраўдныя мужчыны,
А баязлівец — не гуляе у хакей!»

*9.5.70*

## ПРАГНОЗ НЕ СПРАЎДЗІЎСЯ

Юнак дзяўчыну пакахаў,
Дзяўчына юнака — ўзаемна...
І вось настаў для іх той міг жаданы і прыемны,
Калі саюз двух сэрцаў загс замацаваў!
Наладжана вяселле ў рэстаране,
Гасцей паклікана каля дзвюхсот —
Працоўны, дзелавы народ:
Мінчане,
Бабруйчане
І нават з Рыгі прадстаўніца!
Вось музыка зайграла цырыманіяльны марш,
Жаніх з нявестаю зрабілі свой ваяж,
Яна — бялюткая, як галубіца,
Юнак —
У чорным, нібы грак.
Тут тамада бядовы
Паднёс шампанскага бакалы ім:
— Ну, пажадаем маладым,
Каб шчасліва жылі, кахаліся, былі здаровы!
Каб мы гулялі й на вяселлі залатым!
Ур-рр-ра!
А зараз да сталоў мы запрашаем,
Бо ломяцца яны ад рознага дабра...
Хай кожны п'е, закусвае, тост узнімае,
Ініцыятыву, самадзейнасць праўляе,
Пяе, танцуе,
Няхай ніхто тут не сумуе!
Ну і вяселле узяло разгон:
Раздаўся смех, кілішкаў звон,
То танец завіхрыў імклівы,
То бабруйчанін заспяваў у мікрафон.
Народ быў не пыхлівы!
«Тустэп» змяняўся «Казачком»,
Скакаў, кружыўся люд ваўчком!
А маладая пара — дзіва!
Старыя з любасцю глядзелі ўсё на іх,
Прыгожых, стройных, маладых,
І усміхаліся шчасліва,
Сваё юнацтва ўспаміналі,
Якое адняла вайна,
І дзецям міру і дабра жадалі!
Толькі кабеціна адна,
Пакрыўджаная нечым, раздражнёна
Суседцы каркала, нібы варона:
— Ці ж то вяселле? Вось некалі раней...

Ў царкве было вянчанне!
Падыдзе ды як гляне ў вочы архірэй —
Дык аж мароз па скуры, ў пятках казытанне...
А абвянчаюць — век жыві да смерці,
Не думай пра развод...
А зараз? Бач, што робяць, чэрці:
Пажыў паўгода-год —
І распаўзліся ў розныя бакі...
Ізноў яны халасцякі!
І гэны вунь мілуе дзеўку, лашчыць, абдымае,
А добра, калі і годзік пратрымае...
Адразу бачна — зух!
Ды і яна таксама — стрэляная птушка...
І не чакай дабра ад гэткіх маладух!
Суседачка, дай нештачка шапну на вушка...

А ў маладых цудоўна склаўся лёс:
Жывуць яны суладна, і кахаюць,
І дзетак маюць —
Не спраўдзіўся квахтухі той прагноз...

*11.8.70*

## КАРАСЬ-МАТЭРЫЯЛІСТ

У возеры, як князь,
Жыў-пажываў Карась...
(Не той дзівак-ідэаліст,
Што век свой у нары адзін гібеў,
А наш сучасны матэрыяліст,
Які камфорт любіў і жыць умеў!)
Яго харомы
Напоўнены былі багаццем і дабром!
З вяльможнымі Сазанам, Карпам і Ляшчом
Ён коратка знаёмы!
І нават Сом
Вусаты
Хлеб-соль дзяліў з тым Карасём,
Як з родным братам.
Вядома, маючы такога мецэната,
Карась зусім распе*разаўся:
Пачаў залазіць у казну,
У блуд бяссорамна падаўся,
Мяняе палюбоўніц кожную вясну —
То ён з Чырванапёркай золак сустракае,
То Печкурыху горне да грудзей,
То Акуніху ачмурае,
То Ментузіха ўсіх на свеце даражэй...
Так жыраваў Карась, не ведаў ліха,
Ды неяк не у сне, а наяву
З'явілася зубастая аднекуль Шчупачыха
І Карасю ўскружыла галаву:
— Ах, любая! Непараўнальная! Душу ўсю ўскалыхнула!..
Але цягнулася нядоўга рандэву,
Бо Шчупачыха пазяхнула
І Карася нібы знячэўку праглынула.

Пыхлівы кіраўнік
Шыкоўна жыў, закручваў юр умела,
Ды раптам ён з пасады знік!
Яго малодка, кажуць, з'ела...

*1.2.72*

# ШЧАНЮК I ВОЖЫК

Шчанюк, які ганяў маленькіх куранят
I з-пад варот брахаў на пешаходаў,
У месяц лістапад
У лесе заблудзіўся ў пошуках прыгоды.
Асыпаліся ўжо дубы, і клёны, і каліны,
Бярозы, вольхі і асіны,
I толькі ўсё без перамен
Стаялі сосны ды яліны,
У мох зайшоўны да кален...
Ужо Вавёрка на зіму арэхаў і грыбоў нарыхтавала,
I Вожык, вораг пацукоў, гадзюк,
На голкі накалоўшы лісця цэлы пук,
Да спячкі рыхтаваўся дбала.
Ды на яго наскочыў злы Шчанюк:
— Гаў! Гаў! — і пысай тыц з разгону,
Аж іскры заскакалі ўваччу,
Калючы боль у носе ён адчуў,
Напоўніў лес і лямантам, і звонам
I, падтуліўшы хвост,
Панёсся праз гушчар наўпрост,
Куды папала,
Абы падалей ад бяды!
...Прайшлі гады,
Шчанюк падрос,
Ён стаў сабакам сталым,
Але дарма навука не прапала:
Не суне з лёту ён свой нос,
Як некалі бывала.

А іншы крытыкан дажыўся да сівых валос,
А па-ранейшаму ён прыткі,
Так і глядзі — учэпіцца за лыткі!

*12.3.72*

## ТРУШКОМ ДА... ІНФАРКТУ

Адам ніколі спортам не займаўся...
Так і да пенсіі дажыў!
Ды тут брашурак розных начытаўся,
Заняцца марафонам дзед рашыў:
«Бег умацоўвае і сэрца, і нервовую сістэму,
І арганізму не дае трухлець,
Чаго ля тэлевізара карчом сядзець
І слухаць балбатню пра неістотныя праблемы?
Лепш скарыстаю час рацыянальна!»
І вось спяшае ён
На стадыён.
Пераапрануўшыся ў касцюм спартыўны, спецыяльны,
Каманду сам сабе падаў
І марафон пачаў!
За кругам круг, ўсё хуткасць набаўляе,
Спіна ўзмакрэла, лысіна блішчыць,
Паветра сэрцу не хапае,
А ён бяжыць! А ён бяжыць!..
— Спыніся! Адпачні, дзядуля! — кажуць людзі.—
Паваліішся. Заробіш ты інфаркт...
— Нічогачка! Мацнейшым сэрца будзе! —
Адказвае дзядок.— Яшчэ я маю гарт!
Ля сарака гадкоў праседзеў у канторы,
Сілёначак паднакапіў!
І хуткасць трэцюю ён на дыстанцыі ўключыў...
Але здарылася бяда, няшчасце, гора:
За грудкі дзед схапіўся
І на дарожку, нібы сноп, зваліўся.
З'явілася меддапамога,
І ўрач, агледзеўшы старога,
Устанавіў бясспрэчны факт —
Хоць не смяртэльны, ды інфаркт!
Патрэбна доўгае лячэнне...

Калі прыняў рашэнне
У сталыя гады
Ты фізкультураю займацца,
Павінен з медыкам парахавацца,
Тады
Не здарыцца бяды.

*9.6.72*

## ВЫБІВАННЕ ДЫВАНОЎ

Умовы райскія у камунальнай хаце:
Ліфт, смеццепровад, ванная і туалет —
Жыві і радуйся сто зім, сто лет!
Але... ёсць і «але» сваё тут, браце,
Калі твой гмах дзвюхсоткватэрны —
Праз год ці два
Ў цябе пачне балець страшэнна галава,
Разгойдаюцца нервы...
Прычына не у тым, што справа твой сусед
Ўключыў на ўсю магутнасць радыёлу,
Што зверху гоцаюць факстрот вясёлы,
А знізу маладыя завялі любоўны свой дуэт
І ўсё зліваецца бы ў рокат мора,
Гудзіць хароміна, нібы арган...
Не ў гэтым гора!
А гора ў тым, што на паркан
Жыхар чапляе свой дыван
І пачынае калатушкай бухаць!
(А рэха ўторыць кожны раз.)
Хоць нервы і сталёвыя у вас,
Ды залпы дывановыя спакойна нельга слухаць —
Цябе падкідвае, як ад бамбёжкі!
Вось-вось, здаецца, трапіш у вар'яцкі дом...

Няхай я перабольшаў трошкі,
Але як вынесці такі садом?
Няспынныя, штодзённыя грымоты?
І таўстаскурага яны прыкончаць бегемота!

*13.12.72*

## АСЕЧКА

Іван Васільевіч Цітоў у трэсце працаваў...
Што ж, хочаш хлеба і да хлеба —
Дык ты рабі як трэба!
Але Васільевіч не надта шчыраваў:
— Была ахвота надрываць мне кішкі...
Вось каб пралезці ў шышкі!
І, здатны ад прыроды да ганебных штук,
Пачаў у калектыве плесці ён інтрыжкі,
Як павук:
То ананімку шмаргане ў сталіцу,
То пра начальніка распусціць небыліцу,
Штодзённа дзюдзю падкладзе,
Штораз паціху напаскудзіць...
А шэф не сцяміць: скуль той дым ідзе?
Хто ў калектыве каламуціць?
Ужо камісія расследванне вядзе,
На партбюро выносіцца пытанне...
Хоць факты ліпавыя, брудная лухта,
А колькі нерваў, хвалявання?!
Ого! Пакуль праявіцца людская правата...
Ды крымінальная навука
На дапамогу ў час прыйшла
І... ананімшчыка знайшла!

За пазухаю ліхадзей хавае камянюку
І пры выпадку цэліцца шарахнуць з-за вугла...
Глядзі! Каб тактыка зладзейская асечкі не дала!

*5.7.73*

## ХАН І МАСТАК

Ў той час, калі аб гуманізме снілі,
Жыў Хан.
Не толькі прыгнятаў сялян,
Прыдворныя ўсе перад ім на дыбачках хадзілі!
Хто чмыхне, кашляне гучней
Ці дзёрзка гляне —
Знікаў, як прывід, у тумане,
Не мог і воран адшукаць касцей...
А Хан, той ліхадзей,
Быў ад прыроды
Кульгавы, сухарукі, крываморды,
Ды перад смерцю, каб пакінуць у гісторыі свой след,
Ён загадаў уласны напісаць партрэт.
— Як спадабаецца — казны не пашкадую,—
Паабяцаў Хан Мастаку,—
А не — таксама гарантую,
Што галаву табе я адсяку!
Мастак быў малады, ды імем добрым даражыў
І перад праўдаю не саграшыў,
Намаляваў ён без прыкрасы жорсткага тырана...
Хан глянуў і зароў, як апантаны:
— Ды гэта ж голая натура!
А творчая фантазія дзе ж тут?
Смяротны падпісаў прысуд
Сабе ты, дурань!
На плаху Мастака! На плаху!
І твор
Ягоны у касцёр!
У момант выкананы быў суровы прыгавор.
Другі ж Мастак ад жаху
Рашыў як лепей дагадзіць манарху:
Ружовых фарбаў не пашкадаваў,
Фізічныя падправіў недахопы лоўка...
Хан на партрэт зірнуў і закрычаў:
— Дык гэта ж лакіроўка!
Ты не мастак, а падхалім!
Адсеч яму і галаву і рукі,
Каб не было панадна і другім
Пускацца на такія штукі...
Тады пакліканы быў Жывапісец трэці:
— Рэальна і з рамантыкай твары
І атрымаеш лаўры і дары!
Інакш не жыць табе на свеце...
Мастак пакутваў над праблемаю тры дні
І вырашыў яе дыпламатычна:

Ён паказаў тырана на кані,
Такім як ёсць фактычна,
У профіль, з таго боку,
Дзе у яго былі рука, нага і вока.

У мастака адзін крытэрый:
Памерці лепш, а праўдай жыць!
Тады на палатне або паперы
Ён можа нешта вартае стварыць.

*12.7.73*

# НАКАЧКА ДЗЕЛЯ ПРАФОРМЫ

На ферме, ля варот,
Узяў Бугай Казла ў сур'ёзны абарот:
— Што за камедыя такая?
Дакуль мне валаводзіцца з табой?
Дзе план? Асартымент дзе твой?
Дзе якасць? Дзе рэнтабельнасць, пытаю?
А ты, рагаты казлаброд,
Яшчэ заводзіш шуры-муры,
Залазіш у суседні агарод...
Ты ж як-ніяк — наменклатура!
Не дай ты божа, дойдзе да Ільва —
Зляціць твая дурная галава,
Ды і з мяне здзярэ ён шкуру...
Час і за розум брацца, трасцу ў бок!
Падумай пра сям'ю, пра службу,
Іначай, мой мілок,
Не будзе паміж намі дружбы,
Бо развітацца давядзецца нам!
...Казёл маўчаў, не адгукаўся,
Ён ведаў, што праформа тут адна,
Трос барадой, над Бугаём у думках пасміхаўся:
«Ну-у замалоў, нібыта з кафедры дацэнт!»
Назаўтра ўжо забыты «інцыдэнт»...

А братка,
Накачку іншы можа даць!
Так, для праформы, для «парадку»,
Каб тым сябе застрахаваць.

*12.3.60*

## ПА ВОПЫТ

Каб вопыт пераняць,
Рашылі на завод адзін прадстаўніка паслаць.
— Бяры камандзіроўку, атрымай валюту,
І, не губляючы мінуты,
Сядай у самалёт,
І выпраўляйся ў шлях-дарогу! —
Дырэктар пасланцу казаў даволі строга.—
Прыгледзься, як працуе там народ,
Унікні, разбярыся,
Чаму там план перавыконваюць штогод,
Якую тэхніку укараняць на прадпрыемстве узяліся —
Бяры усё на каранддаш!
Бо не ў турысцкі выпраўляешся ваяж...
...І вось праз месяц на вытворчую нараду
З'явіўся пасланец з дакладам:
— Таварышы! Шаноўны сход!
Каб не разводзіць лішнія дэбаты,
Што ўбачыў я, дык смеху варта —
Дым выпушчае той завод...

А разабрацца цяжкавата
Хто тут «мудрэц»:
Дырэктар? Пасланец?
Адно бухгалтарскія сведчаць нам праводкі —
На вецер кінуты, і не малыя, сродкі.

*7.8.61*

## РАЗЛАД

Чубаты Дзяцел з Дзятліхай сваёй
Уранку пасварыўся,
Назваў яе сівой савой...
Яна сцярпела. Але ён не супыніўся:
— Ты,— кажа,— не глядзіш мяне. Дупло ты занядбала.
Ўсё лётаеш чагосьці да Дразда.
Не Дзятліха ты, а... слоў мала...
І Дзяцел выраз гэтакі дадаў,
Што Дзятліху таксама узарвала:
— Ах, вось як! Лаяцца і зневажаць?
Ну, тут маёй не будзе і пушынкі! —
І рэчы пачала збіраць,
А з вачанят ад гневу сыплюцца ажно іскрынкі.—
Ты... Ты... мяне ніколі не кахаў,
Ты не даваў мне волі...
— Ну-ну, даволі, даражэнькая, даволі.
Даруй. З гарачкі лішняе сказаў.
Зазюля пра цябе накукавала.
— А ты й паверыў ёй?
Не дзень мы пражылі з табой...
Ці ж здраджвала табе? Ці ж не кахала?
Эх, Дзяцел, Дзяцел...
І паляцела прэч!

Жыццё сямейнае і мір у хаце —
Складаная, выходзіць, рэч:
Паслухаў плеткароў — і жонку можна страціць.

*3.4.62*

## ХВАЛЬКО

Індык, бадзяга сухапутны,
Які баяўся як агню вады,
Аднойчы крыкнуў голасам магутным:
— Хто хоча плаваць? Гэй, сюды!
Хай часу той дарэмна не губляе,
Вас навучу я кролю, брасу, батэрфляю!
Прыгледзьцеся да Гусака
Любога ранга —
Не лапа у яго, а ласта экваланга,
Таму не страшна Гусаку рака.
А вывад тут напрошваецца сам сабою:
Усе на ласты і ў ваду за мною!
— Хвілiначку! — Тут Певень заартачыўся бывалы.—
Рака — не жарт,
Так патапіць нядоўга Куранят.
Нырца дай сам, а за табой і мы памалу...
— Ну што ж! — І, пачапіўшы ласты на хаду,
Індык на вышку узабраўся
І сiганyў, аж бліснуў, у ваду!
Ніхто на беразе яго не дачакаўся...

Кароткі век таму, хто пахваляўся.

*14.12.62*

# ГАЛАВАМЫЙКА

Таптыгін Воўка да сябе паклікаў
І, узлаваны не на жарт,
Яму наладзіў добрую галавамыйку:
— Чаго ты варт?
Калі парадак будзе на дзялянцы?
Пусціў ты справы ўсе на самацёк...
Ты Воўк або не Воўк?
Табе паабгрызаюць хутка вушы Зайцы!
...Ад перапуду падначалены ледзь ногі павалок.
Ну, а Таптыгін касалапы,
Засунуўшы у зяпу
Лапу,
Перавярнуўся пазручней на бок,
І да вясны задаў ён храпу,
Падумаўшы: «А будзе толк!»
І сапраўды, Воўк меры прымяніў крутыя,
Як кажуць, пары даў!
З Лісіцы стружку ён [redacted] разгону зняў,
А Ліска Зайку ўжо намыліла без жалю шыю,
А той Крата з пясочкам перацёр,
А Крот, вядома, на Мурашцы адыграўся...
Гудзе сыр-бор!
А па-сур'ёзнаму ніхто там справай не заняўся.

Мой стрэл не па звярах,
Па тых балбатунах,
[redacted] якімі кожны, мабыць, сустракаўся.

*18.4.63*

## ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

Зайчыны век кароткі, а не доўгі,
І гаруе, бедны, найчасцей —
Не мае сталае бярлогі,
Не да вяселля тут, не да гасцей...
Ды што паробіш? Без хацення,
А трэба адзначаць
Дзень нараджэння,
Традыцыі старыя шанаваць!
І Заяц пастараўся:
Палянку закуссю уставіў і пітвом,
Каб кожны госць па густу частаваўся
І ўспамінаў яго дабром.
Вось і запрошаныя пачалі збірацца —
Барсук, Вавёрка, Воўк, Кабан, Ліса, Янот,
Здаецца, можна і за чарку брацца,
Але рашыў звярыны сход
Мядзведзя дачакацца.
Што ні кажы, ён лесу гаспадар,
І не лічыцца з ім — няма фатыгі,
Але нарэшце паявіўся і Таптыгін...
Шчаслівы юбіляр
Сэрдэчна да стала ўсіх запрашае,
Вось госці за яго здароўе келіхі ўзнімаюць,
Усё ідзе як след.
Ды штосьці ля Мядзведзя пачалі ўсе завіхацца,
З ім чокацца ды абдымацца,
Спяваць у гонар Касалапага куплет,
Хваліць, што мудрасцю з ім Зубру не зраўняцца!
З-за гэтай мітусні і гаманы
Забыліся пра Зайца,
Забыліся, дзеля чаго сабраліся яны.

О падхалімы! І пад чаркай знаюць справу:
Начальніку пяюць заўсёды славу!

*12.3.68*

## ЛЕКТАР МІТРАФАН

Ў калгас прыехаў Мітрафан,
Каб выступіць перад народам з лекцыяй
На тэму: «Пяцігодка і селекцыя».
Быў эрудыт ён, не прафан,
Вучоную ступень меў нават кандыдата.
У клуб набілася народу шмат:
Дзяды, бабулі занялі пярэдні рад,
А далей — хлопцы і дзяўчаты.
Графін з вадою на трыбуне ўстанавілі,
Праверылі на гучнасць мікрафон
І лектара на сцэну запрасілі.
Наш Цыцэрон
На нос ускінуў акуляры,
Канспект таўшчэзны разгарнуў
І, не ўзнімаючы ад сшытка твару,
Як на хаўтурах, аднастайна зацягнуў
Аб тым, што ведалі даўно
З жыцця, з газет, з кіно.
У зале загулі, заляпалі дзвярыма,
Расходзіцца па хатах пачалі.
А лектар вухам не вядзе. Чытае. Лыпае вачыма.
(Напэўна, нервы моцныя ў яго былі!)
Бубніць пад нос. Канспект гартае паціхеньку.
Нарэшце скончыў. Пот з ілба хусцінкаю змахнуў
І пераможна ў залу ён зірнуў —
Там вартаўнік адзін драмаў старэнькі...

Чаму такі байкот?
Чытаць па пісанаму ўмее і маленькі.
Калі ты лектар — зацікаў народ!

*20.3.69*

## ШЫШКА

На вяршаліне векавой сасны
Пагойдвалася Шышка ганарліва
І разважала ўслых пыхліва:
— Якія ўнізе там усе маленькія і смешныя яны,
Капошацца, стракочуць, мітусяцца
І ночы ў клопаце і дні,
А вось да сонца і да зорнай вышыні,
Як я — ім не узняцца!
Я сустракаю першая зару,
З вятрамі, з воблакамі гавару
І сонейка заход апошняй назіраю,
Уладу над прасторай і над часам маю!
...Хвалебны маналог яна б, бадай, далей вяла,
Ды хмара цяжкая, сівая
Тут неба ўсё завалакла...
Пярун ударыў. Бліскавіца заскакала.
Дыхнуў вятрыска, нібы велікан,
І Шышку з вяршаліны ўміг сарвала...

Чынуша, памятай пра ураган.

*12.3.70*

## ЛІСА І ВОЖЫК

— Чорт ведае, ну што ты за звярына:
Няголены, калючы, нібы дрот,
Не прытуліцца, не прылашчыць — гэткая шчаціна!
Цураешся мяне. Ну што за ідыёт! —
Так Вожыку Ліса натацыю чытала
І прагнымі вачыма ледзьве не з'ядала...
— Ах, Лісанька, за што такі папрок? —
На гэта Вожык адазваўся.—
Каб гладзенькі я стаў, як той Сурок —
Ў зубах тваіх адразу б аказаўся...
Але няма дурных!

Мы краснабаяў ведаем такіх:
Багата іх у свеце капітала,
Даверся ім і... цела і душа прапала...

*24.5.70*



10 Зак. 612

## ЛЕЎ І РЫСКА

Старога Льва,
Які ўдавеў гады мо два,
Бо Львіцу смерць скасіла,
Лясная Кошка ахмурыла...
Так красамоўненька пакручвала хвастом,
Прыплюшчвала шматабяцальна вочы,
Пяшчотна і прывабліва мурлыкала уночы,
Што цалкам завалодала Ільвом:
— Ну вось што, Кісанька, на даным на этапе
Ўвесь свет сышоўся на табе на клін...
Вось маё сэрца, мая лапа,
І пад вянец з табою — выхад нам адзін!
І кошка Рыска Львіцай стала.
Жаданне кожнае яе — звярам закон!
У апарат лясны ўсіх родзічаў пабрала,
А чужакоў — павыганяла вон!
І нават Льва, перад якім усе дрыжалі,
Яна ўзяла у гэткі абарот,
Што ён хадзіў, нібы аблезлы Кот...
А справы ў ведамстве, вядома, заняпалі.

Скажу вам шчыра:
Паддайся бабе, і, як двойчы два —
Чатыры,
Яна ў аблезлага ката з ільва
Хутчэй вас ператворыць за факіра!

*12.1.72*

## ПРА ТРУТНЯЎ, АВАДНЁЎ І ПЧОЛ

Сустрэўся Труцень з Аваднём
І жаліцца пачаў суседу:
— Мне Пчолы плацяць толькі злом
І называюць дармаедам,
Ну як сцярпець мне гэткую знявагу?
— Ці ж то бяда? — азваўся Авадзень.—
Жывеш ты ж у цяпле і кожны божы дзень
Ясі мядок.
Вось пра мяне пусцілі звягу,
Нібыта я зацяты крывасмок...
Мне смерць заўсёды пагражае:
Ледзь сяду на Вала,
Адразу ён хвастом забіць мяне цаляе,
Каб трасца на яго найшла!
— Ды што вам крыўдзіцца і абурацца? —
Прамовіла рабочая Пчала.—
Абодва вы, як разабрацца,
Паразіты!

О, колькі гэткіх менавіта
І трутняў на зямлі, і аваднёў,
Што жывяцца за кошт працаўнікоў...
А ці не час ды з імі звесці квіты?

*2.4.72*

## АДМІНІСТРАТЫЎНЫ КРУЧОК

Юрый Сяргеевіч, які часова за начальніка застаўся,
Карэспандэнцыю памалу ўранку праглядаў...
Сядзеў у крэсле ды лагодненька ўсміхаўся
І шэфам сам сябе ўжо самавітым уяўляў.
(Фартуна тут яго штось абмінала...)
Але пісьмо ад запаветных мрояў адарвала,
Яго ён машынальна ўскрыў,
Прабег вачамі,
Падскочыў, злосна забубніў:
— Чорт пабяры! Працую тут гадамі,
Дваіх начальнікаў я перажыў
(Грашок быў мой, ды гэна паміж намі...),
Але ніхто, тым больш з перыферыі,
Мяне крытыкаваць адкрыта не рашаўся,
І на табе — якісьці праўдалюб бязглузды адшукаўся!
І факты вострыя, канкрэтныя ды злыя,
І не ў брыво, а ў вока, далібог.
Ну-у пачакай! Прыму-прыму я меры,
Каб дзюбы разяўляць не змог,
Скрышу у парашок, скручу ў баранні рог!
І, ўзяўшы ліст паперы,
Загад кароткі настрачыў ён порстка:
«Штат пункта Н — падкараціць,
А Клюкаса — аслабаніць!»

Чынушу крытыка — што ў горле костка.

*16.6.72*

## ВЫЙШАЎ З НАРОДУ...

Якісьці «карыфей»
З нябёс завоблачных спусціўся
І соладка, нібы Арфей,
У філантропію дэмагагічную пусціўся:
— Я вам, таварышы, і друг і брат,
Дзеяч грамадскі, не келейны,
Абраннік ваш, слуга надзейны!
І ўсім вядомы факт,
Што я ад плуга, ад зямлі,
І з гонарам дакладваю шаноўнаму я сходу,
Што выйшаў я з народу!
...Тут голас з зала падалі:
— Што выйшаў ты з народу — гэна зразумела,
Але адгарадзіўся сакратаркамі ад мас,
А мы б жадалі, каб да нас
Ізноў вярнуўся і душой і целам!
Каб, як раней, за справы браўся з аганьком,
Змагаўся з коснасцю, з руцінай,
Каб абавязак у цябе заўсёды
Быў адзіны —
Пра калектыў дбаць кожным днём,
А не пра ўласныя выгоды.
Каб за дубовымі дзвярмі, абітымі цыратай,
Палпрэда бачылі свайго,
Не таўкача, балбатуна і бюракрата...

Таго
Народ уладаю вялікай надзяляе,
Хто за яго стаяць гарой гатоў,
Хто ж толькі пра сваё карыта дбае
Ды ў вочы пыл пушчае —
Скідае з седала далоў!

*26.5.73*

## ГАЛАНДСКАЯ КАРОВА

Галандская пярэстая Карова
Сустрэла дзікага Ласям
У дуброве
І узгарэлася уся:
«Якія рогі, рост, пастава!
Не тое што стары, збрыдзелы Бык...
Які прыгожы, малады, рухавы,
Не кавалер, а — шык!»
Прайшлася напаказ віхлястаю хадою,
Пявуча мукнула, павейкамі стральнула раз-другі:
— Ах, любы, дарагі,
Якое шчасце, што сустрэлася з табою!
Ты лёсам мне наканаваны,
Як жыць, як дыхаць без цябе магла...
А Лось у шашнях быў неспрактыкаваны,
І прасцяка Галандка ў момант распякла:
Як порах ён успыхнуў, ёю захапіўся,
Лізаў то пысу, то яе капыт,
Скакаў, ад радасці свяціўся,
Пачаў падумваць пра сямейны быт.
Але... карова ёсць карова:
Пагульвала з Ласём,
Чмурыла галаву ды лёсткі падпускала адмыслова,
А па-ранейшаму жыла з Быком,
Бо хоць стары ён быў, пляшывы, глухаваты,
Але Галоўным значыўся па штату.

Каб гуму не цягнуць,
Скажу я напаследак:
Жыве каторая з старэнькім дзедам,
Ды пры выпадку любіць падміргнуць
Прываблівa суседу.

*3.7.73*

## ХАПУГА-БЛЮДАЛІЗ

У Анатоля Віктаравіча — не строгія законы:
Ён можа закусіць, і чарачку кульнуць,
І анекдоцік расказаць салёны,
І ў гэтым нельга чалавека папракнуць.
Загана ў тым,
Што пажывіцца любіць на чужым,
Свайго рубля не выкіне ніколі.
Яго і пачастуй, і падарунак паднясі,
А гэтак не зрабі — зачэпак у яго даволі,
Ён напаскудзіць можа ўсім,
Што ні кажы, маленькі — ды начальнік!
Пачне капацца ды круціць,
Лухту ўсялякую у акт валіць,
Каму патрэбен інцыдэнт скандальны?
І, як гаворыцца, узяткі гладкі —
Яму сыходзіла ўсё з рук.
Ды надта ўнадзіўся і стаў задужа падкі,
Вось і падстроілі хапузе трук:
Аднойчы завялі у рэстаран
І накачалі пад «завязку»,
Калі ж з рахункам падышоў афіцыянт,
Сказалі так: — Ты піў і еў, васпан,
Дык разлічыся, калі ласка!
— Што-о-о?! Як-як?! —
Ледзь з крэсла блюдаліз той не зваліўся,
Збляднеў, затым крывёй наліўся.—
Ды ведаеце вы... Я вас...— зубамі стрыгатнуў, як ваўкалак,
Узняў угору сціснуты кулак,
Ды тут жа спахапіўся,
Сціх.
— І разлічыўся?
— А як жа! А потым прэміі пазбавіў ён усіх.

Пасада для такіх —
Выгод крыніца!
Ім толькі ты не дагадзі —
Прычыну знойдуць прычапіцца,
Тады хоць з торбаю хадзі.

*7.7.73*

## АЛІСА

Аліса — бабка шумігай!
Хаця бальзакаўскі рубеж даўно адсмакавала,
Але ў тыраж сябе пакуль-што не спісала,
Яшчэ гатова на пярэдні край!
Падбеліць валасы, падмажа губы,
На вочы цені густа навядзе,
Нацягне шчыльненька штаны-раструбы —
Дык чорта нават з розуму звядзе!
Пакручваецца перад шэфам, як перад люстэркам:
То персі дэманструе, то рухавы зад,
То локцем чыркне, то з вачэй трасіруючы выпусціць зарад —
Ці трэба, ці не трэба, з кожнаю паперкай
Да шэфа рвецца на даклад.
Хто выстаіць? Скажыце без утайкі.
Хіба жалезны робат-аўтамат...

Ну як не напісаць тут байкі?

*10.7.73*

## ЛІСА-РЭВІЗОР

Загадваў птушнікам Барбос,
Адносіўся з душой да гаспадаркі,
Тут сакаталі плімутрокі, і легорны, і цацаркі,
І маладняк гарласты рос.
Ды як Барбос ні працаваў сумленна,
Знайшоўся злыдзень, напісаў данос
Кудысьці патаемна,
І вось прыехаў рэвізор
З інстанцыі высокай адпаведнай.
І хто б вы думалі: Гусак? Індык аўтарытэтны?
Ды не! Лісіца Цімафееўна з'явілася на двор!
І пачала прынюхвацца ды калупацца...
Барбос хоць і не меў ні ў чым віны,
Але міжволі стаў дрыжаць і хвалявацца,
Начамі трызняцца дурныя сны...
А Лісанька: — Ха-ха! Хі-хі!
Раскрыю я грахі,
Знайду я злодзея, хто курачак губіў тут душы,
Хто пеўнікаў гаротненькіх паеў...
Барбос павесіў хвост і вушы:
«Мо сапраўды дзе што недаглядзеў?»
Але ідэя мільганула, ён павесялеў:
«Дай спакушу Лісічку!»
І ёй падсунуў у партфель індычку...
І рэвізорша... памякчэла, знішчыла свой акт:
— Да пабачэння, сябар!
Не пацвярджаецца пісьма ніводзін факт...

Якую сілу мае хабар!

*13.8.74*

## ШАША — НЕ КОСМАС

Фартуна прывітала Кузьміча
(Хаця паверыць цяжка ў гэта):
Па латарэйнаму білету
Ён выйграў «Масквіча»!
І, здаўшы на правы па блату,
Сеў у машыну, паднаціснуў на педаль
І зухавата
Выскачыў на магістраль!
Спуск, ці пад'ём, ці паварот,
А ён увагі не звяртае —
Усе машыны з ходу абганяе,
Ляціць, як заркалёт,
Пакурвае цыгарку ды спявае!
І націскае ўсё мацней на газ...
— Вось гэна ас!
— Напэўна, звар'яцелы янкі?
— Ну не інакш спяшаецца на той ён свет...
— А можа, наш Іван «пад банкай»?
— Адумайся! — крычаць яму услед.—
Ты ж не на танку...
Ды Кузьмічу хоць кол на галаве чашы!
Але... не пажартуеш на шашы:
Ён пры абгоне крута збочыў
І на сустрэчны самазвал наскочыў!
Загінуў наш ліхач
І нават не пражагнуўся...
І вось хаўтуры. Музыка. І жонка ў плач...
Ды тут Кузьміч... прачнуўся!

Сон — ліхачам урок,
Шаша — не космас, памятай, браток!

*14.9.74*

## НА ПРЫЁМЕ Ў МЭРА

— Браточкі, быў я на прыёме ў мэра!
Не без таго, вядома, пачакаў...
(Бо сакратарка там цяцера!)
Ах, як ён ветліва мяне прыняў:
Устаў,
Пацiснуў мне руку,
Лагодна усміхнуўся,
Як брату роднаму, як земляку,
У крэсла пасадзіў і далікатненька крануўся
Сямейных спраў —
Як дзеткі, значыцца, як жончына здароўе?
І гэтак пранікнёна ўсё, з любоўю:
— Стары, тваю цыдулку я чытаў,
Ды хоць мяне зарэж ты,
Што зробіш, любы мой,
Ліміты вычарпаны ўсе да рэшты!
Прыходзь, мой голубе, зімой,
Што-небудзь падшукаем...
Прывет. Да пабачэння. Я спяшаю!
...Прайшло з паўгода. На прыёме я ізноў.
Ізноў той мэр лагодны, ветлівы і звышласкавы,
Зноў у квартале нейкім ён гатоў
Мае кватэрныя утрэсці справы...
Ну, словам, казачка пайшла пра белага бычка!

Падзякаваць кіраўніка
За абыходлівасць жадаю,
Але скажу адкрыта ў твар:
Тых болей паважаю,
Хто слову гаспадар!

*6.2.75*

## ДРОЗД І ДАРАДЧЫКІ

Апёрыўся даўно ўжо Дрозд,
Аформіліся крылы, хвост,
Прарэзаўся і голас індывідуальны,
І Дрозд лятаў,
І, натуральна,
Ён спяваў,
Свае выводзіў трэлі!
Ды неяк на яго дарадчыкі населі:
— Э, браце любы,
Тут штосьці дзесьці крышачку не так,—
Кіўнуў цяжкою дзюбай
Грак,—
Бравур напрошваецца і мажор,
А ты чамусьці, любы браце,
За лейтматыў узяў мінор...
— Рытмічна вяла! — кінуў з елкі Дзяцел.—
На кожнай ноце я б зрабіў акцэнт!
— А мне здаецца,— сыпнула Сарока, нібы з аўтамата,—
У дывертысмент
Патрэбна падключыць таката.
...Тут увязаліся ў дыскусію Дзяркач, Варона, Верабей,
З апломбам кожны мудрыя даваў парады...
І толькі сціплы Салавей
Заўважыў без бравады:
— Калега, слухай, ды не ўсё прымай,
Заўсёды будзь сабою!
І паляцеў у гай.

Я згодзен з думкаю такою.

*12.3.75*

## КАЗЁЛ НА ТРЫБУНЕ

Авечкі, Козы ды Каровы
Сабраліся на свой вытворчы сход,
Каб план па малаку зацвердзіць новы
На наступны год.
Гаворка пацякла аб нарыхтоўцы сіласу і сенажу,
Кормазапарніках, электрадойцы,
Ужо наважыліся падвясці дэбатам тым мяжу,
Як тут Казёл замэкаў што ёсць моцы:
— Таварышы! І я хачу сказаць! —
І, ўскочыўшы на пень-трыбуну,
Пачаў размахваць капытом і горача агітаваць.—
Нам спадзявацца нельга на фартуну...
Куды ні глянь — прагрэс кругом!
І нам пара паварушыцца:
Не раз на год, а два разы цяліцца!
І з мясам будзем мы, і з малаком!
Вось дзе рэсурсы нашы і рэзервы!
І перавыканаем, безумоўна, план!

Пражэктамі казыча нервы
Часам гарлапан,
Ды звон пусты ягоны —
Свае ў прыроды ёсць законы.

*27.3.75*

## РАЎНІВЫ МУЖ І КЕМНАЯ ЖОНКА

Мікіта прыхварэў,
Ну што ж, бывае,
Ляжыць у ложку, вохкае і цяжка уздыхае,
Маўляў, на працы як свяча згарэў...
Загаравала жонка маладая,
Мікіта хітра на яе зірнуў
І кажа спачувальна:
— Галубка, цяжка пакідаць цябе адну
І не лічы, што гэта амаральна,
Журбою не марнуй сябе дарма,
Знайдзі сабе па сэрцы друга,
Ну чым не пара наш сусед Кузьма?
Рабочы чалавек, не п'яніца, не валацуга,
І на цябе з замілаваннем ён заўсёды паглядаў,
І ты ад позіркаў яго квітнела ружай,
Табе ён будзе добрым мужам.
Ну так ці не? Патрапіў я ці маху даў?
Ён падабаецца табе. Не трэба адпірацца.
Кажы як на духу. Мне час у шлях збірацца...
— Ах, мужанёк! З гарачкі нешта ты вярзеш,
У чым мне прызнавацца?
Сто год ты, можа, пражывеш...
Куды ад рэўнасці тваёй падзецца?

Жывы жывому давярай,
А час праб'е — задачкі не давай,
Сама жанчына ў гэтым разбярэцца.

*12.6.76*

## СОНЦА І АСЁЛ

Хіліўся да заходу дзень,
І сонца з гарызонта доўгія прамені пасылала...
І тут Асёл, які патупаў па зямлі нямала,
Заўважыў велічэзны ўласны цень:
— Ого! Дык я, выходзіць,— велікан! Асілак!
Вышэй Жырафы і дужэй Слана!
Ну, Леў! Цяпер заскачаш, мілы...
Як кахну капытом — дык і хана!
...Назаўтра адбылася іншая карціна —
Стаяла сонца па-над галавой,
Да кіпця скараціўся цень Аслінаі,
Задумаўся глыбока наш «герой»:
— Ці ж не дзівосна?
Учора волатам здаваўся грозным,
А сёння нейкім шчанюком...

Усё адносна,
Залежна пад якім асветлена вуглом.

*7.7.76*

## КАХАННЕ І «ЖЫГУЛІ»

Прузына
Суперстыльная жанчына:
На ёй то парыкі, то фантастычныя прычоскі,
Шыкоўнейшыя ўборы з экзатычных, імпартных тканін,
На шыі, на руках — суцэльны ювелірны магазін,
Замест спадніцы — клёш матроскі,
Нарошчаныя вейкі, педыкюр —
Размаляваная, стракатая, як папугай заморскі,
А ў галаве, даруйце, чмур!
Вядома,
Што яе мужык
Адзін стараўся для сям'і, для дома,
Бо жонцы ён пярэчыць не прывык,
І, як з работы вечарам вяртаўся,
На кухні посуд мыў, з дзіцём важдаўся...

Ды неяк да яго лагодненька Прузына падышла,
Пацалавала соладка, за шыю абвіла:
— Ты ведаеш, мой мілы,
Што я надумала, што я рашыла?
На тэхніку амаль усе суседзі перайшлі,
Машыну мае Крук і Жаба...
А я чым горш? Зірні — якая баба!
Купі мне, коцік, «Жыгулі»!
— Ча-го?! — нібы уджалены, падскочыў муж да столі.—
А можа, самалёт? Ці паравоз?
Ну і падкінуў жартаўніцу лёс!
З табой не пасумуеш, далібог, ніколі...
Я ж інжынерышкам працую радавым,
А едакоў нас трое,
І на акладзе не разгонішся адным,
Жыццё ж у казках толькі залатое...

...Але Прузына ў хаце галава:
— На Месяц хоць ляці, на Марсе хоць вядзі раскопку —
Усё мне трын-трава,
А «Жыгулёнка» падавай, і кропка!

Муж — хап за чамадан,
Падаўся на заробкі
У снежны Магадан!
Лісты спачатку прысылаў, а потым прывітанні,
Нарэшце — аліменты без пасланняў...
Так праваліўся жончын план —

Засталася Прузына-ружа
Без «Жыгулёў»,
Без мужа.
На развітанне
Пару слоў:
Найлепшы капітал — каханне!
Пагонішся за шчасцем казачным нібыта —
І апынешся ля разбітага карыта.

*8.8.76*

## ВОЎК-ДРУЖЫННІК

Воўк у дружыну запісаўся:
«Ну-у, Заяц, пачакай!
Раней выпендрываўся ты, з мяне ўсё пасміхаўся
І за мядзведзевай спіной хаваўся,
Цяперака не выкруцішся, знай,
Не дапаможа й Касалапы,
Патрапіш хутка ў мае лапы!»
І вось на танцпляцоўцы вечарком,
Калі Зайчо з Вавёркаю каленцы выраблялі
Пад модненькі матыўчык «Халі-галі»,
Сустрэўся Даўгавухі нос у нос з Ваўком:
— Ага-а! Папаўся! —
Заклацаў ікламі разлютаваны Воўк.—
Ізноў п'яны? Ізноўку налізаўся?! —
І да каморы Зайца павалок,
Дзе размяшчаўся штаб дружыны.
...Не ведаю, з якой прычыны,
Ці накруцілі добра Зайцу хвост,
Ці рэбры палічылі,
Але цяпер ён танцпляцоўку абмінае за дзве мілі
І за дружыннікаў не агалошвае свой тост...

У воўка — воўчая натура,
А людзі — не звяры.
І штаб дружыны — не баксёрскі рынг,
А месца выхавання і культуры.

*10.8.76*

## АРЭХ І ЖАБА

Па лесе Жаба спакваля скакала
І пільна паглядала навакол,
Яна спажыву для сябе шукала,
А ў гэты час арэх упаў на дол.
— Паслаў мне бог дарунак! —
Заквакала Жабоцька на ўвесь лес.—
Я чула, што арэх — далікатэс,
Найлепшы на зямлі ласунак!
Вось зараз я арэшак раскушу
І пасмакую, адвяду душу!
І, ў рот паклаўшы плод саспелы,
Яго паспрабавала раскусіць,
Напялася, ажно пазелянела,
Але з арэшкам анічога не магла зрабіць.
(Бо Жаба, ведама, зубоў не мела!)
І, выплюнуўшы вон знаходку з раздражненнем,
Раздзёрла
Горла,
Закрычала з абурэннем:
— Ды гэта ж смех,
Пусціў хтось выдумку, як падсадную качку,
Што цуд-прысмак лясны арэх,
А я й паверыла, дзівачка...
Ды гэна ж не ласунак — дрэнь!

Так іншы пачынае абурацца,
Наводзіць цень
На ясны дзень,
Бо сам да сутнасці не можа дакапацца.

*17.8.76*

## ХАМСІСТ

Сталічны Пісарчук,
Цыбаты і падгалы,
Прынёс у друк
Аднойчы мадрыгалы:
«У мяне жаданне і ў цябе жаданне...
А як скласці разам — будзе ў нас каханне!»
Рэдактар прачытаў і пырснуў смехам:
— Бач, адшукаўся Дант!
Ну і пацеха...
Ты ж сам, здаецца, кансультант?
І Пісарчук дапяў:
«Наедку з мадрыгала —
Мала...»
І на сядзібе ён пачаў
Вырошчваць бульбу-валатоўку,
Яе адвозіў сам на Камароўку.
І грошы паплылі, якія не здабыць паэзіі пяром!
А ў вёску са сталіцы
Ён вёз на продаж бочачку хамсіцы
І маладзіцы так казаў баском:
— У мяне кулёчак — у цябе кулёчак...
А як скласці разам — будзе рай-раёчак!
Любка, не вагайся,
Доўга не гадай...
На маёй ты трасе
Шчасцейка шукай!

Напрошваецца гэткая выснова:
У іншага шматгранны дар,
Ён і з хамсы гатовы
Мець навар.

*10.10.76*

## КАРОЛЬ І ПЕШКА

На дошцы шахматнай баталіі ішлі:
У наступ кінуты пяхота, кавалерыя,
З пазіцый скрытых б'е цяжкая артылерыя,
Выкарыстанне тактыка з стратэгіяй знайшлі,
Тут камбінацыі дыпламатычныя і пасткі,
Ледзь празявай — і разаб'юць на часткі...
Спаборніцтва ідзе майстэрства, розуму і сілы!
Ірвуцца радавыя пешкі ў бой,
Вядуць іх доблесныя афіцэры за сабой,
На полі ратным многіх смерць скасіла,
То стогны чуюцца, то пераможны кліч!
Чаргуецца атака з контратакай...
І чорны ўжо Кароль паглядвае на белага, як сыч,
Падлічвае трафеі ды рыхтуе трыумфальны спіч!
Ды нечакана Пешка белая, адчайная рубака,
Варожую прарвала абарону
І Каралю дала адразу шах і мат!

У шахматах як на вайне амаль законы,
Дзе перамогу здабывае радавы салдат.

*12.10.76*

## ЗЯМНЫЯ «ІСЦІНЫ»

З уласнай жонкай не сварыся,
Сваё начальства паважай,
Гарэлкі выпіў — спаць кладзіся
І грошай лепш не пазычай.

Трымай язык свой за зубамі,
Дзе большасць — ты туды кіруй!
І не з сябрамі, а з чынамі
Заўсёды сувязі мацуй.

Наперад, брат, не вытыркайся,
Ў хвасце таксама не брыдзі...
Зрабіў прамашку — дык пакайся
І дурню часам дагадзі.

Цябе заўважаць і ацэняць,
Пасаду хлебную дадуць,
А грызці як пачне сумленне —
Не раскісай. Жалезным будзь!

Калі ж узнімешся угору —
Тады на ўсіх з пагардай чхай!
...Хапаць не трэба з неба зорак,
Ты «ісціны» зямныя знай!

*7.11.76*



## БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Байкапісец Эдуард Валасевіч нарадзіўся 12 сакавіка 1918 года ў горадзе Магілёве. Бацька яго Станіслаў Тамашавіч быў чыгуначнікам: працаваў змазчыкам, слесарам, машыністам вадакачкі, ліцейшчыкам на кальцавай печы. Маці Міхаліна Марцінаўна — хатняя гаспадыня. Сям'я была вялікая — дванаццаць дзяцей. Эдуард быў дзевятым.

Спачатку вучыўся ў чыгуначнай сямігодцы. Калі ў 1935 годзе памёр бацька, ён пайшоў працаваць грузчыкам. Затым паступае на рабфак і на літаратурны факультэт Магілёўскага педінстытута, які заканчвае ў 1941 годзе.

27 чэрвеня 1941 года Эдуард Валасевіч добраахвотна ўступае ў Першы камуністычны знішчальны батальён па барацьбе з варожымі дэсантамі і дыверсантамі. 16 верасня 1941 года ў Бранскіх лясах батальён быў расфарміраваны, і Эдуард Валасевіч накіроўваецца спярша ў 73-ці полк 24-й дывізіі, а пазней — у 2-ю мотастралковую дывізію. 25 мая 1943 года Эдуард Валасевіч быў цяжка паранены і дэмабілізаваны, як інвалід Вялікай Айчыннай вайны.

Пасля шпіталю працаваў старшым навуковым супрацоўнікам Аджарскага архіва ў горадзе Батумі. Калі была вызвалена Беларусь ад нямецкіх захопнікаў, Эдуард Валасевіч восенню 1944 года вяртаецца на радзіму, працуе выкладчыкам Магілёўскага педінстытута, вядзе курс фальклору і рускай літаратуры XX стагоддзя.

Затым пераходзіць на працу ў рэдакцыю абласной газеты «За Радзіму». У 1952 годзе пераязджае ў Мінск і працуе літаратурным работнікам аддзела прозы і драматургіі часопіса «Полымя». У 1959 годзе пераводзіцца ў часопіс «Вожык» загадчыкам аддзела пісем. Нейкі час працаваў рэдактарам рэдакцыі гуманітарных навук выдавецтва «Вышэйшая школа», намеснікам мастацкага кіраўніка па літаратурных пытаннях Беларускай дзяржаўнай філармоніі, дырэктарам Беларускага аддзялення Усесаюзнага Упраўлення па ахове аўтарскіх правоў Саюза пісьменнікаў СССР. З 1974 года займаецца выключна літаратурнай творчасцю.

Эдуард Валасевіч член КПСС з 1949 года. Узнагароджаны шасцю медалямі і Граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

Асноўны жанр Эдуарда Валасевіча — гумар і сатыра.

Ім выдадзены асобнымі кнігамі: «Вершы і байкі», «Залатая рыбка», «Як дбаеш — так і маеш», «Арліны суд», «Свет клінам не сышоўся», «Соль», «На вясёлай хвалі», «З хворай галавы на здаровую», «Камар-званар», «Горкі мёд», «Казёл адпушчэння», «Дняпроўскі чарадзей,» «Байкі», «Туды і рак з кляшнёй», «Сур'ёзна і з усмешкай», «Полюсы».

У Маскве ў выдавецтве «Советский писатель» выйшлі на рускай мове «Басни».

# ЗМЕСТ

## Закаханы мядзведзь

Люстраны
карп

**Туды і рак з кляшнёй**

Галандская
карова

**Валасевіч Э.**

В 15 Рагаты анёл: Байкі.— Мн.: Маст. літ., 1978.— 320 с., іл.

У новую кнігу аўтар уключыў сатырычныя творы, у якіх высмейваюцца заганныя з'явы жыцця. Кніга складаецца з раздзелаў: «Закаханы мядзведзь», «Люстраны карп», «Туды і рак з кляшнёй», «Галандская карова».

В $\frac{70403-091}{М\ 302(05)-78}$ 94—78 Бел 2

Эдуард Станиславович Волосевич

РОГАТЫЙ АНГЕЛ

Басни

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар А. М. Бачыла. Мастак Л. В. Чурко. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар Л. Т. Калюжная.

ІБ № 277

Здадзена ў набор 8.09.77. Падп. да друку 20.04.78. АТ 09670. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школ. Друк высокі. Ум. друк. арк. 16,8. Ул.-выд. арк. 12,82. Тыраж 6000 экз. Зак. 612. Цана 1 р. 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.